## навіны гаспадарскія

**РАСЕЙСКІ РУБЕЛЬ,** згодна з прагнозамі кіраўніка Нацбанку Пятра Пракаповіча, будзе ўведзены ў Беларусі ў 2005 г. Гэта азначала б поўную страту краінай эканамічнага сувэрэнітэту і разьвітаньне з надзеяй на далучэньне да Эўразьвязу. Раней беларускія ўлады хацелі стварыць новую супольную валюту Беларусі і Расеі ці ў горшым выпадку атрымаць роўныя правы на друк расейскага рубля. Зараз, па словах Пракаповіча, урад пагадзіўся з патрабаваньнямі расейцаў аб адзіным эмісійным цэнтры.

**“ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ” НАДБАЎКІ** вырасьлі на трацінy. Цяпер у “зонах” з радыяцыяй ад 5 да 10 кюры на чалавека плацяць 1111 руб., ад 10 да 40 кюры — 1441 руб., а дзе больш за 40 кюры — 2160 руб. штомесяц.

**ПАДАРАЖЭЛА СТАЎКА** за карыстаньне крэдытамі Нацбанку. Раней яна складала 48% у год, цяпер — 66%. Падвышаючы кошт беларускіх грошай, урад спрабуе зьбіць рост курсу даляра. Пакрысе ідзе вяртаньне да некалькіх курсаў валютаў — рынкавы курс даляра ужо на 5% большы, чым у Нацбанку.

**НА 5% ПАТАНЬНЕЎ БЭНЗЫН** на аўтазапраўках дзяржаўнага канцэрну “Белнафтахім”. У канцэрне гэта тлумачаць зьніжэньнем сусьветных цэнаў на нафту.

**ШТРАФАВАЦЬ** за засыпаныя сьнегам аўтамабілі і пляцоўкі вакол іх распачнуць у Менску. Штраф складае ад 1 да 3 мінімалак.

**УВОДЗІЦЦА БАНКНОТА 20 ТЫСЯЧ** рублёў. На галоўным баку банкноты зьмяшчаецца выява палацу Паскевічаў у Гомелі. З адваротнага боку — рэпрадукцыя карціны “Выгляд палацу й парку” архітэктара Адама Ідзкоўскага, аўтара праекту перабудовы палацу. Банкнота ў 10 тыс. рублёў была ўведзеная ў абарачэньне 16 красавіка 2001 г.

**КРЭДЫТЫ Ў ДАЛЯРАХ** хутка змогуць атрымаць для будаўніцтва ці набыцьця жылля грамадзяне Беларусі. Банкаўскія крэдыты ў валюце будуць выдавацца з наступным яе продажам на біржы. Атрыманыя ад продажу замежнай валюты беларускія рублі павінны накіроўвацца ў безнаяўным парадку на мэты, прадугледжаныя крэдытнай дамовай, не трапляючы на рахунак крэдытаатрымальніка. Вяртаць пазыку і працэнты можна будзе як у безнаяўнай форме, так і гатоўкай.

**АЭРАПОРТ “МЕНСК-1”** аднавіць рэйсы ў Вільню, Рыгу, Кішынёў, Калінінград, Варонеж, Арол ды Белгарад. Рэйсы туды скасавалі ў 1995—96 г., бо попыт на іх быў малы.

**СВАБОДНЫМІ ЗРОБЯЦЦА ЗАКУПАЧНЫЯ ЦЭНЫ** на сельгаспрадукцыю, кажа міністар сельскай гаспадаркі сп.Русы. Адбудзецца гэта ўвесну. Але сёлета, папярэдзіў міністар, урад ня сыпша даўгоў калгасам і саўгасам.

**БЯЗ ФОСФАРНЫХ УГНАЕНЬНЯЎ** могуць застацца вяскоўцы. Адзіны іх вытворца ў Беларусі, Гомельскі хімзавод, амаль спыніўся, бо вінен расейцам за апатыты пад 2 млн. даляраў. У сваю чаргу, з заводам не разьлічыліся калгасы й саўгасы.

**ПАДАРАЖЭЛА ГАРЭЛКА, ІНФЛЯЦЫЯ СКОКНУЛА.** Цана беленькае падвысілася на 2,5%. Зараз бутэлька “Крышталю-100” абыдзецца пасьпалітаму беларусу ў 2102 рублі, “Белай Русі” і “Крышталю-люкс” — 2171 руб., “Белай Русі-люкс”, “Крышталю-люкс новага” — 2249 руб. Агульны рост цэнаў за першы тыдзень студзеня склаў 1,8%. У Кіргізіі за ўвесь мінулы год рост цэнаў быў усяго ўдвая большы.

**ЛІБАНЦЫ КУПІЛІ ЧВЭРЦЬ “ПЛЯНЭТЫ”.** 25% акцыяў менскага ААТ “Гатэль “Плянэта” прададзена лібанскай фірме “Рубі Роўз Груп”. Лібанскія інвэстары плянуюць праз тры гады зрабіць “Плянэту” як мінімум 4-зоркавым, а калі менскія ўлады дазволяць зрабіць прыбудову, дык і 5-зоркавым гатэлем. Тая самая група набыла частку акцыяў унівэрсаму “Сталічны”.

**Сяржук Іваноўскі і ўл.інф.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК



## Аднавілі “лаву Клінтана”

**15 студзеня ў Курапатах адбылася цырымонія адкрыцьця мэмарыяльнай лавы, падараванай Білам Клінтанам падчас яго нага візыту ў Беларусь у студзені 1994 г. Лаву разьбілі ўлетку невядомыя зладзеі. Адрэстаўраваў яе аўтар, скульптар Алесь Шатэрнік. У месцы, дзе яна была разламаная напалам, скульптар паклаў бронзавы вянок, а побач паставіў мэмарыяльную пліту з тэкстам на беларускай і расейскай мовах: “Гэты мэмарыяльны знак быў падараваны беларускаму народу прэзыдэнтам Злучаных Штатаў Амэрыкі Ўільямам Джэфэрсанам Клінтанам 15 студзеня 1994 году. Пашкоджаны невядомымі вандаламі ўлетку 2001 году, адрэстаўраваны і пераўсталяваны 15 студзеня 2002 году амбасадарам Злучаных Штатаў Амэрыкі Майклам Козакам”. Пасол ЗША вылучаўся сярод шматлікіх пэрсанажаў беларускае палітычнае сцэны, прысутных на адкрыцьці аднoўленага памятнага знаку-лавы ў Курапатах. Палітык, якога адносьлкава проста можна ўявіць і на трыбуне кангрэсу, і ў засьнежаным урочышчы. Увасобленая прадстаўнічасьць, саліднасьць, адпаведнасьць іміджу краіны, якую ён прадстаўляе. Нават калі дзеля апошняга даводзіцца разьвітацца зь цёплым кажушком на час выступу. У сваім выступе пасол адзначыў, што людзі розных нацый і канфэсіяў, зьнішчаныя ў Курапатах, сталі ахвярамі ўлады, прычым многія з пахаваных тут самі працавалі на гэтую ўладу. “Дэмакратычныя сыстэмы, якія настойваюць на празрыстасьці й адкрытасьці, зьяўляюцца найлепшай абаронай ад такіх жахлівых злачынстваў”, — адзначыў пасол. Козак таксама выказаў падзяку народу Беларусі за спачуваньні ў сувязі з гібельлю ў Нью-Ёрку тысячаў невінаватых людзей. Намесьнік міністра замежных справаў Беларусі Аляксандар Сычоў назваў узнаўленьне памятнага знаку адной з найбольш значных датаў у гісторыі стасункаў паміж Беларусяй і ЗША. Падчас хвіліны маўчаньня пасол ЗША запаліў сьвечку ў памяць пра загінулых, а дзіцячы хор менскага Чырвонага касьцёлу выканаў гімн “Магутны Божа” на словы Натальлі Арсеньневай. На цырымоніі прысутнічаў былы старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Станіслаў Шушкевіч, які браў удзел у адкрыцьці мэмарыяльнай лавы ў 1994 г., прадстаўнікі беларускага ўраду, дыпляматычнага корпусу, рэлігійныя дзеячы, лідэры палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, а таксама валанцёры, якія нясуць вахту ў Курапатах у сувязі з будаўніцтвам Менскай кальцавой дарогі.**

**А.Ч.**

сэнсацыя

## “Магутны Божа” стане гімнам?

У аўторак рабочая камісія пад кіраўніцтвам віцэ-прэм'ера Ўладзімера Дражына зацьвердзіла ўмовы конкурсу на словы і музыку новага гімну РБ. Да 1 красавіка грамадзкія арганізацыі, творчыя саюзы і простыя грамадзяне могуць прадстаўляць у камісію свае варыянты. Пяць найлепшых будуць запісаныя духавым аркестрам. Пасьля з гэтых пяцёх будуць выбраныя тры і, урэшце, з трох — адзін найлепшы.

Новы беларускі гімн мусіць упершыню прагучаць на сьвяткаваньні 3 ліпеня. У інтэрвію Беларускай тэлевізіі міністар культуры Леанід Гуляка ня выключыў, што музыка гімну застанецца ранейшай, а словы будуць новыя. У свой час гэтак быў прыняты цяперашні расейскі гімн.

Крыніцы ў Міністэрстве культуры не выключаюць, што на музыку Н.Сакалоўскага будзе прапанавана пакласьці тэкст “Магутны Божа” Н.Арсеньневай.

**Мікола Бугай**

## Сьмяротныя драты

**5 чалавек забіла токам летась падчас крадзяжоў электраабсталяваньня.** Агулам грамадзяне Беларусі ў 2001 г. “прыватызавалі” 130 тонаў алюміневага дроту, 39 трансфарматараў, 23 лініі электраперадачаў — агульным коштам каля 400 тыс. даляраў.

## Салігорскія шахцёры пагражаюць страйкам

**5 тыс. салігорскіх шахцёраў зладзілі на мінулым тыдні мітынг пратэсту супраць пастановы Саўміну, што забараніла безнаяўнае пералічэньне прафсаюзных грошай.** На мітынгу быў і новы старшыня ФПБ Франц Вітко. Шахцёры патрабуюць адмяніць рашэньне Савету міністраў да 1 лютага. Калі не — пагражаюць правесьці папераджальны 5-хвілінны страйк.

**Э.Л.**

Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа запрашае на Дзень адчыненых дзьвярэй, які адбудзецца падчас сьвяткаваньня Ўгодкаў ліцэю 15 студзеня 2002 г. па адрасе: Менск, вул.Кірава, 21 ад 10-й да 15-й гадзіны.

Запрашаюцца ўсе, хто жадае азнаёміцца зь дзейнасьцю ўнікальнай навучальнай установы.

камэнтар рэдакцыі

# Ганьба: Калугін у Навінках

Былога дырэктара заводу халадзільнікаў Леаніда Калугіна зьмясьцілі ў псыхіятрычную клініку ў Навінках. Робяць экспэртызу. Нават адвакатаў пра гэта не папярэдзілі, хоць мусілі б. Такая ў нас законнасьць.

Не сакрэт, на што Калугіна правяраюць: а ці ўсё ў яго ў парадку з галавой, што ён “такі праваслаўны”?

У Гомелі быў выпадак, калі сыну вядомай беларускай сьпявачкі псыхоляг у дзіцячым садку паставіла дыягназ “разумовая адсталасьць” толькі таму, што ён гаварыў па-беларуску, а па-расейску ня ўмеў. Вытанчаны зьдзек з Калугіна — зь іншай сфэры. Гэта нагадвае 70-я, калі ў краіне разьвітога сацыялізму прынцыпова, бескампраміснаму марксісту таксама месца было толькі ў лякарні. Бо марксізм тады, як цяпер праваслаўе, быў толькі шырмай, казкай для народу.

Беларускі чыноўнік ня мае права гаварыць па-беларуску — хіба што рытуальна, ня мае ён права і верыць у Бога — хіба што для абраду. Чыноўнік ня мае сёньня права на гонар. Ня мае яго і царква. Інакш Мітраполія не цярпела б моўчкі, калі чалавека здаюць на псыхэкспэртызу толькі за тое, што ён утрапёны вернік.

І ва ўладных, і ў апазыцыйных колах можна пачуць: ну і добра, што Калугіна арыштавалі, што Лукашэнка прыцісну ў гэтых праваслаўных, бо “праваслаўная партыя — гэта яшчэ страшней за Лукашэнку”, кажуць некаторыя нацыянал-дэмакраты. “Бо яна можа пadарваць сувэрэнітэт краіны”, — такія думкі можна пачуць ад супрацоўнікаў прэзыдэнцкіх аналітычных структураў. І вось ужо лакеі ад журналістыкі сьпяшаюцца абліць брудам чалавека, якога раней 10 гадоў ставілі ў прыклад і ў псыхічнай паўнавартасьці якога не сумняваліся.

Рэдакцыя спадзяецца, што такія дурныя думкі не пераважаць і што беларускія праваабарончыя арганізацыі зробяць усё, каб пры расьсьледаваньні эканамічных злачынстваў ніхто не таптаў гонару й годнасьці падсьледных.

Наш час шмат чым нагадвае 70-я. І гэта сьведчыць, наколькі хісткая вонкавая стабільнасьць сёньняшняга ладу. Рассыпецца ўся гэтая вэртыкаль няпраўды, нібы Савецкі Саюз. Бо на ганьбе пабудаваная, на несправядлівасьці.

Гэта цяпер здаецца, што выпадкі з сынам беларускамоўнай сьпявачкі і дырэктарам заводу халадзільнікаў лучыць толькі беспакаранасьць тых, што зьдзекуюцца. Але не заўжды так будзе. У беларускім Грамадзянскім кодэксе напісана, што справы па абароне гонару і годнасьці ня маюць тэрміну даўнасьці. Што праз 10, 15, 20, 30 гадоў зьнявага можа быць пакараная судом. І нават калі бацькоў закатуюць, дык права на абарону гонару і годнасьці пераходзіць да дзяцей.

## з усёй краіны

## Безабаронны анёл-абаронца

**Скульптура “Анёл-абаронца”, зробленая скульптарам Голубевым, была дэмантаваная з аршанскіх брацкіх воінскіх могілак па вул. Пралетарскай.** Такое рашэньне ўлады Воршы прынялі пасьля таго, як помнік пачалі паціху расьцягваць ахвотнікі да дармавога каляровага мэталу. Спачатку зьнікла сьвечка, якую анёл трымаў у руцэ, потым — адно за адным — крылы, рукі, ступакі. Каб спыніць працэс зьнішчэньня скульптуры, яе зьнялі з пастамэнту і адвезьлі ў музэйнае сховішча. Цяпер думаюць, што рабіць з помнікам: захаваць як сымбаль нашага бязглуздага часу і экспанаваць у музэі або ўсталяваць аднoўленую скульптуру ў офісе гарадзкога аб'яднаньня “Ахова”. Пра вяртаньне анёла на ранейшае месца нават гаворкі няма.

## Каштоўнасьць з крыламі

**Гістарычна-культурнай каштоўнасьцю абвешчаны “Помнік дальняй авіяцыі — самалёт ТУ-16”,** які ў 1987 г. быў усталяваны ў ваенным гарадку Балбасава пад Воршай. ТУ-16 — першы савецкі рэактыўны стратэгічны бамбавальнік, які мог несьці ядзерную зброю.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

## Школаў менее

**Ужо сёлета на Астравеччыне плянуюць закрыць пяць пачатковых школак і адзін дзіцячы садок.** Летась гэткі самы лёс напаткаў дзьве школы. Закрываюць іх з-за недахопу грошай. Крыўдна й тое, што ўсе гэтыя школы вясковыя і навучаньне ў іх вядзецца па-беларуску.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

## Дзікуны ў Валожыне

**За чатыры дні да Новага году ў Валожыне памерла 82-гадовая Марыя Шакун.** Мужа і дзяцей у яе не было, і хаваць яе ўзялася пляменьніца-алькагалічка. Яна і атрымала матэрыяльную дапамогу на хаўтуры. Цяжка сказаць, што яна рабіла тыдзень, але хаваць цётку наважылася толькі 4 студзеня. Труну зь целам занесла на могілкі й крыху прысыпала сьвежым сьнегам. Закапалі труну ўражаныя дзікунствам валожынцы.

**Паводле “Рэгіянальнай газэты”**

## Асьвяцілі дом дырэктара

**Каталіцкая царква актывізавала працу з насельніцтвам усходняе Беларусі.** Так, у вёсках Фашчаўка й Княжыцы мясцовыя жыхары зрабілі часовыя капліцкі, дзе праводзіць службы ксёндз шклоўскага касьцёлу Сьв.Пятра і Паўла Аляксандар Багдановіч. А ў Фашчаўцы ўпершыню за апошнія 70 год быў асьвечаны дом, прычым не абы-каго, а дырэктара саўгасу й сябра ПКБ.

**Аляксандар Шчарбак, Шклоў**

## Парушальнікі хуткасьці не праскочаць

**У асобным батальёне дарожна-патрульнай службы Берасьцейскай абласной ДАІ зьявіліся новыя радары, здольныя вылучыць з плыні машынаў адразу некалькі парушальнікаў хуткасьці.** Ранейшая тэхніка дазваляла сачыць толькі за адным аўтамабілем.

## Талачня па таннае

**Ледзь не разьнесьлі пакупнікі пінскую фірмовую краму Баранавіцкай птушкафабрыкі “Дружба”, дзе ішла рэалізацыя 20 тонаў танных куранятаў.** Тавар нават не вынасілі ў ганддёвую залю, а прадавалі з чорнага ходу, старыя дзьверы якога ледзь стрымлівалі напор натоўпу багатых аматараў курыных кумпячкоў.

## На прарыў

**У мінулым годзе берасьцейскія памежнікі затрымалі 375 парушальнікаў мяжы і 158 нелегальных мігрантаў.** Часьцей за ўсё нелегальна спрабавалі перайсьці мяжу жыхары Малдовы (іх затрымалі 65 чалавек) і Віетнаму (40).

**І.Хведаровіч, Кобрынь**

# Арышт Лявонава: афіцыйная вэрсія

**"Справай Лявонава" праваахоўныя органы краіны займаюцца ўжо каля году. Спачатку расьследаваньне вёў 9-ы аддзел УКДБ па Менску і Менскай вобласьці, што адказвае за бясьпеку на транспарце. Пытаньні ўзьніклі зь перавозчыкамі, якія транспартавалі беларускія трактары за мяжу.**

МТЗ экспартуе сваю прадукцыю ў дзясяткі краінаў, таму пытаньне зь перавозчыкамі для прадпрыемства — першачарговае. Фірмы-перавозчыкі ўсяго сьвету, у тым ліку чыгуначныя, аўтамабільныя і марскія, таксама ня супраць заключыць кантракты з найбуйнейшым прадпрыемствам краіны. Таму на МТЗ быў праведзены тэндэр на гэтыя кантракты. На думку праваахоўных органаў, перамаглі ня тыя фірмы, якія прапаноўвалі найбольш выгадныя для МТЗ умовы, а тыя, што пагадзіліся плаціць штомесячна хабар кіраўніцтву заводу. Пра гэта і стала вядома КДБ. І трактарны завод "узялі ў распрацоўку".

У пракуратуры сьцьвярджаюць, нібыта на заводзе настолькі набраліся нахабства, што зьбіралі даніну амаль афіцыйна. Кожны месяц некалькі супрацоўнікаў аддзелу, што займаецца кантрактамі зь перавозчыкамі, бралі камандзіроўку і з валізкамі аб'яжджалі ўсіх-усенькіх дзелавых партнэраў. У канцы вандроўкі ў іх набіралася вялікая сума грошай. Колькі зь іх атрымліваў і ці атрымліваў увогуле непасрэдна Лявонаў, сьледзтва пакуль ня ведае.

Пасьля таго як супрацоўнікі 9-га аддзелу УКДБ па Менску і Менскай вобласьці раскрылі гэтую схему, справай занялася пракуратура Беларусі. Новыя эпізоды пачалі зьяўляцца так хутка, што нават спатрэбілася ўзмацніць сьледчую групу супрацоўнікамі ніжэйшых падразьдзяленьняў пракуратуры. Што канкрэтна маюць зараз на руках сьледчыя, у пракуратуры ня кажуць, але адназначна сьцьвярджаюць, што Лявонаў можа трапіць у турму. Па нашых зьвестках, зараз у справе налічваецца каля 15 эпізодаў, дзе фігуруюць сумы ў сотні тысячаў даляраў. Камітэт дзяржкантролю ўвогуле налічыў шкоды на 4 млн. даляраў, але яны, фігуральна кажучы, не дайшлі яшчэ да крымінальнай справы. Найбліжэйшым часам, паводле зьвестак з пракуратуры, пачнуцца чарговыя арышты па "справе Лявонава". Іх будзе ня менш за пяць. Галоўнае для супрацоўнікаў КДБ — не ўпусьціць сваіх "кліентаў". Бо ўцёкі Лявонава амаль атрымаліся. Уцёкамі яны называюць ягоную паездку ў Маскву.

За Лявонавым было ўсталяванае патаемнае вонкавае назіраньне. Яго "вялі" некалькі месяцаў, выяўлялі, з кім і калі ён сустракаецца й ці не зьбіраецца ўцячы за мяжу. На Каляды Міхаіл Лявонаў з чалавекам моцнага целаскладу, нібыта грамадзянінам Ізраілю, раптам паехаў на чыгуначны вакзал і сеў у маскоўскі цягнік. З той прычыны, што пра такую паездку дырэктара МТЗ супрацоўнікі КДБ ня ведалі, яны западозрылі, што Лявонаў з Масквы ў Беларусь болей ня вернецца. Але цяжкасьць была ў тым,


IREX-PROMEDIA
Міхаіл Лявонаў

што спэцслужбы не маглі арыштаваць дырэктара МТЗ бяз санкцыі пракурора. Пакуль санкцыю на арышт падпісаў адзін з намесьнікаў Шэймана, Лявонаў ужо пасьпеў пад'ехаць да Воршы.

У Воршы Лявонава затрымалі супрацоўнікі аддзелу транспартнай міліцыі, і толькі пасьля прыбылі прадстаўнікі КДБ. Транспартная міліцыя, звыклая лавіць толькі "зайцоў" ды дэбашыраў, быццам бы аказалася практычна не гатовая да затрыманьня такога важнага чалавека. Калі Лявонаў расправіў свае плечы і ў моцных выразах даў зразумець міліцыянтам, каго яны затрымалі, тыя ўвогуле перапалохаліся. Аднак затрыманых не адпусьцілі. Як расказваюць міліцыянты, калі камітэтчыкі паказалі дырэктару МТЗ свае пасьведчаньні і санкцыю на арышт, той адразу зьвяў, зьбялеў бялей сьнегу. Супрацоўнікі пракуратуры сьцьвярджаюць, што ў Лявонава знайшлі пашпарт зь ягоным фотаздымкам, але зусім іншымі імем і прозьвішчам. Менавіта гэты дакумэнт дае супрацоўнікам КДБ падставу думаць, што дырэктар заводу імкнуўся нелегальна пакінуць краіну.

Пакуль незразмела, хто той чалавек, які суправаджаў Лявонава падчас уцёкаў. Паводле адной інфармацыі, гэта ягоны асабісты целаахоўнік, якога дырэктар наняў пасьля няўдалага кантракту з чачэнцамі. Паводле другой — гісторыю з чачэнцамі прыдумаў сам Лявонаў, каб патлумачыць прысутнасьць пры ім ахоўніка. А той быў зусім не ахоўнікам, а праваднiком, які павінен быў забясьпечыць выезд апальнага дырэктара за мяжу. Міхаілу Лявонаву можа быць прад'яўлена абвінавачаньне па арт.428 ("Службовая халатнасьць") і арт.424 ("Злоўжываньне ўладай ці службовым становішчам") Крымінальнага кодэксу Беларусі.

**Паводле *Белорусской деловой газеты***

# Арышт: вэрсія сям'і

Генэральны дырэктар МТЗ Міхаіл Лявонаў, як паведамлялася, быў затрыманы 8 студзеня. У той самы дзень супрацоўнікі праваахоўных органаў правяліператрусы ў ягонай кватэры, гаражы і на лецішчы. А 10 студзеня апісалі маёмасьць. Пры гэтым абвінавачаньне затрыманаму дагэтуль не прад'яўлена.

Жонка і адвакат М.Лявонава ў інтэрвію "Народнай волі" тлумачаць ад'езд Лявонава ў Маскву неабходнасьцю кансультацыі ў дактароў. Паводле іхных словаў, нібыта "падробныя дакумэнты", зь якімі яго затрымалі, гэта ўсяго толькі білет на іншае імя, паколькі купляў яго ня сам Лявонаў, а шафёр ягонага сябра.

Алена Лявонава, жонка былога дырэктара, упэўненая ў невінаватасьці мужа. Паводле ейных словаў, Лявонаў, забываючы пра сям'ю, аддаваў працы ўвесь свой час, рабіў усё, каб сытуацыя на заводзе была спрыяльнай і людзям своечасова выплачваўся заробак. Завод няспынна правяралі розныя інстанцыі. Аднаго разу Лявонаў сказаў жонцы: "У гэтай краіне мне толькі дзьве дарогі — або ў турму, або на могілкі".

Асабліва часта прыдзіраццa пачалі пасьля таго, як перад выбарамі Міхаіла Лявонава згадалі ў ліку верагодных кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта Беларусі — людзей, якія сваім розумам і працай здолелі шмат чаго дасягнуць. Хоць, як сьцьвярджае Алена Лявонава, яе муж ніколі на гэтую пасаду не прэтэндаваў.

10 студзеня Лявонаву адмовілі ў вызваленьні пад падпіску аб нявыезьдзе. Намесьнік генпракурора паабяцаў паўторна разгледзець гэтае пытаньне праз сем дзён.

## навінка

## Новы зборнік "Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 году",

падрыхтаваны аналітычнай групай пад кіраўніцтвам Валера Булгакава, ня мае і ня меў падобных у Беларусі. У кнізе аналізуюцца палітычныя працэсы ў Беларусі ад 1990 да 2001 г., пішацца пра ўсе палітычныя партыі і ўсіх вядомых палітыкаў краіны. Палова кнігі прысьвечаная непасрэдна розным аспэктам леташняе барацьбы — кампаніям апазыцыі і Лукашэнкі, дынаміцы грамадзкай думкі і ўрокам выбараў. Прыемна, што сярод аўтараў кнігі — сталыя аўтары "НН".

Пытайцеся ў незалежных распаўсюднікаў, бо ў кнігарні яе наўрад ці прапусьцяць.




# Юркоў у Дрыбіне

**Новы год экс-дырэктар саўгасу "Дрыбінскі", адзіны кіраўнік сельскагаспадарчага прадпрыемства, які не баяўся ўваходзіць у кіраўнічыя структуры беларускай апазыцыі, сустрэў у коле сям'і.**

Для Юркова гэта рэдкая раскоша, бо пасьля таго, як яго сёлета звольнілі за палітыку, ён вымушаны працаваць далёка ад дому. На навагоднія сьвяты ён прыехаў з Расеі, з Чэбаксараў, дзе ўзначальвае карпарацыю "Аграсаюз". Яна аб'ядноўвае вытворцаў сельгаспрадукцыі, раскіданых па ўсёй Чувашыі. Юркоў як мэнэджэр каардынуе дзейнасьць гэтых прадпрыемстваў, а як экспэрт павінен прадугледжваць эфэктыўнае ўкладаньне крэдытаў у гэтыя прадпрыемствы і іх вяртаньне. Крэдыты няўрадавыя, іх далі бізнэсоўцы, што вырашылі ўкласьці сродкі ў аграбізнэс. Прэзыдэнт Чувашыі гэты працэс падтрымлівае. У раёнах адміністрацыя мяркуе па-рознаму, але з прэзыдэнцкай пазыцыяй лічыцца. Юркоў кажа, што сельская гаспадарка Расеі і непасрэдна Чувашыі ўжо адштурхнулася ад дна, пачала атрымліваць інвэстыцыі. Пра свае посьпехі на новым полі дзейнасьці ён гаворыць без ахвоты. Паводле ягоных словаў, цяпер ідзе "прыцірка" да пасады.

**Сяргей Мурзін, Дрыбін**

## навіны за тыдзень

### Карпенкі эмігруюць

**Сям'я Генадзя Карпенкі папрасіла палітычнага прытулку ў Нямеччыне.** Удава палітыка Людміла Карпенка кажа, што ня мае больш моцы жыць у Беларусі.

### Паседжаньне КСАПП

**Учора Кансультацыйны савет апазыцыйных палітычных партыяў (КСАПП) зацьвердзіў асноўныя палажэньні сваёй абноўленай пляцформы.** Галоўнай сваёй мэтай КСАПП лічыць правядзеньне ў краіне свабодных і справядлівых выбараў: парлямэнцкіх, прэзыдэнцкіх, мясцовых, а дзеля гэтага трэба наладзіць дыялёг паміж уладай і палітычнай апазыцыяй.

### Грамадзкасьць крытыкуе стан Белавежы

**Прадстаўнікі "Асацыяцыі беларускіх зялёных", Беларускага таварыства аховы прыроды, Беларускага геаграфічнага таварыства, "Хартыі'97", БХК, цэнтру "Вясна" і руху "Зубр" заклікалі Раду Эўропы не працягваць дзеяньня дыплёму нацыянальнага парку "Белавеская пушча".** Бо, маўляў, замест таго каб ахоўваць Белавескую пушчу, беларускія ўлады няспынна эксплюатуюць ейныя багацьці.

### Ва Ўнутраных — паўтара году

**Чаканае скарачэньне тэрміну вайсковай службы не закране Ўнутраных войскаў МУС.** Падрыхтоўка маладога чалавека да службы па ахове грамадзкага парадку, барацьбе са злачыннасьцю, канваяваньні злачынцаў займае нямала часу, і, калі скараціць тэрмін да году, на ўласна службу застанецца ўсяго два-тры месяцы. Разам з тым кіраўніцтва МУС выказваецца за павелічэньне ва Ўнутраных войсках колькасьці кантрактнікаў.

### Перастаноўкі ў Мінабароны

**Шэраг кадравых зьменаў адбыўся ў Міністэрстве абароны Беларусі.** 10 студзеня прэзыдэнт прызначыў палкоўніка Генадзя Шаўрова начальнікам ракетных войскаў і артылерыі Ўзброеных сіл; палкоўніка Мікалая Скобелева — камандзірам 11-й гвардэйскай асобнай мэханізаванай брыгады Ўзброеных сілаў; генэрал-маёра Сяргея Багдасарава — начальнікам Менскага суvoраўскага вучылішча. Палкоўнік Шаўроў да прызначэньня быў начальнікам аддзелу галоўнага арганізацыйна-мабілізацыйнага ўпраўленьня Мінабароны, палкоўнік Скобелеў — камандзірам 30-й брыгады захоўваньня ўзбраеньня і тэхнікі Мінабароны (Мар'іна Горка), генэрал Багдасараў — камандзірам 51-й цэнтральнай групы артылерыйскага ўзмацненьня (Асіпавічы).

### Мытнікі будуць змагацца за зоркі

**Старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэту Беларусі Аляксандар Шпілеўскі мяркуе, што супрацоўнікі беларускіх мытняў павінны мець афіцэрскія званьні.** На ягоную думку, магчымасьць "змагацца за зоркі" будзе добрым стымулам для супрацоўнікаў мытняў і зробіць іх больш згуртаванымі. Пакуль жа супрацоўнікі гэтых службаў называюцца дарадцамі.

**Э.Л.**



## цытаты тыдня

### Русафілы хочуць жыць там, дзе Ўсяслава разьбілі

У слаўным СП ААТ "СЕН" працуе па сумяшчальніцтве мэнэджэр Замяталін Д.У. (сын былога першага намесьніка кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта Замяталіна У.П.). Напэўна, прыстаўка "экс" паслужыла асновай для таго, каб гэтае паважанае прозьвішча сталі скланяць у даведках КДК, раптам зьвярнуўшы ўвагу на тое, што мэнэджэр-сумяшчальнік Замяталін Д.У. атрымаў у дадзеным прадпрыемстве беспрацэнтную пазыку на пакупку ў 2000 г. кватэры па вул.Няміга.

***Белорусская газета*, № 1, 8 студзеня. "*Контрольная проба*"**

### Прызналіся. Ці выправяцца?

Пакуль ішла інтэграцыя аўтарытарнай Беларусі з імпэрскай Расеяй, якая затаіла крыўду на Захад, паводле ацэнак заходніх экспэртаў, пераважаў адмоўны ўплыў на стан эўрапейскай бясьпекі.

**Звязда, № 4, 10 студзеня. Гутарка зь Мечыславам Часноўскім**

# Яўген Кулік



Апошні прыжыцьцёвы здымак. Яўген Кулік на выставе Аляксея Марачкіна.

Працяг са старонкі 1.

Нарадзіўся ён у Менску 31 кастрычніка 1937 г. Па вайне скончыў Менскую мастакоўскую вучэльню, а пасьля тагачасны Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Ад 1963 г. ён браў удзел у мастацкіх выставах.

Яўген Кулік ужо пры канцы 60-х быў вядомым кніжным графікам. Ён адзін зь першых прымяніў пры ілюстраваньні кнігаў прынцып каляжу, дзе нечакана для тае пары скарыстаў фота, друкарскія шрыфты й уласныя малюнкі. Першымі кнігамі, якія ён аздабляў, былі "Чарнічка" Артура Вольскага, збор Багдановічавай паэзіі "Маладзік", падручнік "Беларуская мова", па якім вучыліся тысячы й тысячы дзяцей.

Яўген Кулік заўсёды быў паважлівы да малых. Дзеці, пляменьнікі і ўнукі ягоных блізкіх будуць заўжды згадваць пра яго зь пяшчотаю. Дзе б ён ні быў, дзеці выяўлялі да яго цікавасьць, а ён да іх — дабрыню. Сваім настаўнікам яго сёньня могуць назваць сотні людзей. Гэта тлумачыцца таксама й тым, што Кулік быў надзвычай адукаваным чалавекам, асабліва ў пытаньнях беларушчыны. Тут да ягонае эрудыцыі мала хто мог дараўнацца.

Яўген Кулік быў вельмі мужны. Адкрыты і шчыры, ён не прымаў аніякага канфармізму, у першую чаргу ў справах беларускіх, і доўгія гады быў эталёнам маральнасьці для свайго атачэньня. Гэта ў ягонай майстэрні, што месьцілася на праспэкце насупраць будынку КГБ, у 60-я ўтварыўся нефармальны нацыяналістычны асяродак, што ад месцазнаходжаньня майстэрні атрымаў жартоўны назоў "На паддашку". Людзі з таго асяродку, сябры Яўгена Куліка, пазьней ачолілі беларускі вызвольны рух, зрабіліся лідэрамі Беларускага Народнага Фронту. А сам мастак у 1991 г. быў сярод тых, хто распрацоўваў дзяржаўныя сымбалі новае Беларусі — бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня". Дзіва што большую частку свайго жыцьця ён пражыў пад пільнаваньнем КГБ.

Зь ягонага творчага даробку варта згадаць унікальныя графічныя нізкі "Помнікі дойлідства Гарадзеншчыны", "Замкі Беларусі", "Паўстаньне 1863 году ў Беларусі", якімі творца запачаткаваў цэлую плынь у беларускім мастацтве. Менавіта ад ягоных твораў бярэ пачатак гістарызм паваеннае пары. Ён аформіў у 70—80-я дзясяткі кніжак. Найлепшымі зь іх былі "Слова аб палку Ігаравым", "Мушка-зелянушка і Камарык-насаты тварык" Багдановіча, "Ад гоману бароў" Александровіча, "Сонечны клубочак" Зуёнка. Але сапраўдным шэдэўрам Яўгена Куліка стала кніга "Песьня пра зубра" Міколы Гусоўскага. Ягонаму стылю былі ўласьцівыя ляканічнасьць, вельмі дакладны адбор мастацкіх сродкаў, глыбокае пранікненьне ў вобразы. Куліка вылучала надзвычайная мастацкая культура й дасканалае майстэрства. Цьвёрдай рукою, выводзячы адну толькі непарыўную рысу, ён мог намаляваць і краявід, і бажніцу, і замак.

Абсяг ягоных творчых зацікаўленьняў быў вялікі — ад рэканструкцыяў гербаў беларускіх гарадоў да краявідаў мясьцінаў, зьвязаных з жыцьцём Язэпа Драздовіча, дзеля захаваньня памяці пра якога ён зрабіў надзвычай шмат. Дзякуючы Куліку й ягоным сябрам у беларускую культуру, апроч Драздовіча, было вернутае імя мастачкі Алены Кіш, якой мастак гэтаксама прысьвячаў свае творы.

Вечная памяць.

**Сяргей Харэўскі**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Кальварыйскія могілкі. Апошні шлях.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Падчас адной зь ягоных паездак па Беларусі. Паміж Мірам і Нясьвіжам. У дзень сьмерці Караткевіча. 1984 г.

# Памёр Алег Янчанка

## *Чалавек, які наноў адкрыў нам арган*



Кампазытар, арганіст, пэдагог. Калярытная асоба, якую згадваюць у кожнай гутарцы пра музычны Менск 60-х.

13 красавіка 1963 г. урачыста адчынілася Канцэртная заля філярмоніі. У ёй усталявалі вялізны чэскі арган. Для менчукоў гэты інструмэнт быў дзівам: бальшавіцкая ўлада даўно ўжо паразьбівала арганы ў большасьці касьцёлаў. У Беларускай кансэрваторыі арганістаў тады не вучылі (дый цяпер ня вучаць). Таму напярэдадні першага канцэртнага сэзону, які распачаўся 21 верасьня 1963 г., прыбыў у Менск 24-гадовы пяцікурсьнік Маскоўскай кансэрваторыі Алег Янчанка. Малады арганіст зьдзіўляў навакольных сваімі музычнымі здольнасьцямі: ён лёгка чытаў зь ліста партытуру любой складанасьці — нават перакуленую дагары нагамі, музычныя ідэі нараджаліся ў ягонай галаве з імклівасьцю гейзэру.

У наступным 1964 г. Янчанка здабыў ганаровы дыплём на Міжнародным конкурсе арганістаў імя Баха ў Ляйпцыгу. Гэтую ўзнагароду ён атрымаў за сваю імправізацыю. Журы адзначыла відавочны талент канкурсанта і адначасова — недахоп прафэсіяналізму. Пры Саветах не было сапраўднай школы выкананьня барочнае музыкі. Самое барока лічылася "безыдэйным", бо было прасякнутае інтымным адчуваньнем Бога. Тыя нямногія артысты, якія спрабавалі выконваць шэдэўры эўрапейскае музыкі XVI—XVIII ст., рабілі гэта навобмацак. Таму сябры ляйпцыгскага журы накіравалі Янчанку на "падвышэньне кваліфікацыі" — сьпярша ў Венскую акадэмію музыкі, а потым у Летнюю акадэмію арганістаў у Гарлеме (Нідэрлянды, 1966).

Адтуль ён вярнуўся зусім іншым чалавекам. У швэдры, з доўгімі валасамі, праз якія сьвяціла раньняя лысіна. Разьняволены, вясёлы, зусім не падобны на пахмурных і задуменных "парцейных" музыкаў. У ягонай галаве віравалі ідэі. Ён задумаў стварыць у Менску камэрны аркестар, хоць малыя смычковыя аркестры ў той час не былі яшчэ ў модзе, бо не прыдаваліся для выкананьня манумэнтальных твораў расейскае клясыкі ды цяжкаважных араторыяў у славу Леніна. У 1968 г. Янчанка ажыцьцявіў сваю задуму. Менскі камэрны аркестар пазьней зрабіўся Дзяржаўным камэрным аркестрам Беларусі.

Нават зьехаўшы зь Беларусі, Янчанка ніколі не разрываў сваіх сувязяў зь ёй. У 1983 г. быў адноўлены касьцёл Сьв.Роха на Залатой Горцы. Там усталявалі новы чэскі арган. Інструмэнт выявіўся наравістым, і менавіта Янчанка разам зь менскім арганным майстрам Станіславам Чарняўскім даводзіў яго да ладу. 1 чэрвеня 1983 г. у касьцёле адбыўся першы канцэрт. Сьпявала Ірына Архіпава, а Янчанка акампаніяваў ёй на аргане — ён знайшоў час прыехаць, хоць быў вельмі заняты ў Маскве: апрача сольных выступаў, складаньня музыкі й выкладчыцкае працы ў кансэрваторыі, ён кіраваў папулярным тады гуртом старадаўняе музыкі "Мадрыгал".

Маскоўскія крытыкі ўпарта называлі Янчанку *беларускім кампазытарам.* Нездарма ж прэм'ера ягонай грандыёзнай сымфоніі "Слова пра паход Ігаравы" адбылася ў полацкай Сафіі. Гэтая сымфонія пісалася 10 гадоў, і пасьля прэм'еры кампазытар плакаў шчырымі дзіцячымі сьлязьмі. Іншая ягоная сымфонія "Белая Вежа" цалкам напісаная на беларускім народным матэрыяле. Гэты твор зь вялізным посьпехам гучаў і ў Менску. Менавіта Янчанка напісаў музыку да славутага фільму Элема Клімава "Ідзі і глядзі" паводле "Хатынскай аповесьці" Алеся Адамовіча...

Зусім нядаўна ў *БДГ* Расьціслаў Янкоўскі згадваў пра сваё сяброўства зь Янчанкам. Яны жылі ў суседніх кватэрах, побач жыў славуты беларускі фэхтавальшчык Аляксей Ніканчыкаў. Сябры часта зьбіраліся, прыходзіў і футбаліст Іван Савосьцікаў. Янчанка натхнёна граў на раялі, а ўлюбёным ягоным спортам было лазаньне па бальконах, даволі небясьпечнае, бо іхныя кватэры месьціліся на восьмым паверсе.

Цяпер пайшоў з жыцьця Аляксей Ніканчыкаў, ня стала Янчанкі... Свой чарговы канцэрт ён разам зь беларускім віялянчэлістам Алегам Алоўнікавым зьбіраўся даваць у Малой залі Маскоўскай кансэрваторыі 20 лютага... Але засталася памяць пра чалавека, які нанова адкрыў для нас прыгажосьць арганнага гуку.

**Юлія Андрэева**

# Памёр Яўген Кулік

12 студзеня пасьля цяжкай хваробы на 65-м годзе жыцьця пайшоў ад нас Яўген Кулік. Імя яго шырока вядомае беларускай грамадзкасьці. Выдатны мастак-графік, выхаванец беларускай мастацкай школы, сябра Саюзу мастакоў з 1965 г., ён быў нястомным рупліўцам на ніве беларушчыны. У гісторыю сучаснага беларускага адраджэньня Яўген Кулік увайшоў як гаспадар славутага дысыдэнцкага мастацкага асяродку "На паддашку", сябра "Камітэту-58", адзін са стваральнікаў Беларускага Народнага Фронту. На працягу гадоў ён уваходзіў у склад кіраўніцтва БНФ, быў сябрам сойму. Арганізоўваў і актыўна працаваў у суполцы "Пагоня" Беларускага саюзу мастакоў. Чалавек выключнай эрудыцыі, інтэлігентны і добразычлівы, ён заўсёды быў надзейнай апорай для сяброў і паплечнікаў, маральным узорам як для малодшых калегаў, так і для аднагодкаў. Самыя шчырыя спачуваньні ягоным родным і блізкім, усім, хто яго ведаў, паважаў і любіў. Смуткуем разам з вамі.

Мы пахавалі яго на Кальварыі ў Менску, побач з магілай маці. Сьпі спакойна, дарагі Яўгене.

**Сябры суполкі "Пагоня" БСМ**

# БНФ смуткуе

З глыбокім смуткам сустрэлі мы вестку пра заўчасную сьмерць аднаго з волатаў беларускага Адраджэньня канца XX ст. Яўгена Куліка.

Яўген Кулік быў чалавекам, які ніколі не баяўся выказваць свае думкі, нават калі яны разыходзіліся з афіцыйнай ідэалёгіяй. І ў савецкія часы, і цяпер, калі ўсталяваны ў Беларусі рэжым нішчыць усё сапраўды беларускае, гэты чалавек выразна акрэсьліваў сваю грамадзянскую пазыцыю. Ён быў адным з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", працаваў над першай Праграмай БНФ, быў адным са стваральнікаў сымболікі Фронту. Яўген Кулік — адзін з суаўтараў узору дзяржаўнай сымболікі Рэспублікі Беларусі (бел-чывона-белага сьцягу й гербу "Пагоня"). Крытэрам усялякай дзейнасьці — мастацкай, інтэлектуальнай або грамадзкай — для яго заўсёды была беларушчына.

Нарадзіўшыся ў самыя страшныя савецкія часы (у 1937 г.), ён зьведаў усе пакуты беларусаў, на якія было шчодрае XX стагодзьдзе. Лёс Яўгена Куліка — сапраўдны прыклад жыцьця чалавека, якому была надзвычай дарагая ягоная Бацькаўшчына.

Кіраўніцтва БНФ "Адраджэньне" й Партыі БНФ выказвае спачуваньні родным мастака. Мы смуткуем разам з вамі!

# Вечнай памяці Яўгена Куліка

Беларускіх адраджэнцаў і беларускае мастацтва напаткала вялікая бяда, беларусы панесьлі вялікую страту: памёр Яўген Сяргеевіч Кулік, слаўны беларускі мастак, адраджэнец, найадданейшы Беларусі чалавек, асноўны аўтар беларускага дзяржаўнага гербу "Пагоня".

Ён быў актыўным удзельнікам і працаўніком на ніве беларускага нацыянальнага Адраджэньня і беларускай палітыкі, уваходзіў ува ўсе Соймы Фронту, удзельнічаў у Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ.

Яўген Сяргеевіч Кулік памёр на 65-м годзе жыцьця ад цяжкай хваробы. Гэта заўчасная сьмерць. Як шкада, што яна так рана забрала жыцьцё нашага сябра і творцы, крыштальна сумленнага чалавека. Цяжка ў гэта паверыць, зьмірыцца.

Ён жыў дзеля Беларусі і аддаў ёй сваё сэрца, талент і сілы. Ён адышоў — яе добры, адданы сын, — але назаўсёды застанецца ў памяці Беларусі, бо стаў часткай яе гісторыі і змаганьня.

Выказваю глыбокае спачуваньне ад сябе і ад сяброў БНФ родным і блізкім, сваякам і сябрам Яўгена Куліка.

Няхай хораша прыме яго родная беларуская зямля, якую ён гэтак паважаў, шанаваў і любіў.

**Зянон Пазьняк, Вільня**

* * *

Заўчасна пайшоў ад нас у лепшы сьвет Яўген Кулік. Яўген Кулік быў нязломным змагаром за Бацькаўшчыну. Яшчэ ў часы брэжнеўскага "застою" ён актыўна працаваў у шэрагах тых, хто ставіў перад сабой мэту адраджэньня Беларусі.

Міжнароднае грамадзкае аб'яднаньне "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" выказвае глыбокія спачуваньні родным, блізкім, усёй беларускай інтэлігенцыі з прычыны заўчаснай сьмерці Яўгена Куліка.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# Памёр патрыёт Беларусі

Памёр Яўген Сяргеевіч Кулік, выдатны беларускі мастак, патрыёт Беларусі, чалавек шчырай і спагадлівай душы. Калі ў кастрычніку 1988 г. пачалася народная рэвалюцыя, ён разам зь іншымі падстаўнікамі творчай інтэлігенцыі ўвайшоў у склад аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", шмат гадоў быў сябрам Сойму, Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ, актыўна ўдзельнічаў у палітычнай і культурна-асьветніцкай працы адраджэнскіх арганізацыяў. Падчас дэманстрацыяў і акцыяў ён заўсёды быў наперадзе, ягоная энэргія і мужнасьць натхнялі ўсіх нас. Творы Яўгена Куліка застануцца ў памяці людзей і ў скарбонцы нацыянальнай культуры. Сьветлая памяць і вечны спакой!

**Сябры КХП БНФ**

Віталь Тарас

# Блізу Далі: паездка ў Фігерас



На чыгуначнай станцыі Фігерасу побач з гішпанскім чырвона-жоўта-зялёным сьцягам лунае дзевяціпалосны каталёнскі. І гэтак на ўсіх станцыях Каталёніі, кожная зь якіх абавязкова абвяшчаецца двойчы: спачатку па-каталянску, потым па-гішпанску.

У душным нумары таннага прыморскага гатэлю вісіць выцьвілая ад сонца рэпрадукцыя карціны Далі “У пошуках чацьвертага вымярэньня”. Подпіс пад рэпрадукцыяй на чатырох мовах — каталянскай, гішпанскай, ангельскай і францускай.

Каталёнцы ня могуць дараваць вялікаму мастаку, што ён пакінуў большую частку сваіх твораў у спадчыну ня роднай Каталёніі, а мадрыдзкаму музэю Прада. Не даруюць яму і захапленьня “каўдыльлё” Франка, які забараніў каталянскую мову. Але ж каталёнцы, якіх называюць “шатляндцамі поўдня”, славяцца сваім практыцызмам і прадпрымальніцтвам. Імя Далі прыносіць немалы прыбытак Каталёніі. Сёньня малюнкі й эскізы мастака, якіх ён пакінуў пасьля сябе безьліч, можна бачыць за памяркоўную плату ці ня ў кожным мястэчку на ўзьбярэжжы.

Агромністы аўтобус, поўны разнамоўных турыстаў, лёгка ўзносіць цябе на вяршыню святой для ўсіх каталёнцаў гары Мансэрат. Тут, у глыбіні бэнэдыктынскага кляштару, можна дакрануцца да адпаліраванай да бляску мільёнамі дотыкаў міраносіцы ў руках “Чорнай Мадонны”. Пасьля цішыні й прахалоды кляштару неўтаймаванае сонца сьлепіць яшчэ больш.

Уяўляеш сабе, як цяжка было дабірацца сюды пешкі гадоў трыццаць таму, калі не было яшчэ сучаснай аўтастрады, а дарогі Гішпаніі нагадвалі колішняе савецкае бездарожжа.

На пачатку 40-х 200 вядомых інтэлектуалаў Каталёніі сабраліся на гары Мансэрат і напісалі адозву, у якой патрабавалі ад Франка шанаваць правы чалавека і даць незалежнасьць іхнай рэспубліцы. Далі сярод падпісантаў не было і не магло быць. Але карціны ягоныя, як і работы Пікасо й Міро, ёсьць у тутэйшым музэі падарункаў.

Больш як за сто кілямэтраў адсюль, у Фігерасе, месьціцца тэатар-музэй Далі, які ён стварыў сам, з дапамогай каманды архітэктараў і мастакоў, у 60-я... Выглядае музэй фээрычна. На тле сіняга неба побач са старадаўнім саборам сьвятога Пэрэ — цёмна-чырвоны паралелепіпэд з празрыстым купалам-сфэрай. Сьцены будынку ўпрыгожаныя геамэтрычна разьмешчанымі ўзорамі-кветкамі. Пры бліжэйшым разглядзе яны пераўтвараюцца ў тое, што падказвае вашая фантазія. Гід — маладая жвавая бляндынка, якая аднолькава кепска размаўляе на чатырох розных мовах, — безапэляцыйна сьцьвярджае, што гэта выявы хлеба...

У глыбіні будынку, у цёмным халадноватым сутарэньні, аздобленым чорнай матэрыяй, побач з падсьвечанымі залатымі вырабамі самога майстра спачывае сам маркіз Сальвадор Далі-э-Пуболь (тытул маркіза быў яму нададзены каралём Гішпаніі).

Як і пры жыцьці майстра, вакол яго шмат людзей з усяго сьвету. Сярод стракатых аўтобусаў розных турыстычных фірмаў заўважаю адзін непрыкметны і сьціплы з бляклым надпісам “Менск”... Вось некалькі немаладых жанчынаў і мужчынаў гучна спрачаюцца і рагочуць, моцна жэстыкулююць. Гэта, відаць, гішпанцы. Вось сталага веку француз нешта напаўголасу тлумачыць сваёй маладзейшаму суразмоўцу. Той уважліва слухае. Польская і чэская моладзь выглядае крыху зьбянтэжанай. Некаторыя нават шакаваныя. А вось і турысты з Усходняй Эўропы — адразу ня скажаш, адкуль менавіта. Ёсьць нешта знаёмае ў манеры гаварыць напаўголасу, скаванасьці рухаў, насьцярожанасьці позіркаў. Здаецца, для некаторых зь іх гэта ня першая сустрэча з працамі мастака...

За савецкім часам танныя рэпрадукцыі карцінаў Далі можна было бачыць у многіх савецкіх кватэрах побач з фатаздымкам Хэмінгуэя. “Прадчуваньне грамадзянскай вайны” (мяккая канструкцыя з гатаваных бабоў) мяне асабіста ўразіла некалі куды больш, чым славутая “Герніка” Пікасо. Хоць большасьці маіх блізкіх Далі і Пікасо не падабаліся аднолькава.

Савецкае мастацтвазнаўства залічвала творчасьць Далі ў разрад буржуазнага загніваючага мастацтва, а сам ён быў улюбёнай мішэньню для крытыкаў капіталістычнага ладу жыцьця. Між тым, мастак у юнацтве захапляўся марксізмам і камунізмам, як і ўсе ягоныя паплечнікі-сюррэалісты. Але ўжо ў 30-х ён назваў марксізм “самай ідыёцкай тэорыяй у гісторыі сучаснай цывілізацыі”.



“Адсутнасьць фантазіі, — пісаў Далі гішпанскаму рэжысэру Бунюэлю, разам зь якім стварыў знакаміты фільм “Андалюскі сабака”, — адсутнасьць фантазіі ёсьць канец усяму. Сталін — самы бядляцкі з усіх пазбаўленых фантазіі людзей”.

Па дарозе да замку Пуболь, дзе пахаваная жонка Далі — бясконца любімая ім Гала, якой ён гэты замак і падараваў, — на прыдарожнай сьцяне можна бачыць надпіс па-каталянску: “*Independencia*”. Побач — зорка, серп і молат. Сымбалі камунізму й анархізму, якія парадаксальным чынам спалучаюцца з заклікамі да нацыянальнай незалежнасьці, можна бачыць паўсюдна ў Каталёніі. Асабліва шмат іх у Барсэлёне, вядомай сваімі рэвалюцыйнымі традыцыямі.

Далі прыпісваў сабе “адкрыцьцё” яшчэ аднаго вялікага каталёнца — архітэктара Гаўдзі. Будаўніцтва сабору “Саграда Фамілія” (“Сьвятое сямейства”) у Барсэлёне паводле ягонага праекту, распачатае ў 20-я XX ст., магчыма, скончыцца ў 20-я стагодзьдзя цяперашняга. Геніяльная фантазія архітэктара надала сабору незямныя формы. І разам з тым ён нагадвае дзіцячыя замкі зь пяску.

Для мяне загадка — дзе мог бачыць тыя замкі Гаўдзі? Пясок на пляжах Коста-Брава незвычайны. Ён складаецца з буйных крупіцаў, цьвёрдых навобмацак, як тыя крышталі. Гэта непрыдатны матэрыял для рукатворных цудаў.

Коста-Брава ў перакладзе азначае “Жорсткі Бераг”. Прыбярэжныя скалы тут нагадваюць фрагмэнты касьцяку гіганцкіх вымерлых дыназаўраў. Гэтыя скалы — адгалінаваньні Пірэнэйскіх гораў, якія абрываюцца проста ў Міжземным моры. Далі назваў некалі мыс Крэвус — самы ўсходні на Ібэрыйскім паўвостраве — “геніяльным геалягічным трызьненьнем”. Формы й зьменлівы колер скалаў падказалі мастаку тэмы для многіх ягоных карцінаў.

Далі, які нарадзіўся ў вёсачцы Кадакес каля мысу, вельмі імпанавала, што ён і ягоная сям'я першымі ў Гішпаніі сустракалі ўсход сонца. Дарэчы, ён мог быць удзячны генэралу Франка хоць бы за дэкрэт аб “неразьвіцьці турызму” ў Кадакесе і суседнім Порт-Льігаце. Мабыць, таму гэтыя мясьціны, пазбаўленыя наплыву цікаўных, захаваліся ў амаль некранутым выглядзе.

Далі вучыўся ў Мадрыдзе, жыў у Парыжы і Лёндане, амаль восем гадоў прабыў у ЗША, дзе яго напаткаў сапраўдны трыюмф. Але ж любіў ён толькі родны Кадакес. Гэта добра заўважаецца ў ягонай творчасьці: няма амаль ніводнай работы Далі, у якой не прысутнічаў хоць бы фрагмэнт тамтэйшага пэйзажу. Магчыма, акрамя Далі быў толькі адзін мастак, чыя творчасьць прысьвечаная адзінаму месцу на зямлі, — гэта Шагал, які ўсё жыцьцё маляваў свой Віцебск.

Хоць Шагал бываў на Коста-Брава і захапляўся відамі ўзьбярэжжа, гэтыя два цалкам непадобныя мастакі пры жыцьці сустрэліся толькі аднойчы, дый тое завочна. Іхныя работы былі прадстаўленыя на адной з “выставаў сюррэалістычных аб'ектаў” у Парыжы.

Шагал, як і Далі, перажыў пэрыяд захапленьня рэвалюцыйным мастацтвам, але хутка расчараваўся ў саміх рэвалюцыянэрах. Абодва мастакі лічылі злачынствам адсутнасьць фантазіі, нічым не абмежаванай у іхнай творчасьці. Але размова не пра жывапіс.

200 гадоў таму кароль Філіп V з дынастыі Габсбургаў “аддзячыў” Каталёніі, што падтрымала яго ў вайне за гішпанскі трон, зьнішчыўшы ўнівэрсытэт у Барсэлёне, спаліўшы каталёнскія кнігі й загадаўшы каталёнцам карыстацца выключна кастыльскай (гішпанскай) мовай. І ўсе гэтыя 200 гадоў каталёнцы размаўляюць, сьпяваюць і пішуць па-каталянску. І замест вогненна-паўднёвага, выразна індывідуальнага флямэнка танчаць сардану — узяўшыся за рукі, карагодам.

Віньня дэ Фабра — звычайнае сталовае віно. Яно пеніцца, калі яго наліваеш у шклянку, а на смак і колер нагадвае вішнёвы напой. Бутэлька, у якую разьліваюць гэтае віно, каштуе, мабыць, больш, чым яно само. На кожнай этыкетцы Віньня дэ Фабра — верш клясыка каталёнскай паэзіі Гімэры. Паэзія, як і віно, для каталёнца ўсё адно што хлеб.

Адна з галоўных тэмаў творчасьці Далі — кошык з надламаным боханам хлеба. На некаторых карцінах ён нагадвае разарванае сэрца.

## навіны за тыдзень

### Бельскі ліцэй — у васьмёрцы самых моцных

**Бельскі беларускамоўны ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча заняў восьмае месца ў рэйтынгу 400 польскіх ліцэяў,** які ладзіць польская арганізацыя “Пэрспэктывы” пры ўдзеле газэты *Rzeczpospolita*.

Летась ён быў на 23-м месцы, але сёлета сямёра бельскіх ліцэістаў перамаглі ў прадметных алімпіядах, а дзесяць сталі фіналістамі. А месца навучальнай установы ў рэйтынгу вызначаецца менавіта паводле вынікаў прадметных алімпіядаў. Найбольш вучні ліцэю вызначыліся ў алімпіядах па беларускай мове. Заняўшы восьмае месца сярод чатырохсот школаў краіны, Бельскі ліцэй выявіўся найлепшай навучальнай установай свайго рангу ва ўсім Падляскім ваяводзтве.

**Паводле радыё “Свабода”**

### Новыя цэны на старыя аўтамабілі

**У Расеі — новыя пошліны на патрыманыя аўтамабілі.** За аўтамабіль ад трох да сямі гадоў з аб'ёмам рухавіка 2,5 тыс. см³ пошлінная стаўка складзе 1 эўра (0,9 даляра) за см³, з аб'ёмам, большым за 2,5 тыс. см³, — 1,6 эўра (1,4 даляра). На аўтамабілі 1994 г. выпуску і старэйшыя з аб'ёмам рухавіка да 2,5 тыс. см³ стаўка складзе 2 эўра (1,8 даляра) за см³, з аб'ёмам, большым за 2,5 тыс. см³, — 3 эўра (2,7 даляра). Сьледам за расейскімі пошлінамі звычайна падвышаюцца цэны на патрыманыя іншамаркі ў Беларусі.

### Карнукоў пайшоў на пэнсію

**Галаўкам Ваенна-паветраных сілаў Расеі Анатоль Карнукоў падаў прашэньне аб адстаўцы.** Генэралу споўнілася 60 год, і служыць далей ён можа толькі з пэрсанальнага дазволу Пуціна. Але ў Карнукова не было падставаў разьлічваць на такі дазвол, бо ён неаднаразова крытыкаваў стан расейскай ваеннай авіяцыі і сумняваўся ў ейнай баяздольнасьці.

### Кандыдат ад ХСС

**Паводле тэлекампаніі *NTV*, лідэр Хрысьціянска-дэмакратычнага саюзу Нямеччыны Ангела Мэркель адмовілася ад удзелу ў выбарах канцлера Нямеччыны на карысьць лідэра Хрысьціянска-сацыяльнага саюзу,** прэм'ер-міністра Баварыі Эдмунда Штойбэра, які мае больш шанцаў на перамогу. Сама Мэркель пакуль не пацьвердзіла гэтай інфармацыі. Выбары прызначаныя на 22 верасьня 2002 г.

### Расея прабівае дарогу ў Крым

**Паромная пераправа Крым—Тамань можа быць пушчаная сёлета ў красавіку ці траўні.** Адпаведная дамова дасягнутая паміж расейскім і ўкраінскім транспартнымі ведамствамі. Знойдзеныя й неабходныя сродкі. Пасьля адкрыцьця паромнай пераправы пачнецца будаўніцтва камбінаванага варыянту пераходу — дамбы-моста і тунэлю.

# Маўчанка

Працяг са старонкі 1.

А мне адказваюць: “А пры чым тут?..”

У Беларускім экзархаце Расейскай праваслаўнай царквы робяць выгляд, што нічога ня ведаюць пра закрыцьцё “Голасу душы”. Прэс-сакратар мітрапаліта Філарэта Андрэй Петрашкевіч заявіў, што пра гэта ня чуў. Пасьля таго як яму патлумачылі сытуацыю, ён сказаў, што ня можа “камэнтаваць гэта на сваім узроўні”, але паабяцаў пераадрасаваць нашую просьбу ўладыку Філарэту. Такім чынам, афіцыйную рэакцыю Мітраполіі паведамім Вам на наступным тыдні.

Улады маўчаць і муляцца, адцягваюць час разьбіральніцтва. Мо гэта такі спосаб зандажу грамадзтва — ці моцна абурылася, як і наколькі доўга ды інтэнсіўна зьбіраецца пратэставаць? Пабачаць, што народ супраць, дый сыграюць у “добрага цара”: закіне слова за аднаўленьне перадачы і Філарэт, і кіраўнік дзяржавы, апарат якога “Голас душы” й задушыў. Такім чынам, ад нас з вамі залежыць, пачуем мы айца Завальнюка на Радыё-1 ці не.

**Ігнат Чакацкі**

# Радыё без Душы

**Летась у канцы лістапада я атрымаў зь беларускага радыё прапанову на супрацоўніцтва. Ліст пачынаўся словамі:**

“Шаноўнае спадарства!

Магчыма, у гэта цяжка паверыць, але на Нацыянальным радыё Рэспублікі Беларусі ідзе вялізная перабудова. Уводзіцца новая сетка вяшчаньня, сыходзяць з этэру афіцыйныя дыктарскія тэксты ды іншы нафталін, узьнікаюць новыя праекты і маладыя галасы. Ня ўсё, канечне, ідзе гладка, але гэта пакуль хваробы росту, а надзея на посьпех ёсьць”.

Ад тае прапановы прамінула паўтара месяца. “Вялізная перабудова” радыё выявілася ва ўзмацненьні “*бодрячества*”, зь якім падаецца той самы “нафталін”. Журналісты засталіся на тым самым інтэлектуальным пятачку, у тым самым сьветапоглядным і тэматычным гета, межы якога працягваюць звужацца. Прафанацыя гісторыі, культуры, самое чалавечае Душы дасягнула апагею. Дзе яшчэ ў сьвеце на дзяржаўным радыё могуць ладзіць апытаньне моладзі на тэму: “*нравится ли вам разговаривать на белорусском языке*” (ці падабаецца вам дзяржаўная мова)? Для паўнаты “вялізнай перабудовы” я б параіў шаноўным запытацца ў дзяцей: “*Хороша ли собой ваша мать?*”

Зрэшты, ускосна на дзяржаўным радыё такое пытаньне ўжо задалі і самі на яго адказалі, ні ў кога не пытаючыся. Маю на ўвазе яшчэ адзін “здабытак вялізнай перабудовы” — закрыцьцё праграмы “Голас душы”. З кожным годам усё менш прафэсійнае і даўно ўжо няшчырае радыё страціла апошні ў сваім этэры праўдзівы голас, якога чакалі й да якога прыпадалі тысячы слухачоў. Дапускаю, што такіх слухачоў была большасьць сярод усіх падаткаплатнікаў, на чые грошы ўтрымліваецца дзяржаўнае радыё. Прываблівала іх у “Голасе Душы” ня столькі рэлігійнасьць, колькі незаангажаваная шчырая і чалавечная мудрасьць. Аднак, зачыняючы праграму, якраз у іх ніхто й не спытаўся. Цяпер сярод “*бодрячества*”, другасных навінаў, расейскае папсы й дэбільных апытаньняў пра “*не нравится белорусский язык*” на дзяржаўным радыё застанецца толькі адзін — самотны і асіплы — голас. Але ня будзе ўжо ані каліва праўды, шчырае мудрасьці й Душы.

Спадзяюся, я ўцямна адказаў на пытаньне, чаму лічу супрацоўніцтва зь дзяржаўным радыё пасьля гэткае “вялізнае перабудовы” немагчымым.

**Сяргей Дубавец**

—калёнка Алеся Бяляцкага—

# Нябачная вайна

“Голас душы” быў ня проста перадачай. Беларускамоўная служба ў рымска-каталіцкім Чырвоным касьцёле, якая трансьлявалася на ўсю краіну, была паказьнікам стаўленьня Касьцёлу да беларускай мовы, да беларускай культуры і традыцыі.

Нагадаю, што менавіта так — “Голас душы” — зваўся малітоўнік для беларусаў-каталікоў, падрыхтаваны ксяндзом і паэтам Казімірам Сваяком у 1926-м, які затым вытрымаў яшчэ пяць перавыданьняў. Аўтар у прадмове да малітоўніка пісаў: “Мілы Браце Беларусе! ...Мо слова якое будзе выдавацца менш падходным, не сумуй! Дасьць Бог, што, як станем роднай мовай Яго хваліці, будуць і слоўцы да таго гладзейшыя”. Ён разумеў, што жыцьцё мовы ў сьвятынях дае ёй неўміручасьць.

Існаваньне “Голасу душы” было пэўным сыгналам для ўсіх каталікоў краіны, раней, пры саветах, штучна зарыентаваных на польскую мову. Сыгналам на адраджэньне ўласнай тоеснасьці й самабытнасьці, а таксама сыгналам пра пазіцыю рымска-каталіцкага Касьцёлу ў Беларусі для ўладаў і для іншых цэркваў. Самая ўнівэрсальная ў сьвеце рымска-каталіцкая царква з пачатку 90-х у Беларусі была пасьлядоўна самай народнай, самай беларускай Царквой.

І вось жа, як Казіміру Сваяку ў 20-я гады мінулага стагодзьдзя ўлады забаранілі ўжываць беларускую мову ў набажэнствах, гэтаксама і сёньняшняя ўлада спрычынілася да забароны беларускамоўнага радыёнабажэнства. І тыя, і гэтыя рупліва праводзілі і праводзяць акупацыйную палітыку ў адносінах да беларускага народу. Ідзе вайна, ідзе нябачная вайна.

Перадача, якая пачала жыць перад прыходам Лукашэнкі да ўлады, перадача, якая, па сутнасьці, пярэчыць ягонаму стаўленьню да ўсяго беларускага як да нечага нявартага і другараднага, на падкантрольным такім уладам радыё проста не магла існаваць. Раней ці пазьней яе павінны былі ліквідаваць, як ліквідавалі сотні беларускіх школаў, нацыянальную сымболіку, як зьнялі купалаўскіх “Тутэйшых”, як спрабуюць ліквідаваць нашую незалежнасьць.

Паводле ўяўленьня гэтых мамлюкаў і мандарынаў, па-беларуску належна апавядаць толькі показкі а-ля “Тарас на Парнасе”, а весьці набажэнства ў бажніцы ці выкладаць вышэйшую матэматыку ва ўнівэрсытэце — не-е-е-е...

Трэба запамінаць і супрацьстаяць.

Супрацьстаяць гэтай “хамскай уладзе” (трапны выраз Віктара Шалкевіча) можна толькі праз уласную пазіцыю. Ніхто тут новых рэцэптаў не падкажа. Ужывайце беларускую мову, не саромцеся: размаўляйце, пішыце, прапагандуйце яе, давайце беларускай мове ход, глядзіце, каб вашыя дзеці размаўлялі па-беларуску і хадзілі ў беларускія клясы, працярэблівайце беларускамоўную прастору і мацуйце яе. Бо ў кожнага ёсьць такія магчымасьці.

Згадваю нядаўні тэлерэпартаж па СТВ (вось дзе яшчэ адзін расейскамоўны запаведнік!): маладая журналістачка бярэ інтэрвію ў праваднічкі нейкага там узорнага вагону на чыгунцы, і тая на расейскамоўныя пытаньні, як ёй удаецца так добра даглядаць свой вагон, старанна і ўпарта адказвае па-беларуску.

Яны зачынілі “Голас душы” — значыць, слушна мы ўсё робім — духоўна, маральна, прыгожа і вартасна. Не сумуйма. Так падбадзёрвае нас Казімір Сваяк. Мабыць, надышоў ужо час Касьцёлу адчыніць сваю *FM*-станцыю.

**Алесь Бяляцкі**

## лісты ў рэдакцыю

### Шаноўны спадару рэдактар,

глыбока ўзрушаная інфармацыяй (*Gazeta Wyborcza,* 10 студзеня 2002), што дзяржаўнае радыё Рэспублікі Беларусі спыніла трансьляцыю беларускамоўнай нядзельнай малітвы для вернікаў-каталікоў, ставячы на тое месца папулярную музыку. Дасылаю ў “Нашу Ніву” са згоды аўтара ліст Ганны Энгелькінг, які я толькі што атрымала і які добра сьведчыць аб натуральнай рэакцыі сяброў Беларусі ў Польшчы на гэтую ганебную падзею. Дзяржаўнае радыё пазбавіла хворых і жыхароў адлеглых ад касьцёлу мясьцінаў магчымасьці ўдзельнічаць у сьвятой імшы. А гэта ж была толькі частка імшы, якая ў цэлым займае ня больш за 30 хвілін!

Хачу верыць, што пастанова, якую разглядаю як палітычную хібу адносна сур’ёзнай колькасьці беларускіх грамадзян, якім застаецца ў гэтых умовах толькі польскае радыё, будзе адмененая беларускім урадам.

**Эльжбета Смулкова, Варшава**

### Дарагія мае,

прачытала сёньня ў *Gazecie Wyborczej* сумную вестку пра ліквідацыю праграмы “Голас душы”, альбо імшы беларускай (матэрыял Ц.Галінскага).

Мушу сказаць, што мяне гэта вельмі ўразіла. На працягу апошніх бадай 10 год я мела магчымасьць назіраць у вёсках Гарадзеншчыны, як зьмяняюцца адносіны людзей да імшы: ад нежаданьня альбо абыякавасьці (бо імша мусіць быць па-польску) да прыязных і нават вельмі станоўчых адносінаў (імша на сваёй мове як бальсан, як мёд на сэрца). На маю думку, ксёндз Завальнюк — не зважаючы на сфэру чыста рэлігійную і без увагі на тое, што імша трансьлявалася скарочаная: рабіў вельмі добрую справу для беларускасьці. Бачыла, як расьце прэстыж беларускай мовы — людзі паступова пачыналі ўспрымаць яе як мову набажэнстваў. І калі чытаю ў газэце, што імша на радыё замененая расейскай эстраднай музыкай, усьведамляю, што гэта добра прадуманы ўдар у сэрца Беларусі. Жудасны, цынічны зьдзек. Неяк ня дужа мне верыцца, што імша зьнятая з-за таго, што пратэставалі слухачы. У сваю чаргу, цікава, ці даведаемся мы калі, як было насамрэч. І цікава, і разам з тым уражвае, як можна ня мець сораму. Перад сваім народам і перад сьветам.

Пішу гэта ўсё, каб Вам распавесьці, што пра гэта думаю і як ў сувязі з тым пачуваюся. Адчуваю гаркоту, абурэньне й бездапаможнасьць. Бо нічога не магу зрабіць, апроч як напісаць гэтыя колькі словаў. Бо што яшчэ? Якіясьці дзеяньні? Пратэсты? Дык ня зь іншай жа краіны. Гэта хіба што ў Вас — так, як тыя людзі, што ўкрылі жалобнай чорнай тканінай алтар у Чырвоным касьцёле.

**Ганна Энгелькінг, Варшава**

### Добры дзень,

шаноўны ксёндз-магістар Уладзіслаў Завальнюк.

Піша Вам адна жанчына, якая ня так даўно прыйшла ў касьцёл. Дзякуй Вам за ўсю асьветніцкую й культурную працу, асабліва за радыёперадачу “Голас душы”. Як яна патрэбна тым, хто ня можа наведваць касьцёл, хворым, адзінокім і састарэлым людзям! Іх твары сьвецяцца радасьцю, яны маладзеюць і здаравеюць, яны гавораць пра Вас зь любоўю і захапленьнем.

**Яўгенія Дубіловіч, Муляры (Пастаўшчына)**

### Шаноўнае спадарства!

Найвялікшай каштоўнасьцю беларускай нацыі ёсьць беларускі народ. Народ — гэта цела Нацыі. Рэлігія — гэта душа народу, вытворная духу й дзейнасьці. У гэткай супольнасьці душы й цела толькі й можа існаваць народ. Радыёперадача “Голас душы” клапоціцца пра стварэньне ўмоваў існаваньня для народу й даляглядаў ягонага разьвіцьця.

Самавыміраньне пачынаецца з разбурэньня Храму, у нашых варунках — з забароны радыёперадачы “Голас душы”. Падчас вяшчаньня радыёперадачы вуліцы пусьцелі — людзі ішлі да адбудовы Храму, найперш у сабе. “Голас душы” стаўся галоўнаю перашкодаю да вяртаньня ганебнага мінулага, калі хрысьцілі ў лесе, бралі шлюб уначы, сварыліся ў сем’ях з-за таго, што дзеці ахрышчаныя па-каталіцку й па-праваслаўнаму, і г.д. — прыкладаў бязглуздзіцы ў гісторыі Беларусі хапае.

Самаахвярныя высілкі Уладзіслава Завальнюка і ягоных аднадумцаў, што запачаткавалі радыёперадачу “Голас душы”, вымагаюць ад уладаў адпаведнага ўзроўню, прынамсі, апошнія мусяць адчуваць сябе часткаю народу й мець асабістую адказнасьць за лёс краіны.

Нагадайма, што пасьля разбурэньня Храму руйнуецца Дом, гэта значыць адбываецца страта маёмасьці, дзяржаўнасьці, разбэшчаньне грамадзтва і г.д.

Паважаныя, не сячыце сук, на якім седзіце, узнавіце “Голас душы”!

**Алесь Кір’янаў, Менск**

## удакладненьне

У “НН” ад 11 студзеня на с.7 замест “Памёр Уладзімер Адамчык” трэба чытаць “Памёр Вячаслаў Адамчык”. Перапрашаем за памылку.

## аб усім патроху

### Пабудуюць тэлевежу

**Беларусь і Кітай вядуць перамовы аб пабудове ў Менску тэлевежы.** Пра гэта паведаміла пасол Кітаю ў Беларусі У Сяоцю. У Кітаі ўжо створаная адпаведная рабочая група, што складаецца зь некалькіх буйных праектных і будаўнічых арганізацыяў.

### Канцэрты падаражэюць?

**Згодна з распараджэньнем Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта, у некалькі разоў павышаецца кошт арэнды большасьці канцэртных пляцовак Менску — Палацу спорту, к/з “Менск”, ЦДА і інш.** Вынікам гэтага можа стаць заняпад прадусарскага бізнэсу ды істотнае зьбядненьне музычна-тэатральнай афішы.

### “Мілавіца” ў Парыжы

**Менскае супольнае прадпрыемства ЗАТ “Мілавіца” прэзэнтуе калекцыю жаночай бялізны “Восень—зіма 2002—2003” на міжнароднай выставе “Салён бялізны”,** якая пройдзе 25-28 студзеня ў Парыжы. “Мілавіца” бярэ ўдзел у конкурсе ўжо шосты раз і зьяўляецца там адзіным прадстаўніком СНД.

### Тры мільёны за Алімпіяду

**Як паведаміў міністар спорту й турызму Яўген Ворсін, на падрыхтоўку беларускіх спартоўцаў да XIX зімовай Алімпіяды выдаткавалі 2 млн. 857 тыс. даляраў.** З гэтай сумы мільён складаюць сродкі спонсараў. За дастаўку спартоўцаў на Алімпіяду і назад польская авіякампанія *“LOT”* просіць 155 тыс. даляраў. Сёньня Беларусь мае 77 алімпійскіх ліцэнзіяў, аднак браць удзел у гульнях будуць толькі 60 спартоўцаў. Агульны памер дэлегацыі складзе 133 чалавекі. Паводле незалежных ацэнак, сума затратаў на падрыхтоўку нашых спартоўцаў яшчэ большая.

## спорт

# Перамагчы швайцарцаў

Новы год пачаўся для нас з добрай спартовай навіны: беларуская юніёрская зборная па хакеі захавала месца ў наймацнейшай групе. Нам шанцуе, што мяжа праходзіць якраз там, дзе ў нас ёсьць шанец зачапіцца. Год таму дзеля таго, каб захаваць месца ў эліце, трэ было выйграць у Казахстану, гэтым разам - у Францыі. Зь вялікай цяжкасьцю, але ўдалося перамагчы па булітах. Праз год чакаем новага прэтэндэнта на дзявятае месца. Восемка ж вядомая наперад, бо ў хакеі нечаканасьці амаль выключаныя. Раней вызначалі вялікую шасьцёрку: Чэхія, Канада, ЗША, Расея, Фінляндыя, Швэцыя. Але апошнімі гадамі ў лік грандаў увайшла й Славаччына, а імклівы прагрэс Швайцарыі робіць адрыў паміж іхным восьмым і нашым дзявятым месцамі ўсё больш прыкметным.

Яшчэ колькі год таму беларуская нацыянальная зборная ня мела ніякіх праблемаў са швайцарцамі. Але з кожным годам сюжэт тых сустрэчаў рабіўся ўсё больш драматычным і, нарэшце, на леташнім чэмпіянаце сьвету выйграла ўжо Швайцарыя. Швайцарскія юніёры ўваходзяць у васьмёрку без праблемаў, а значыць, краіна мае добрыя хакейныя пэрспэктывы.

На Алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сыты перад беларусамі зноў той самы шлягбаўм - Швайцарыя. Каб прайсьці далей, трэба стаць першымі ў групе, дзе акрамя нас ды швайцарцаў будзе яшчэ Францыя й сувымерная з намі па сілах Украіна. Падаецца, што шанцаў на першае месца ў нас вобмаль. Але алімпійскія турніры заўсёды вызначаліся непрадказальнасьцю, так што будзем сачыць за падзеямі. Шкада толькі, што выпраўляюць на Алімпіяду зноў у асноўным вэтэранаў, ад якіх ужо каторы год чакаюць, што яны добра так “грукнуць дзьвярыма” на разьвітаньне...

...А тым часам распачаўся кваліфікацыйны турнір да чэмпіянату сьвету па гандболе (2003 г.) у мужчынаў. У нашай групе — Баўгарыя, Літва й Латвія. Толькі адна зборная з чатырох трапіць на стыкавыя гульні, прызначаныя на пачатак чэрвеня. Вядома, плэй-оф — гэта лятарэя, але ў групе мы павінны перамагчы — тым больш што камандай зноў кіруе непараўнальны Спартак Міранові. Цікава, што за ўвесь час выступленьняў нацыянальнай мужчынскай каманды розьніца перамог і паражэньняў складае “мінус два”. Ёсьць добры шанец выправіць статыстыку.

**A.U., Гомель**

# КУРАПАЦКІЯ РАБІНЗОНЫ

Пры канцы верасьня пачалося пашырэньне менскай кальцавой дарогі блізу ўрочышча Курапаты. Нацыянальны нэкропаль апынуўся пад пагрозай зьнішчэньня. У яго абарону выступіла грамадзкасьць. Тады сама актывісты Маладога Фронту, Партыі Свабоды і "Зубра" паставілі ў Курапатах намёт, каб сачыць за дзеяньнямі будаўнікоў і ўдзень, і ўночы. Былі ініцыяваныя й археалягічныя раскопкі, на час якіх праца ва ўрочышчы спынілася. Аднавілася яна, толькі калі было напэўна даведзена, што на шляху дарожнікаў няма пахаваньняў. Акрамя таго, пад ціскам грамадзкасьці будаўнікі паабяцалі, што пашыраная дарога не перакрочыць 15-мэтровай зоны, будзе ўзьведзены мэмарыял, пракапаны падземны пераход, да ўрочышча стане прасьцей дабірацца грамадзкім транспартам. Разглядаецца й магчымасьць пабудовы дзьвюх палос дарогі ў абход Курапатаў. Вахта абаронцаў Курапатаў, якія сочаць за працай будаўнікоў ды парадкам у лесе, цягнецца дагэтуль. Сёлетнія маразы й моцныя сьнегапады нібы выпрабоўвалі рашучасьць маладых людзей. Аднак у курапацкім намёце ідзе жыцьцё, гарыць вогнішча, гатуецца ежа, заварваецца гарбата, нават ладзяцца набажэнствы. Гераізм, разбаўлены буднямі... Мо толькі ён і сапраўдны?

Фотарэпартаж Анатоля Клешчука


Апошняя сьцяна паміж будоўляй і Курапатамі


Добра ў намёце, калі на дварэ мароз


Іх няшмат — абаронцаў Курапатаў


Нядзельнае богаслужэньне ў Курапатах. Намёт ператвараецца ў храм


Глыбокі сьнег пасьля завеяў


Крыжы і трактары — Курапаты сёньня (зьверху)


Звычайны салдацкі намёт


Сьвечкі за бязьвінных ахвяраў (зьлева)


Побытавы клопат


Гарачая гарбата ратуе ад марозу

## ПАНЯДЗЕЛАК, 21 СТУДЗЕНЯ

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.35 Навіны.
6.10, 7.10, 8.10 Добрай раніцы, Беларусь!
9.10 "Грамадзянін начальнік". Сэрыял.
10.05 Арсэнал. Праграма пра войска.
10.30 Тэлебаромэтар. Прагноз надвор'я.
11.00 "Сямейныя повязі".
12.20 Чароўны куфэрак "Саюзмультфільму". "У яранзе гарыць агонь", "Песенька мышаняці", "Папялушка", "Салодкая казка".
13.20 "Сказ пра тое, як цар Пётар арапа ажаніў" (СССР).
15.20 "Жулі Леско".
17.00 "Грамадзянін начальнік". Сэрыял.
18.30 Зона Ікс.
18.45 Ж.-К.Ван Дам у баевіку "Ўзрывальнік".
20.20 Відэафільм "Дзелавыя людзі".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 "Сямейныя повязі".
22.40 Стадыён.
23.05 Плянэта "АРТ".
23.50 Начны сэанс. А.Бандэрас і В.Харэльсан у камедыі "Бі ў косць".

### СТВ

6.00, 16.30 "Паўэр рэйнджэрз, ці Магутныя рэйнджэры".
6.30, 16.00 "Цік - герой".
7.00, 15.30 "Неймаверны Халк".
7.30 "168 гадзін Менску".
8.20, 23.15 "Віртуальны сьвет".
8.30 Камэдыя "Больш, чым жыцьцё".
10.40 "1/52". Спортагляд.
11.00, 0.40 "M1". Музычная праграма.
11.30 "Дарма і Грэг".
12.00, 15.00, 18.00, 23.00 "24 гадзіны".
12.15 "Хто я".
12.45 "Дальнабойнікі".
13.50, 21.30 "Каменская".
16.55 "Чарцяня".
18.15 "Пакуль гарыць сьвечка..."
18.45 "Тэма дня".
18.55 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
19.00 "Футурама".
19.30 Баявік "Сталёвыя акулы".
22.45 "Афіша".
23.30 Футбольны кур'ер.
0.10 Музканал.

### ОРТ

16.00 Вялікае мыццё.
17.00 Навіны.
17.30 "Зь лёгкай парай!"
18.00 Чакай мяне.
19.00 "Хто хоча стаць мільянэрам?".
20.00 Час.
20.40 "Мяжа. Таежны раман".
21.45 Незалежнае расьследаваньне.
22.30 Начны "Час".
23.00 "На футболе".
23.30 "Начная зьмена".

### РТР

16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
16.30 Дэтэктыў "Іпадром".
18.00 Фільм "Тытанік"
19.35 Мясцовы час. Весткі - Масква.
19.55 "Ніна. Расплата за каханьне".
20.55 "Пуаро Агаты Крысьці. Прыгоды кухаркі з Клэпхему".
22.15 Мясцовы час. Весткі - Масква.
22.30 Фільм "Цялец".
0.25 Прагноз надвор'я.

### Культура

9.15 "Рамантыка рамансу".
9.40, 16.40 "Клерк-Міністар-Прэзыдэнт". Дак. фільм.
10.30 "Легенда пра злога волата". Мультфільм.
10.45 "Сфэры".
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.45 Разам з Фафалем.
12.00 "Ох, ужо гэтыя дзеткі!".
12.25 "Анталёгія аднаго вершу".
12.30 "Пад засеньню кедра". Дак. фільм.
13.00 "Культурная рэвалюцыя".
13.50 С.Пракоф'еў. Сюіта з балету "Папялушка".
14.05, 22.10 Кароткамэтражныя маст. фільмы.
15.10 "Навальнічныя камяні".
15.35 Мультфільмы.
16.05 Alma mater.
17.40 "Век Рускага музэю".
18.10 Канцэрт Ізраільскага філярманічнага аркестру.
20.40 "Ігар Маісееў. Акадэмік танцу".
21.20 "Што рабіць?"

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сёньня.
7.15, 12.45 У запас.
7.40 Карданны вал.
7.45 Пяць хвілін з Наважонавым.
7.55, 14.40, 17.40 Крымінал.
8.25 Служба выратаваньня.
9.25 Надоечы.
10.35 Лялькі.
11.25 Камэдыя "Набожная Марта", 1-я сэрыя.
13.20 Ток-шоў "Прынцып "Даміно".
15.25 Дэтэктыў "Памылка рэзыдэнта". 1-я сэрыя.
16.50 Сквапнасьць.
18.35 Герой дня.
18.55 Баявік "Груз без маркіроўкі".
21.55 "Хуткая дапамога".
23.25 Гардон.

### ТБ 6

6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00, 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00 Цяпер.
6.10, 6.35, 7.15, 7:35, 8.25 Дзень за днём.
7.50 Назло.
9.00, 18.45 "Агент нацыянальнай бясьпекі-I".
10.20 "Жанчына з характарам".
11.10, 14.20 Тэлекрама ў Менску.
11.25 "Самыя гучныя злачынствы XX стагодзьдзя".
12.20, 16.35 "Дэтэктыў Нэш Брыджэс".
13.15, 20.50, 23.35 "За шклом". "Апошні біфштэкс".
14.40, 17.40 Дарожны патруль.
15.00 "100 цудаў свету". "Птушкі, якія крочаць".
20.35 Тушыце сьвятло.
22.00 Грані.
22.45 "Салаўіная ноч".
0.05 "Першы музычны канал".

### CNN

7.00 Навіны бізнэсу.
11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00, 2.00, 3.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
10.00 Business Central.
11.30, 14.30, 17.30, 0.30, 3.30 Навіны спорту.
12.30, 19.30 Міжнародны рэпартаж.
13.00, 16.00 Сусьветны бізнэс.
18.30, 22.30, 5.30 Пытаньне-адказ.
21.30, 23.30 Сусьветны бізнэс сёньня.
0.00 Погляд знутры.
1.00, 6.30 Фінансавая гадзіна.
2.30 Раніца дзелавой Азіі.
4.00 Лары Кінг.

### Эўраспорт

9.30, 23.00 Тэніс.
18.00, 20.30, 0.15 Футбол.
20.00, 1.45 Усе спартовыя спаборніцтвы.
0.00, 2.15 Навіны.

## АЎТОРАК, 22 СТУДЗЕНЯ

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.45 Навіны.
6.10, 7.10, 8.10 Добрай раніцы, Беларусь!
9.10 "Грамадзянін начальнік". Сэрыял.
10.05 Стадыён.
10.30 "Маленькія Айнштайны".
11.00 "Сямейныя повязі". Сэрыял.
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.05 Маст. фільм "ТАСС упаўнаважаны заявіць..." 1-я сэрыя.
14.15 "Скарбы сусьветнай культуры".
14.30 Зоркі фэстываляў у праграме "Тэлевізійны Дом кіно".
15.15 "Горац".
15.40 "Маленькія Айнштайны".
16.10 "Пяць цудаў".
16.20 "5х5". Праграма для старшаклясьнікаў.
17.00 "Грамадзянін начальнік".
18.25 Зона Ікс.
18.40 М.Уладзі ў псыхалягічнай драме "Лярэляй".
20.25 "Музэум". Алтарны абраз "Пакланеньне вешчуноў".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 "Сямейныя повязі".
22.40 Спорт-кур'ер.
22.50 "Чатыры танкісты і сабака".
0.05 Хакей. Чэмпіянат УЭХЛ. "Керамін-Менск" - "Сокал" (Кіеў).

### СТВ

6.00, 16.30 "Паўэр рэйнджэрз, ці Магутныя рэйнджэры".
6.30, 16.00 "Цік - герой".
7.00, 15.30 "Неймаверны Халк".
7.30 "Прынцэса Сысы".
8.00, 18.45 "Тэма дня".
8.10, 23.15 "Віртуальны сьвет".
8.20, 18.55 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
8.30 Баявік "Сталёвыя акулы".
10.40 Музканал.
11.00, 18.30 "Аўтапанарама".
11.15, 1.45 "M1". Музычная праграма.
11.30 "Дарма і Грэг".
12.00, 15.00, 18.00, 23.00 "24 гадзіны".
12.15 "Выпадковы сьведка".
12.45 "Дальнабойнікі".
13.50, 21.35 "Каменская".
16.55 "Чарцяня".
18.15 "Дзень добры, доктар!"
19.00 "Футурама".
19.30 Трылер "Цайтнот".
22.45 "Партрэт у інтэр'еры".
23.30 Мэлядрама "Сан-Францыска".

### ОРТ

8.00, 11.00, 17.00 Навіны.
8.15 "Зямля каханьня".
9.10 "Зь лёгкай парай!".
9.40 "Хто хоча стаць мільянэрам?".
10.35 "Падарожныя нататкі".
10.50 Бібліяманія.
15.00 "Мяжа. Таежны раман".
16.00 Вялікае мыццё.
17.30 Сьмехапанарама.
18.05 "Зямля каханьня".
19.05 "Слабае зьвяно".
20.00 Час.
20.35 "Мяжа. Таежны раман".
21.40 Як гэта было. "Ракета над Чорным морам". 2001 год.
22.30 Начны "Час".
23.00 Цывілізацыя.
23.30 "Начная зьмена".

### РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
8.15 Фільм "Жанна д'Арк".
9.05 "Два раялі".
10.30 "Санта-Барбара".
16.30 Камэдыя "Між высокіх хлябоў".
18.00 Фільм "Тытанік".
19.35 Мясцовы час. Весткі - Масква.
19.55 "Ніна. Расплата за каханьне".
20.55 Дэтэктыў "Пуаро Агаты Крысьці. Забойства ў М'юзе".
22.15 Мясцовы час. Весткі - Масква.
22.30 Вострасюжэтны фільм "Бугібой".
0.20 Прагноз надвор'я.

### Культура

9.15 "Залаты п'едэстал".
9.40, 16.30 "Поль Робсан". Дак. фільм.
10.40 "Жабяня шукае тату". Мультфільм.
10.50 "Дом акцёра".
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.45 Разам з Фафалем.
12.00 "Ох, ужо гэтыя дзеткі!".
12.15 Цесныя вароты.
12.30 Сцэнаграма.
13.00 "Легенда пра Тыля". Маст. фільм.
14.30 "Мяцеж рэфарматараў".
15.10 "Навальнічныя камяні".
15.35 "Музыка, дапамажы..."
16.05 "Расейскі кур'ер".
17.50 Палацавыя тайны.
18.15 "Гранд".
19.15 "Партытуры не гараць".
19.45 Дабранач, дзеці!
20.00 "Цытаты з жыцьця".
20.40 "Мільён у шлюбным кошыку". Маст. фільм.
22.10 Канцэртына.
22.30 Парыскі часопіс.

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сёньня.
7.40 Карданны вал.
7.45 Пяць хвілін з Наважонавым.
7.50 Вялікія грошы.
8.00, 21.55 "Хуткая дапамога".
9.25, 16.50 Сквапнасьць.
10.05 Шоў Алены Сьцепаненкі.
11.20 "Набожная Марта". 2-я сэрыя.
12.45 У запас.
13.20 Ток-шоў "Прынцып "Даміно".
14.40, 17.40 Крымінал.
15.30 Дэтэктыў "Памылка рэзыдэнта". 2-я сэрыя.
18.35 Герой дня.
18.50 "Адплата".
23.25 Гардон.

### ТБ 6

5.45, 14.40, 17.40 Дарожны патруль.
6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00, 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00 Цяпер.
6.10, 6.35, 7.15, 7.35, 8.25 Дзень за днём.
6.45, 20.35 Тушыце сьвятло.
7.50 Назло.
9.00, 18.45 "Агент нацыянальнай бясьпекі-I".
10.20 "Жанчына з характарам".
11.10, 14.20 Тэлекрама ў Менску.
11.25 "Самыя гучныя злачынствы XX стагодзьдзя".
12.20, 16.35 "Дэтэктыў Нэш Брыджэс".
13.15, 20.50, 23.35 "За шклом". "Апошні біфштэкс".
15.00 "100 цудаў сьвету". "Рысь".
22.00 Грані.
22.45 "Без пратаколу".
0.05 "Першы музычны канал".

### CNN

7.00 Навіны бізнэсу.
11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00, 2.00, 3.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
10.00 Business Central.
11.30, 14.30, 17.30, 0.30, 3.30 Навіны спорту.
12.30, 19.30 Міжнародны рэпартаж.
13.00, 16.00 Сусьветны бізнэс.
18.30, 22.30, 5.30 Пытаньне-адказ.
21.30, 23.30 Сусьветны бізнэс сёньня.
0.00 Погляд знутры.
1.00, 6.30 Фінансавая гадзіна.
2.30 Раніца дзелавой Азіі
4.00 Лары Кінг

### Эўраспорт

9.30, 23.00 Тэніс.
20.30 Экстрэмальныя віды спорту.
21.00 Бокс.
0.00, 2.15 Навіны.
0.15 Футбол.

## СЕРАДА, 23 СТУДЗЕНЯ

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.45 Навіны.
6.10, 7.10, 8.10 Добрай раніцы, Беларусь!
9.10 "Грамадзянін начальнік".
10.05 Здароўе.
10.30 "Маленькія Айнштайны".
11.00 "Сямейныя повязі".
12.15 Дзень добры, Беларусь!
13.05 "ТАСС упаўнаважаны заявіць". Маст. фільм. 2-я сэрыя.
14.15 "Скарбы сусьветнай культуры".
14.30 Час мясцовы.
15.20 "Горац".
15.40 "Маленькія Айнштайны".
16.10 "Пяць цудаў".
16.20 "5х5". Праграма для старшаклясьнікаў.
17.00 "Грамадзянін начальнік".
18.20 Зона Ікс.
18.30 Гадзіна прафэсіянала.
18.55 Баскетбол. Чэмпіянат Эўропы. Паўфінал. Мужчыны. Беларусь - Вугоршчына. У перапынку - Энцыкляпэдыя беларускага спорту. Баскетбол.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 "Сямейныя повязі".
22.40 Спорт-кур'ер.
22.50 "Чатыры танкісты і сабака".
0.00 Крымінальнае дасье.
0.25 "Сустрэча ў Траецкім" з Аляксандрам Дамарацкім.
0.55 Валейбол. Мужчыны. "Гомель" - "Канкордыя НАФЕЛС" (Швайцарыя).

### СТВ

6.00, 16.30 "Паўэр рэйнджэрз, ці Магутныя рэйнджэры".
6.30, 16.00 "Цік - герой".
7.00, 15.30 "Неймаверны Халк".
7.30 "Прынцэса Сысы".
8.00, 18.45 "Тэма дня".
8.10, 23.15 "Віртуальны сьвет".
8.20, 18.55 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
8.25 "Сьнеданьне зь Лікай".
8.30 Трылер "Цайтнот".
10.40 Музканал.
11.00, 23.25, 2.30 "M1". Музычная праграма.
11.30 "Дарма і Грэг".
12.00, 15.00, 18.00, 23.00 "24 гадзіны".
12.15 "Выпадковы сьведка".
12.45 "Ня з гэтага сьвету ". Дак. фільм.
13.45, 21.40 "Каменская".
16.55 "Чарцяня".
18.15 "Радыё-кропка".
18.35 "Фільм, фільм, фільм..."
19.00 "Сымпсаны".
19.30 Драма "Чалавек, які плакаў".
23.35 Камэдыя "Бацька нявесты".

### ОРТ

8.00, 11.00, 17.00 Навіны.
8.15 "Зямля каханьня".
9.15 Сьмехапанарама.
9.45 "Слабае зьвяно".
10.35 "Падарожныя нататкі".
10.50 Бібліяманія.
15.05 "Мяжа. Таежны раман".
16.05 Вялікае мыццё.
17.30 Куміры. Выпрабаваньне славай. Уладзімер Трошын.
18.00 "Зямля каханьня".
18.55 "Апошні герой". "Ахвярапринашэньне".
20.00 Час.
20.35 "Мяжа. Таежны раман".
21.40 Чалавек і закон.
22.30 Начны "Час".
23.00 Расейскі экстрым.
23.30 "Начная зьмена".

### РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
8.15 Фільм "Жанна д'Арк".
9.05 "Два раялі".
10.30 "Санта-Барбара".
16.30 Вялікі рэпартаж РТР. "Пара году - палярная ноч".
17.00 "Мужчына і жанчына". Ігар Маісееў.
18.00 Фільм "Тытанік".
19.35 Мясцовы час. Весткі - Масква.
19.55 "Ніна. Расплата за каханьне".
20.55 Дэтэктыў "Пуаро Агаты Крысьці. Прыгоды Джоні Вэйвэрлі".
22.15 Мясцовы час. Весткі - Масква.
22.30 Вострасюжэтны фільм "Лічаныя сэкунды".
0.05 Саюз былых. Дак. фільм "Таджыкістан".
0.55 Прагноз надвор'я.

### Культура

9.15 Ток-шоу "Наўздагад".
9.40, 16.35 Разуменьне. "Тэлебачаньне".
10.30 "Расейскія напевы". Мультфільмы.
10.45 "Камэра-абскура".
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.45 Разам з Фафалем.
12.00 "Ох, ужо гэтыя дзеткі!".
12.15 Чым жыве Расея.
12.30 "Бліскучы Санкт-Пецярбург".
13.00 "Легенда пра Тыля". Маст. фільм.
14.10 М. Равэль. "Дафніс і Хлоя".
14.30 "Мяцеж рэфарматараў".
15.10 "Навальнічныя камяні".
15.35 Мультфільмы.
16.05 "Ноў-хаў".
17.50 Хто мы?
18.15 "Гранд".
19.15 "Міхаіл Булгакаў. Чорны сьнег".
19.45 Дабранач, дзеці!
20.00 Айчына і лёсы.
20.40 "Рэпэтыцыя".
21.20 "Прыгоды зубнога лекара". Маст. фільм.
22.40 Канцэртына.

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сёньня.
7.15, 12.45 У запас.
7.40 Карданны вал.
7.45 Пяць хвілін з Наважонавым.
7.50 Вялікія грошы.
8.00, 21.55 "Хуткая дапамога".
9.25, 16.55 Сквапнасьць.
10.05 Кватэрнае пытаньне.
10.35 "Асяродзьдзе".
11.20 Фільм "Не страляйце ў белых лебедзяў". 1-я сэрыя.
13.20 Ток-шоў "Прынцып "Даміно".
14.40, 17.40 Крымінал.
15.20 Дэтэктыў "Лёс рэзыдэнта". 1-я сэрыя.
18.35 Герой дня.
18.55 Вострасюжэтны фільм "Палоньніца каханьня".
23.25 Гардон.

### ТБ 6

5.45, 14.40, 17.40 Дарожны патруль.
6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00, 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00 Цяпер.
6.10, 6.35, 7.15, 7.35, 8.25 Дзень за днём.
6.45, 20.35 Тушыце сьвятло.
7.50 Назло.
9.00, 18.45 "Агент нацыянальнай бясьпекі".
10.20 "Жанчына з характарам".
11.10, 14.20 Тэлекрама ў Менску.
11.25 "Самыя гучныя злачынствы XX стагодзьдзя".
12.20, 16.35 "Дэтэктыў Нэш Брыджэс".
13.15, 20.50, 23.35 "За шклом". "Апошні біфштэкс".
15.00 "100 цудаў сьвету". "Сеткі павукападобнай малпы".
22.00 Грані.
22.45 "Без пратаколу".
0.05 "Першы музычны канал".

### CNN

7.00 Навіны бізнэсу.
11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00, 2.00, 3.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
10.00 Business Central.
11.30, 14.30, 17.30, 00.30, 3.30 Навіны спорту.
12.30, 19.30 Міжнародны рэпартаж.
13.00, 16.00 Сусьветны бізнэс.
18.30, 22.30, 5.30 Пытаньне-адказ.
21.30, 23.30 Сусьветны бізнэс сёньня.
0.00 Погляд знутры.
1.00, 6.30 Фінансавая гадзіна.
2.30 Раніца дзелавой Азіі
4.00 Лары Кінг

### Эўраспорт

9.30 Лыжны фрыстайл.
10.00, 16.30, 23.00 Тэніс.
15.00, 20.00 Біятлён.
21.00 Часопіс "Алімпійскія гульні".
21.30 Усе спартовыя спаборніцтвы.
22.30 Парусны спорт.
0.00, 20.15 Навіны.
0.15 Гольф.
1.45 Сноўбард.

## ЧАЦЬВЕР, 24 СТУДЗЕНЯ

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.10, 7.10, 8.10 Добрай раніцы, Беларусь!
9.10 "Грамадзянін начальнік".
10.05 Тэлевітамін.
10.30, 15.40 "Маленькія Айнштайны".
11.00, 21.45 "Сямейныя повязі".
12.15 Дзень добры, Беларусь!
13.05 "ТАСС упаўнаважаны заявіць..." Маст. фільм. 3-я сэрыя.
14.15 "Скарбы сусьветнай культуры".
14.30 Сутнасьць. Духоўная праграма.
15.20 "Горац".
16.10 "Пяць цудаў".
16.20 "5х5". Праграма для старшаклясьнікаў.
17.00 "Грамадзянін начальнік".
18.25 Зона Ікс.
18.40 Прыгодніцкі фільм "Тарзан і згублены горад".
20.10 "Наша спадчына". Помнік архітэктуры XVI стагодзьдзя палац Радзівілаў у Нясьвіжы. Частка 2-я.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
22.35 Спорт-кур'ер.
22.45 "VIP".
23.50 Каралеўскае паляваньне.

### СТВ

6.00, 16.30 "Паўэр рэйнджэрз, ці Магутныя рэйнджэры".
6.30, 16.00 "Цік - герой".
7.00, 15.30 "Неймаверны Халк".
7.30 "Прынцэса Сысы".
8.00, 18.45 "Тэма дня".
8.10, 23.35 "Віртуальны сьвет".
8.20, 18.55 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
8.25 "Дабро паскардзіцца".
8.30 Драма "Чалавек, які плакаў".
10.45 Музканал.
11.00, 23.45, 1.50 "M1". Музычная праграма.
11.30 "Дарма і Грэг".
12.00, 15.00, 18.00, 23.20 "24 гадзіны".
12.15 "Вовачка".
12.45 "Ня з гэтага сьвету ". Дак. фільм.
13.45, 22.10 "Каменская".
16.55 "Чарцяня".
18.15 "Рамонт".
18.30 "Экзотыка".
19.00 "Сымпсаны".
19.30 Мэлядрама "Дзікае каханьне".
0.05 Камэдыя "Бацька нявесты-2".

### ОРТ

8.00, 11.00, 17.00 Навіны.
8.15 "Зямля каханьня".
9.10 Куміры. Выпрабаваньне славай. Уладзімер Трошын.
9.40 "Хто хоча стаць мільянэрам?".
10.35 "Падарожныя нататкі".
10.50 Бібліяманія.
15.00 "Мяжа. Таежны раман".
16.00 Вялікае мыццё.
17.35 "Самі з вусамі".
18.05 "Зямля каханьня".
19.05 "Слабае зьвяно".
20.00 Час.
20.35 "Мяжа. Таежны раман".
21.40 "Мяжа. Таежны раман". Пасьляслоўе.
22.30 Начны "Час".
23.00 "На футболе".
23.30 "Начная зьмена".

### РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
8.15 Фільм "Жанна д'Арк".
9.05 Сам сабе рэжысэр.
10.30 "Санта-Барбара".
16.30 Фільм "Каханьне на замову".
18.00 Фільм "Тытанік".
19.35 Мясцовы час. Весткі - Масква.
19.55 "Лэдзі-бомж".
20.55 Дэтэктыў "Пуаро Агаты Крысьці. Радоскі трохкутнік".
22.15 Мясцовы час. Весткі - Масква.
22.30 Вострасюжэтны фільм "Яго звалі "Крумкач".
0.10 Прагноз надвор'я.

### Культура

9.10 Літургічная музыка ў Маскоўскім Крамлі.
9.40, 16.35 Разуменьне. "Вірусы".
10.30 "Загадка Сьфінкса". Мультфільм.
10.45 Айчына і лёсы.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.45 Разам з Фафалем.
12.00 "Ох, ужо гэтыя дзеткі!".
12.15 Чым жыве Расея.
12.30 "Век мой, зьвер мой".
13.00 "Легенда пра Тыля". Маст. фільм.
14.10 М.Мусаргскі. "Карцінкі з выставы".
14.45 Архітэктурная галерэя.
15.10 "Навальнічныя камяні".
15.35 Мультфільмы.
16.05 "Вандроўкі музыкі".
17.50 Пятае вымярэньне.
18.15 "Гранд".
19.15 "Міхаіл Булгакаў. Чорны сьнег".
19.45 Дабранач, дзеці!
20.00 "Маэстра".
20.50 Кароткамэтражныя маст. фільмы.
21.35 "Культурная рэвалюцыя".
22.30 "Джазафрэнія".

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сёньня.
7.15, 12.40 У запас.
7.40 Карданны вал.
7.45 Пяць хвілін з Наважонавым.
7.50 Вялікія грошы.
8.00 "Хуткая дапамога".
9.25 Сквапнасьць.
10.10 Дог-шоў "Я і мой сабака".
11.25 Фільм "Не страляйце ў белых лебедзяў". 2-я сэрыя.
13.20 Ток-шоў "Прынцып "Даміно".
14.40, 17.40 Крымінал.
15.25 Дэтэктыў "Лёс рэзыдэнта".

# “Не пагаджаюся з тым, з чым

## *Гутарка з ізраільскім пісьменьнікам Этгарам Керэтам*

**— Ужо больш за год не бывае такога дня, каб у газэтах не зьявілася інфармацыя, што ў Ізраілі зноў адбылося нешта нядобрае. Глядзіце навіны: у Хайфе зьявіўся палестынскі камікадзэ, у выніку былі параненыя 11 чалавек. За колькі дзён да таго ў Ерусаліме й Хайфе загінулі ад замахаў 26 чалавек. Як можна жыць у такой атмасфэры?**

— Непадалёк ад майго дому за апошнія некалькі гадоў было зь пяць выбухаў. Ну што ты тут зробіш? Нічога. Ідзеш па цыгарэты альбо выпіць і ня думаеш, што зараз узьляціш у паветра. Гэта лепей, чым баяцца.

Але гэта, відаць, неяк ненармальна, што ў такой сытуацыі людзі жывуць, нібы нічога не адбываецца. Увечары зьбіраешся на імпрэзу, а па тэлевізіі кажуць, што недалёка адбыўся выбух. Але ці ня лепей ісьці на банкет, забыцца, чым сядзець дома й баяцца? Гэта гаворка пра этыкет, пра добрыя манеры, пра густ, пра тое, ці можна апрануць чырвоную кашулю да блакітных нагавіцаў.

Альбо ці можна ў дні тэрарыстычных атак паказваць па ізраільскай тэлевізіі “крамы на канапе”? Некаторыя кажуць, што можна, бо гэта сыгнал, што мы моцныя, здужаем launch пература́ць пагрозу. А ці выпадае паказваць тады рэкляму? Камэрцыйныя станцыі кажуць, што трэба, бо яны без рэклямы збанкрутуюць.

Усё гэта разам — нешта накшталт дыялёгу пра чалавечую натуру: што нам можна, ці выпадкам ня цешымся мы замнога альбо замала? Калі ты галодны — ясі, калі змучаны — сьпіш, калі выбухае бомба — прызвычайваешся да гэтага крывавага вар’яцтва.

**— Некалькі год таму, калі ў Бэлфасьце яшчэ выбухалі бомбы, я ехаў аўтобусам праз Паўночную Ірляндыю. Гармідар, галас — і раптоўная ціша, бо па радыё перадаюць навіны: людзі хочуць пачуць, ці не адбыўся дзе выбух. Тое ж я бачыў і ў Ізраілі, хоць быў там у час міру.**

— Калі ў Нямеччыне выйшла мая першая кніга, *Frankfurter Allgemeine Zeitung* адгукнулася на яе вельмі ўхвальнай рэцэнзіяй. Там палічылі, што кніга была гратэскам, бо я пісаў пра тое, што на зямлі абяцанай на пачатку кожнай гадзіны ўсе прыціхаюць — слухаюць навіны, што на зямлі абяцанай падарожнічаюць зь пісталетамі й карабінамі, як на Дзікім Захадзе. А я ж толькі апісваў рэчаіснасьць, якую бачыў за акном. Многія мае знаёмыя — унівэрсытэцкія выкладчыкі, мае сябры — ходзяць зь пісталетамі, як нейкія шэрыфы. ...Шмат хто лічыць, што мае творы — звычайны сабатаж.

**— Што значыць “сабатаж”?**

— Калі я пачынаў пісаць, у Ізраілі панавала думка, што не пра ўсё можна пісаць, не пра ўсё можна пытацца. Калі краіна знаходзіцца ў стане вайны, мы мусім падтрымліваць адзін аднаго, а не крытыкаваць.

**— Маеце на ўвазе самацэнзуру?**

— У ізраільскай традыцыі пісьменьнік мусіць быць прагматычным і канструктыўным — як біблійны прарок. Пісьменьнік кажа ўраду: зрабіце тое й тое, кажа людзям: вы мусіце галасаваць за тых і тых, намаўляе іх да канкрэтных палітычных рашэньняў, і палітыкі ахвотна сустракаюцца зь пісьменьнікамі, шукаючы іхнае падтрымкі.



Этгар Керэт

**ЭТГАР КЕРЭТ (нар. у 1967 г.) — празаік, зорка маладой ізраільскай літаратуры, выкладчык кінаінстытуту ў Тэль-Авіве. Ягоныя бацькі прыехалі ў Ізраіль з Польшчы. Стаў вядомым па напісаньні (пасьля забойства прэм’ера Іцхака Рабіна) апавяданьня “Рабін памёр”, якое распавядала пра ката па мянушцы Рабін, якога пераехаў матацыкл. Запраграмаваны інфантылізм гэтага апавяданьня лягчэй прабіўся да ўражаньняў маладых чытачоў, чым міжвольны інфантылізм афіцыйнай пампэзнасьці жалобных паседжаньняў.**

Я ж пішу пра тое, чаго трэба саромецца, што ёсьць неканструктыўным, я ніякіх парадаў не даю, выйсьцяў не падказваю, бо я сам часта ня ведаю, што рабіць, ці ёсьць выйсьце ў нейкай сытуацыі і дзе яно ёсьць, як яго шукаць. Я ня ведаю — і таму я ня ўпісваюся ў традыцыю.

**— Ці азначае гэта, што Вы не згаджаецеся з пазыцыяй Амоса Оза, які шмат гадоў схіляе ўрады да мірных перамоваў з палестынцамі і глыбока заангажаваны ў палітыку?**

— Амос Оз — фантастычны пісьменьнік, адзін з наймудрэйшых людзей, якіх я калі-небудзь чуў. Аднак калі сказаць, што Оз пастаянна дамагаецца міру, шмат палестынцаў не пагодзяцца. Яны вам скажуць, што Оз — тыповы ізраільскі кансэрватар...

*Найбольшыя лібэралы будуць табе найбольшымі фашыстамі. Амазонскія джунглі яны бароняць, а насельнікі тых джунгляў ім да лямпачкі*

Для мяне Оз — вельмі важная постаць, чалавек, адказны за тое, што ён робіць. Але мы зь ім розныя людзі, і розная наша адказнасьць. Мы жывем у краіне надзвычай заідэалягізаванай, у якой людзі часта забываюць, што апроч палітыкі й ідэалёгіі ў жыцьці ёсьць і іншыя важныя справы. Глядзіш па тэлевізіі праграму “Спатканьне ў цемры” і чуеш, што першае пытаньне да дзяўчыны гучыць так: “Ці прыгожая ты?”, а другое: “За якую партыю галасуеш?” Гэта ж нейкае вар’яцтва!

Мая старэйшая сястра — ультраканэрватыўная жыдоўка. У яе дзесяць дзяцей, яна жыве ў Мэа Шарым — артадаксальнай частцы Ерусаліму. Шмат хто на мяне злуе, што я падтрымліваю зь ёй кантакты, што я яе люблю. Яны пытаюцца: “Як ты можаш любіць кагосьці з такімі палітычнымі, рэлігійнымі, грамадзкімі поглядамі?” А я магу.

**— А што думае сястра?**

— Падчас дэманстрацыі ультраартадоксаў з Мэа Шарым у бойцы са сьвецкімі жыдамі загінуў рабін, сусед маёй сястры; нехта яго штурхануў, даў у галаву — і капут. Тады артадоксы даслалі ліст у ААН, каб у Мэа Шарым разьмясьцілі міжнародныя войскі, якія б адмежавалі іх ад ізраільскай паліцыі. Яны не прызнаюць дзяржавы Ізраіль, лічаць, што гэта не жыдоўская краіна, і не галасуюць падчас выбараў, ня служаць у войску, жывуць цалкам ізалявана. Перамовы Арафата з Шаронам для маёй сястры маюць такое ж значэньне, як сустрэчы міністраў Бэльгіі й Францыі. Яе гэта зусім ня тычыцца. Яна лічыць, што людзі ня ведаюць Праўды, а калі даведаюцца, адразу настане мір. Я зусім ня згодны зь ёй.

А мой старэйшы брат — кіраўнік руху за легалізацыю марыхуаны. Паслухаць, як яны з маёй сястрой гавораць адно з адным, — гэта сапраўдны цырк! Яны стаяць на супрацьлеглых пазыцыях, але брат часта падказвае сястры, што належыць рабіць падчас дэманстрацыі, каб паліцыя не магла законна прычапіцца. Гэта ў іх тады такая кааліцыя ўтвараецца.

Калісьці я напісаў адну кніжачку спэцыяльна для маіх пляменьнікаў. У дамове з выдавецтвам было агаворана, што адзін асобнік будзе надрукаваны ў артадаксальным стылі: у хлопцах на карцінках былі пэйсы і ярмолкі, уступ і прысьвячэньне былі выкананыя на ідыш, бо жыды-артадоксы лепей размаўляюць на ідыш, чым па-габрэйску. Сястра паказала кнігу рабіну, а той загадаў не даваць яе дзецям, бо кніга не гаворыць ні пра якія жыдоўскія маральныя вартасьці, а чытаньне для прыемнасьці — марнаваньне часу. Мне было вельмі прыкра, але я не злую на сястру, ведаю, што яна добры чалавек, лепшы, чым многія левакі, якія часта й маюць правільныя погляды, але самі гаўнюкі гаўнюкамі — будуць цябе падманваць, жанок біць.

Я быў пару месяцаў у Амэрыцы і пераканаўся, што найбольшыя лібэралы будуць табе найбольшымі фашыстамі. Яны гатовыя цябе састрэліць, калі ты курыш у грамадзкім месцы, аблююць памыямі, варта табе ўжыць мужчынскую, а не жаночую форму слова, варта табе сказаць “пісьменьнік”, а не “пісьменьніца” — нават калі ангельская мова для цябе чужая, а таму ты маеш права рабіць памылкі. Амазонскія джунглі яны бароняць, а насельнікі тых джунгляў ім да лямпачкі.

**— Таму палестынцы лічаць, што ізраільскія прыхільнікі міру, кшталту Оза, кансэрватары?**

— Палестынцы лічаць, што Оз — правы па сваіх поглядах, бо ён сьцьвярджае, што калі нейкая палестынская тэрарыстычная групоўка падрыхтуе замах супраць Ізраілю, дык Ізраіль мае права папярэдзіць атаку, застрэліўшы іх. Палестынцы такога не разумеюць, лічаць, што раз чалавек жадае абараняцца такім чынам, значыць ён зь ліку правых.

Калі на Блізкім Усходзе людзі гавораць пра мір, гэта зусім не азначае, што яны насамрэч гавораць пра мір. Шарон гаворыць пра “бясьпечны мір” — а мір заўжды нясе небясьпеку: забіваць ворагаў больш бясьпечна, чым жыць у міры. Палестынцы кажуць пра “справядлівы мір”, але мір ёсьць кампрамісам, а кампраміс — адмаўленьне ўласнай рацыі, таму мір несправядлівы. Арафат і былы прэм’ер Ізраілю Эгуд Барак казалі пра “мір адважных”. Але ж адважным людзям мір не патрэбны, адважныя страляюць, кідаюцца бутэлькамі з запальнай сумесьсю.

Дыялёг на Блізкім Усходзе падобны да двух асобных маналёгаў — абодва бакі гавораць, але ня слухаюць. Ізраільцяне перакананыя, што ў палестынцаў такі самы склад мысьленьня, як і ў іх, і таму яны лічаць, што ведаюць, чаго хочуць палестынцы. Гэта ілюзія, але ў нас ёсьць глыбокая патрэба знаходзіць сабе такіх віртуальных палестынцаў. А палестынцы шукаюць віртуальных ізраільцянаў.

Ізраіль — краіна, прасякнутая Захадам, заходняй мэнтальнасьцю, дзе пануюць заходнія вартасьці, культура. Палестына — не. Вось сустракаўся Барак з Арафатам і думаў, што дакладна ведае, чаго

*Вечная ахвяра ня ў стане спачуваць, ёй кажаш, што табе нешта баліць, а яна: “Табе баліць? Што ты ведаш пра боль? Вось каму баліць, дык гэта мне”*

хоча Арафат. Тым часам Арафат хацеў нечага зусім іншага і быў перакананы, што Барак мусіць ведаць, чаго ён хоча. Інакш кажучы, калі ізраільцяне казалі пра мір і палестынскую дзяржаву, палестынцы думалі: яны кажуць, што зараз сядуць на свае самалёты й паляцяць у Польшчу, ЗША, Францыю, бо яны ж адтуль прыехалі, там іхныя дамы. А ізраільцяне, слухаючы палестынцаў, верылі, што палестынцы кажуць: нам падабаецца, што вы вэстэрнізуеце Блізкі Ўсход, што вы прыносіце сюды заходнія вартасьці, дэмакратыю.

**— Ці насамрэч гэтыя культурны разрыў настолькі моцны?**

— Ён велізарны! Ізраіль — гэта самая дзіўная і шалёная краіна ў сьвеце. Ён ляжыць пасярод Блізкага Ўсходу, у сэрцы пустэльні, там стаіць сьпякота 40 градусаў у цені, а людзі ходзяць у гарнітурах, слухаюць клясычную музыку, сьпяваюць на конкурсах Эўравізіі, ганяюць футбольны мяч на Кубак УЭФА і так сабе ўяўляюць, што яны жывуць у Эўропе, недзе паміж Францыяй і Польшчай. Яны не заўважаюць, што гэта не Эўропа, што навакольле зусім іншае: іншая ежа, іншая мэнтальнасьць, іншае адчуваньне часу.

Большасьць маладых людзей у Ізраілі ў якасьці другой (пасьля ангельскай) мовы ў школе выбірае францускую. Навошта некаму ў Ізраілі француская? Ніхто не вывучае арабскай, хаця нашыя суседзі размаўляюць па-арабску. І гэта зусім не ад ляноты.

Ты ходзіш у школу 12 гадоў, ведаеш на памяць Гогаля і Чэхава, а за вокнамі бачыш вярблюдаў, якія ідуць праз пустэльню, ведаеш Дастаеўскага, але ня ведаеш анічога, што датычыць гэтага месца. І гэта накладаецца на ізраільска-палестынскі дыялёг.

Калі я бачыў размову Барака з Арафатам, у мяне было ўражаньне, нібы я бачу шэфа амэрыканскай фірмы “Хай-тэх”, які вядзе перамовы з арабскім шэйхам. Яны не маглі паразумецца, размаўлялі на розных мовах, Барак казаў кампліменты Арафату, а той думаў, што на яго нападаюць. Барак хацеў вырашыць справу за пяць хвілінаў, а для Арафата час мае зусім іншае вымярэньне. Урэшце, ён гаварыў пра вяртаньне зямлі так, нібы хацеў даць палестынцам калядны падарунак. Але ня можа быць калядным падарункам тое, што паўпоўна належыць табе.

Мой прыяцель, які працуе ў агенцыі “Ройтэрз”, распавядаў, што 40% ахвяраў вулічных боек гінуць ад уласных куляў — ізраільцяне выпадкова трапляюць у ізраільцянаў, а палестынцы — у палестынцаў. Тым часам палестынцы ў кожнай сьмерці, нават аўтамабільнай аварыі, вінавацяць ізраільцянаў. Палестынскі дзеяч Файсал Гусэйн памёр ад раку, але Арафат сказаў, нібы рак разьвіўся з-за таго, што тры месяцы таму ён удыхнуў ізраільскага сьлезацечнага газу падчас разгону дэманстрацыі. Калі я такое чую, я ня думаю, што арабы маняць, але — што яны ўжываюць мэтафары. Калі яны кажуць: “У нашую вёску ўвайшлі 200 ізраільскіх салдатаў”, — гэта азначае, што насамрэч іх увайшло ўсяго некалькі, але такі стыль арабскага расказваньня. Калі пра гэта ня ведаць, дык альбо паверыш у мэтафару, альбо падумаеш, што сутыкнуўся з манюкамі. Араб разумее араба без праблемаў. Эўрапеец, амэрыканец, ізраільцянін — не абавязкова.

**— Можа, такія апавяданьні сьведчаць хутчэй пра ўзровень нянавісьці?**

— Мая сястра гаворыць пра арабаў зусім ня так, як я, хоць абое мы ізраільцяне. І паміж палестынцамі таксама ёсьць розьніца. Ёсьць людзі з уцякацкіх лягераў, выхаваныя ў нянавісьці. Яны ня ведаюць нічога, апроч антыгабрэйскай прапаганды. І ёсьць людзі, якія ведаюць больш. У ЗША я пазнаёміўся з палестынцам, які сказаў мне: “Калі б я пабачыў каля свайго дому нейкага насельніка лягеру ўцекачоў, я б выклікаў паліцыю, бо гэта патэнцыйны вораг”.

**— А што ізраільцяне думаюць пра палестынцаў? На нядаўнюю антываенную маніфэстацыю руху “Мір сёньня” прыйшлі толькі 200 асобаў, хоць раней прыходзілі тысячы...**

— Гэта, пэўна, няпраўда. Можа, гэта вынік дзеяньня ізраільскай прапаганды? Дасьледаваньні грамадзкай думкі паказваюць, што бальшыня ізраільцянаў хочуць міру. Але мы жывем у краіне, пагружанай у глыбокую дэпрэсію. Людзі вераць у мір, губляюць веру, зноў вераць, зноў губляюць. На Блізкім Усходзе існуе толькі адна моцная кааліцыя — кааліцыя экстрэмістаў.

“Хамас” і радыкальных ізраільцянаў яднае гвалт. Пасьля замаху на Іцхака Рабіна Шымон Пэрэс спакойна выйграў бы выбары, але “Хамас” пачаў узрываць аўтобусы — і на наступных выбарах перамог Бэньямін Нэтаньяху. З Баракам была гэткая самая гісторыя: яго абралі, бо людзі хацелі міру, але “Хамас” зноў пачаў забіваць, і выбарцы прагаласавалі за Шарона. Я ня думаю, каб гэтая зьмена настрою выбарцаў азначала штосьці большае, чым страх.

Праблема ў тым, што Арафат не кантралюе палестынскіх тэрарыстаў, а ізраільская лявіца хаваецца за правіцу. Шарон абяцае, што, як толькі сем дзён пройдуць мірна, ён сядзе за стол перамоваў. А лявіца ня ведае, што на гэта адказаць, хаця яна магла б пайсьці на перамовы адразу.

Найбольшая зьмена ў палестынскай мэнтальнасьці адбылася пасьля масавых пратэстаў у Ізраілі супраць разьні ва ўцякацкіх лягерах Сабра і Шатыла [у 1982 г., пасьля заняцьця Бэйруту, Арыель Шарон дазволіў лібанскім хрысьціянскім баевікам, падтрыманым Ізраілем, увайсьці ў Сабру і Шатылу, палестынскія ўцякацкія лягеры, дзе яны забілі шмат мірных людзей. — **Рэд.**]. Мноства палестынцаў казалі мне, што тады яны зьмянілі ўяўленьне пра нас. Яны вырасьлі перакананымі, што мы хочам іх забіваць, але тады ўпершыню задумаліся: калі яны хочуць нас забіваць, дык што ж гэта за 300—400 тысячаў чалавек, што выйшлі на вуліцы, каб падтрымаць нас?

# пагаджаецца мой "народ"



На палестынскім баку адбываецца нешта падобнае, там шмат хто думае, што ўзрываць людзей, якія ядуць марцыпаны ў кавярні, нядобра. Калі палестынцы хочуць дапамагчы ізраільскай лявіцы, яны мусяць паказаць, што забіваць людзей у кавярнях — гэта дрэнна, яны мусяць спачуваць габрэйскаму болю. Калі б я быў палестынцам, я б змагаўся за сваю краіну — у гэтым я не сумняюся. Але я не хацеў бы несьці адказнасьць за забойствы людзей, зьнішчаных толькі таму, што яны жыды, бо гэта называецца этнічнай чысткай, гэта нацызам.

Адзіны голас, які Ізраіль сёньня чуе ад палестынцаў, — гэта замахі й бомбы, хаця палестынцы зноў сьцьвярджаюць, што вядуць інтыфаду — дзіцячае паўстаньне камянёў супраць ізраільскіх танкаў. Аднак гэта няпраўда. Калі палестынцы распачалі тую інтыфаду, яны маглі быць пэўныя, што выйграюць, бо праўда была на іхным баку. Цяпер усё інакш. Калі кажаш сьвету, што хочаш справядлівасьці, ніхто табе яе ня дасьць, калі сам чыніш несправядлівасьць.

**— Гэтая сытуацыя нагадвае заганнае кола.**

— Руйнаваць заўжды лягчэй, чым будаваць. Экстрэмісты добра ведаюць, што рабіць, а памяркоўныя губляюцца. Я ведаю мноства асобаў, якія калісьці займаліся палітыкай, а сёньня ўцякаюць у бізнэс, у навуку, бо ня ведаюць, што яны могуць зрабіць.

**— Ці ведаеце Вы якога-небудзь палестынца, які прыйдзе да Вас і скажа: я разумею твой боль, я не падтрымліваю тэрарызму, я з табой?**

— Я ведаю палестынцаў, якія мяркуюць так, але ці прыйшлі б яны да мяне дамоў — ня думаю. Ня ведаю, ці змаглі б яны нешта такое сказаць адкрыта, бо палестынскія мэдыі кантралююцца уладамі. Мае палестынскія знаёмцы паўтараюць, што з "Хамасам" яны ня згодныя, часам нават кажуць, што з уладамі аўтаноміі яны ня згодныя.

*Маючы адно пячэньне, можна атрымаць ці ўсяго па палове, ці ажно па палове*

цаў, гэта зьмяніла б дэмаграфічную сытуацыю. Я аглядаю Блізкі Ўсход і нідзе, акрамя Ізраілю, ня бачу дэмакратыі. Я не хачу праз 20 гадоў быць меншыняй у таталітарнай мусульманскай дзяржаве.

**— Ці шмат людзей думаюць гэтаксама, як ты?**

— Ізраільскім правым я магу здавацца недапушчальна левым, многім палестынцам — фашыстам. Але я лічу, што мушу казаць і пісаць тое, што кажу і пішу, бо на працягу ўсёй гісторыі Ізраілю і ізраільска-палестынскага канфлікту людзі, што жывуць тут, гаварылі толькі лёзунгамі. Сытуацыя вельмі складаная. Тут ніхто ня будзе на сто працэнтаў шчасьлівы, я ня думаю нават, што пасьля падпісаньня мірнага пагадненьня абодва бакі будуць дастаткова задаволеныя. Аднак — маючы адно пячэньне, можна атрымаць ці *ўсяго* па палове, ці *ажно* па палове.

У эсэ для *Die Zeit*, у якім я імкнуўся паказаць псыхалягічны стан ізраільцянаў, я пісаў, што пасьля 1945 г. жыды ў Ізраілі вая. Адзін стукне па мячыку — другому мячык зломіць нос. А сам ён невінаваты, бо ён усяго толькі мячык, своеасаблівая ахвяра гульні.

**— Калі Вы апошні раз размаўлялі пра гэта з палестынцамі?**

— Праз Інтэрнэт — увесь час. Але твар у твар — калі быў апошняга разу ў Амэрыцы. Я спаткаў там палестынскага пісьменьніка, які жыве ў Рамалаху. Ён прапанаваў мне, каб пасьля вяртаньня я наведаў яго дома. Я ня ведаў, што адказаць, бо ведаю, што палестынцам цяжка прыехаць у Ізраіль, але мне ў Рамалах — яшчэ цяжэй. Мы можам сустрэцца ў Парыжы, у Цюрыху — скрозь, толькі не ў сябе дома. У ЗША мы былі найблізкімі сябрамі, разумелі з ходу тое, чаго ня цямілі амэрыканцы, нам падабалася адна й тая самая ежа, адна й тая самая музыка. Калі нашы бамбардуюць Рамалах, я дасылаю яму мэйл: ці ўсё ў цябе добра? Калі тэрарыст-камікадзэ падрывае сябе ў Ізраілі, ён піша мне. Вось наш дыялёг.

**— А калі пагаворыце як людзі?**

— Ня ведаю. Я пэўны, што перад намі ёсьць нейкае выйсьце, але мы яго ўмеем знайсьці, ня ўмеем стварыць анічога канструктыўнага. Калі я настроены аптымістычна, думаю, што зь мірам — як з новым абуткам: ты яго выбіраеш, ён табе цісьне, намульвае мазалі, і толькі праз нейкі час ты можаш спакойна насіць гэты халерны абутак. Можа, і мір — праблема часу.

Аднак калі я не ў гуморы, я нагадваю сабе гісторыю Ізраілю. Ужо шматкроць мусіў быць мір, і заўжды яго няма. А мы ж не заўсёды будзем выйграваць. Можа, некалі, у найгоршым выпадку, у нас нават ня будзе сваёй краіны.

**— Дык, можа, эміграцыя?**

— Якая эміграцыя? Гэта нялёгка, асабліва для дзяцей, ацалелых ад Галакосту, і для чалавека, які на асабістым досьведзе зьведаў антысэмітызм за мяжой. Я думаў, што антысэмітызм — гэта трызьненне мінуўшчыны, ажно не. Неяк я сядзеў у бары ў Будапэшце і сказаў бармэну, што я з Ізраілю, дык ён задраў кашулю і паказвае мне татуіроўку — нямецкага арла. Гаворыць: "Мой дзед пару дзясяткаў жыдоў забіў, а сам я, — кажа, — запозна нарадзіўся". Што з таго, што потым ён сказаў, што нашае спатканьне для яго — нязвыклы досьвед, бо ён дагэтуль ня бачыў жыда, які б так адважна прызнаваўся ва ўласным жыдоўстве.

Аднак, зь іншага боку, я не хацеў бы жыць у Ізраілі, у якім не было б абавязковых умоваў для жыцьця. Я маю на ўвазе ня толькі фізычную бясьпеку, але і поўную нязгоду з палітыкай папярэдніх урадаў. Шмат жыдоўскіх пісьменьнікаў жылі й тварылі ў дыяспары. Але я жыву не ў дыяспары, я ў Ізраілі. Гэта маё жыцьцё, я ізраільцянін. Толькі я прыглядаюся да Ізраілю і часта не пагаджаюся з тым, з чым пагаджаецца мой народ.

*Большасьць маладых у якасьці другой (пасьля ангельскай) мовы выбіраюць францускую. Навошта некаму ў Ізраілі француская? Ніхто не вывучае арабскай, хаця нашыя суседзі размаўляюць па-арабску*

Падумайце — ад часу, калі ў Кемп-Дэвідзе Эгуд Барак прадставіў палестынцам сваю прапанову (ня буду сьцьвярджаць, што гэта была найлепшая прапанова, але яна была такая, зь якой ужо можна жыць), палестынцы ня мелі ніякіх зыскаў, затое шмат страцілі, і кожны акт гвалту зь іхнага боку толькі павялічвае гэтыя страты. Яны ў шызафрэнічнай сытуацыі. Я ведаю хлопца, які фарбуе дамы ў Ізраілі. Сустракаю яго на пачатку цяперашняй інтыфады, пытаюся: "Што ты робіш, калі не фарбуеш сьценаў у Ізраілі?" Ён кажа: "Кідаюся камянямі ў ізраільцянаў". Калі ты гадамі кожны дзень зранку за нікчэмныя грошы фарбуеш ізраільскія дамы, а пасьля абеду кідаешся камянямі, ты пэўна нейкі шызафрэнік.

Калі пытаешся ў палестынцаў, чаго яны хочуць, яны адказваюць: хочам права на вяртаньне. Я лічу, што ім патрэбная дзяржава, палова Ерусаліму, але права на вяртаньне... Мая мама з Варшавы, яна нарадзілася на Ерусалімскіх Алеях, сёньня ў тым доме банк. Што, яна мае вярнуцца ў банк, бо даўно выехала з Польшчы? Калі б у Ізраілі пасялілася шмат палестын-

лічылі сябе вечнымі ахвярамі: быў Галакост, мы пакутавалі, як ніхто іншы. Чэмпіёнства ў пакутах было адной з прычынаў таго, чаму вайна 1967 г. скончылася так, як яна скончылася. Калі прэзыдэнт Эгіпту Насэр сказаў адну дурную рэч: "Сьпіхнем жыдоў у мора", — у Ізраілі гэта пачулі і адказалі, што ніхто нас не сьпіхне ў мора, другога Галакосту ня будзе, нашы селі ў танкі, заваявалі шмат тэрыторыі — хутчэй з прычыны псыхалягічнай рэакцыі, чым рэальнай патрэбы.

Ізраільцянам пару дзясяткаў гадоў таму закарцела вызваліцца ад комплексу чэмпіёнаў па пакутах. А калі мы пачалі нібыта мучыцца менш, наш комплекс перайшоў на палестынцаў, яны сталі вечнымі ахвярамі. Вечная ахвяра ня ў стане спачуваць, яна слухае маралізатарства, ёй кажаш, што табе нешта баліць, а яна: "Табе баліць? Што ты ведаш пра боль? Вось каму баліць, дык гэта мне".

Адзін палестынскі інтэлектуал параўнаў некалі Блізкі Ўсход са спартовай пляцоўкай, а палестынцаў — зь мячыкам, па якім усе б'юць. Прыгожая мэтафара, але страшэнна небясьпечная, фальшы-

*Паводле Gazety Wyborczej*

бібліятэка

## Плянэта Беларусь

**На пачатку лютага ў амэрыканскіх кнігарнях зьявіцца кніжка невядомага дагэтуль аўтара Лі Гогена (Lee Hogan) з кароткай назвай "Беларусь".**




Кніжка ў мягкай вокладцы, якую выпускае ў сьвет выдавецтва *New American Library*, мае 416 старонак і каштуе нядорага — 7 даляраў. Найбуйнейшыя інтэрнэт-кнігарні — *Amazon* і *Barnes&Noble* — ужо прымаюць на кніжку папярэдняя заказы. Але няхай шаноўныя нацыяналісты й беларусазнаўцы не сьпяшаюцца даставаць свае крэдытныя карткі або тэлефанаваць сябрам у Амэрыку. З нашай "сінявокай" кніжку Лі Гогана лучыць адно назва.

На вокладцы "Беларусі" — футурыстычны пэйзаж з касьмічнымі караблямі й "цыбулінамі" расейскіх праваслаўных цэркваў над невядомай рэчкай. А фабуля гэтай фантастычнай аповесьці даволі прадказальная. Андрэй Міраненка, магнат Зорнай рэспублікі ў далёкай-далёкай будучыні, наважыўся пабудаваць адроджаную, лепшую Расею на купленай ім плянэце Беларусь. Аднак змрочная рэальнасьць перашкаджае зьдзяйсьненьню ягоных мараў. Зорная рэспубліка распадаецца на часткі, якія, зусім як постсавецкія краіны, будуюць сваё жыцьцё паасобку. На плянэце дзейнічае няўлоўны забойца-маньяк. Дый загнаныя ў падпольле былыя жыхары плянэты Беларусь не зьбіраюцца саступаць яе без бою. Што з гэтай кніжкі нам, беларусам? Няшмат. Адно, што яшчэ раз упэўніліся, — гучнае ў нашай краіны імя, прыгожае, на вокладкі кніжак просіцца! А нашыя гарачыя галовы гэтага ня цэняць, усё пра нейкую "Літваню" летуцяць. Годзе, панове!

**І.Г.**

дзе варта быць

### Канцэрт памяці Валер'я Фралова

**22 студзеня, у аўторак, у касьцёле Сьв.Роха адбудзецца канцэрт памяці беларускага габаіста Валер'я Фралова, саліста Філярмоніі, аднаго з заснавальнікаў ансамблю "Кантабіле", які ўпершыню выканаў знакаміты Полацкі сшытак.** На канцэрце выступяць легендарны ансамбль старадаўняй музыкі "Кантабіле", фагатыст Аляксей Фралоў і трыё "Вытокі". У праграме — музыка нямецкага, французскага і італійскага барока, філязофскія рамантычна-экспрэсіяністычныя сузіраньні для сольнага фаготу і, вядома ж, сюіты з "Полацкага сшытку". Пачатак а 19-й.

### Выстава Ігара Саўчанкі

**У Музэі сучаснага мастацтва адчынілася рэтраспэктыўная выстава беларускага фатографа-канцэптуаліста Ігара Саўчанкі.** Больш адпаведны кантэкст для гэтай выставы быў бы ў гістарычным музэі: сюжэты пераважнай большасьці здымкаў — савецкія краявіды й інтэр'еры, ананімныя тыпажы калгасьнікаў і чырвонаармейцаў. Ад сябе аўтар выставы дадаў да гэтых старых фатаздымкаў толькі парадаксальныя подпісы, некаторыя зь якіх ператварыліся ў кароткія аповесьці.

**В.Г., Юрась Барысевіч**

падзеі культуры

### СупКультУра

**12 студзеня ў менскім цэнтры культуры "Юнацтва" скончыў працу фэстываль эксьпэрымэнтальнага мастацтва "СупКультУра".** Зладзілі яго паэты Аляксей Талстоў, Зьміцер Радзівіл, музыка Хведар Жывалеўскі. На фэсьце прайшла выстава жывапісу і фота, канцэрт з удзелам музыкаў і паэтаў, сярод якіх былі Віктар Жыбуль, гурты "Нагуаля", "Элізабэт".

### Кіно пра Глебава

**У Саюзе кінэматаграфістаў прайшла прэм'ера поўнамэтражнага дакумэнтальнага фільму Міхася Жданоўскага "Майстар".** Прэм'ера была прымеркаваная да ўгодкаў сьмерці кампазытара Яўгена Глебава, якому й прысьвечаны фільм.

### Дом масонаў — Галубку

**10 студзеня ў Менску ў доме № 5 па Музычным завулку, вядомым як "Дом масонаў", адчыніўся Музэй гісторыі тэатральнай і музычнай культуры.** Дагэтуль музэй, вядомы як "Гасьцёўня Ўладзіслава Галубка", месьціўся ў Траецкім перадмесьці. За 12 год працы ягоныя супрацоўнікі сабралі больш як 14 тыс. экспанатаў.

"Дом масонаў" быў пабудаваны на пачатку XIX ст., нейкі час там жыла сям'я Станіслава Манюшкі.

**Ю.Б., М.Б.**

**А Ўладзімер Парфянок выставіў свае новыя здымкі ў Цэнтры Гётэ (Дом літаратара). Выстава называецца "Няпэўныя факты зь месца падзеяў". На фота: Уладзімер Парфянок на адкрыцьці выставы.**



BARCNEWS

### разьвітаньне мужчынаў са сваёй няправільна зразуметай мужнасьцю?

# Нямецкая жанчына – хто яна?

Алесь Эроціч

Кумірам № 1 для нямецкіх падлеткаў сёньня зьяўляецца акторка Ангеліна Джолі. Жывое ўвасабленьне Лары Крофт зьмяніла свой жа кампутарны эквівалент, які быў столькі год кумірам мільёнаў дзяцей і падлеткаў, што гуляюць у "*Tomb Rider*"[1]. Вытрывалая й рашучая, яна кулаком і пісталетам пракладае дарогу да праўды. Перад ёй была "бялявая бэстыя" — Нікіта, якая таксама валіла направа й налева "кепскіх" мужчынаў. Паралельна ішлі кампутарныя Конака, Джулія Страйнт, Каця Архерс...

Дзе вы, наіўныя й спагадлівыя гераіні Мэрылін Манро, загадкавыя й рамантычныя Ромі Шнайдэр, модніцы й гарэзы Брыджыт Бардо? Здаецца, ніхто зь іх ніколі ня ўдарыў нікога па твары, ня кажучы ўжо пра тое, каб застрэліць... Сёньня іх зьмянілі бясконцыя жанчыны-паліцыянткі ў нямецкіх сэрыялах, жанчыны-вайскоўкі ў амэрыканскіх...

А вось, напрыклад, назвы нямецкіх кніг: "Як стаць моцнай жанчынай", "Моцная жанчына і мужчыны", "Як дамагчыся ўлады над "моцным полам" і г.д. Вось парады нямецкага пісьменьніка Вільгельма Ёнэна з кнігі "Страх мужчыны перад моцнай жанчынай": "Ранейшы вобраз мужчыны і ягоныя ўстаноўкі... безнадзейна састарэлі. Самым правільным шляхам у трэцяе тысячагодзьдзе для нашай цывілізацыі зьяўляецца ўстаноўка на блізкі да матрыярхальнага грамадзкі лад. Разьвітаньне мужчынаў са сваёй няправільна зразуметай мужнасьцю будзе адбывацца прыблізна яшчэ год дваццаць..."

Коратка й зразумела. А галоўнае — напісана мужчынам.

Вільгельм Ёнэн ідзе далей за тэарэтыкаў фэмінізму XX ст., ад Эмы Гольдман і Розы Люксэмбург да Андрэа Дворкін і Вольгі Варонінай. Ён адкрыта называе будучы грамадзкі лад матрыярхатам, і ён не такі ўжо й далёкі ад праўды. Матрыярхат існуе, напрыклад, у некаторых плямёнах індзейцаў Амэрыкі. Мужчыны там не палююць і не працуюць, жанчыны маюць правы на ўладаньне зямлёй, кіруюць у хаце. Цікава, што там вельмі высокі ўзровень дзіцячага крыміналу і наркаманіі.

Сьветапогляд і нормы, якія складаліся стагодзьдзямі, фэміністка зьбіла адной пстрычкай. Эмансыпацыя зарадзілася больш за сто год таму. Першым фэміністкам не падабаліся ролевыя абмежаваньні мужчын і жанчын. Думка пра тое, што ў жанчыны можа быць уласная прастора апроч кухні й працы, што яна таксама можа й павінна атрымліваць аргазм, выглядала заманліва. Рух жанчын за вызваленьне пачаўся як цалкам апраўданая рэакцыя на жорсткасьць мужчынаў. Жанчыны стаміліся ад неразуменьня й прыніжэньня. Але, на жаль, зь цягам часу гэты рух перарос у агульны бунт супраць усіх мужчынаў. Такое ўражаньне, што пачынаецца пэрыяд узаконенага мужчынаненавісьніцтва. Няўжо як Сярэднявечча зь ягоным жанчынаненавісьніцтвам дайшло да "Молату ведзьмаў" і спаленьня мільёнаў жанчын на вогнішчах, так і эпоха мужчынаненавісьніцтва дойдзе да такіх крайнасьцяў?

Сёньня паўстаў новы тып жанчыны, упэўненай у сабе, якая адкрыта ставіць пад сумнеў мужчынскі сьветапогляд, ацэнкі й уяўленьні пра сацыяльныя нормы. Перамога й свабода — іхныя галоўныя каштоўнасьці, а канкурэнцыя — асноўны жыцьцёвы прынцып. Яны баяцца выявіць сваю слабасьць — напрыклад, сьлёзы. Уявіць фэміністку ў сьлязах немагчыма. У жыцьці й узаемаадносінах яны намагаюцца адпавядаць вобразу "моцнай жанчыны", непахіснай і ўладарнай. Адзін з бакоў сучаснага фэмінізму — непрызнаньне фізычнае розьніцы паміж мужчынам і жанчынай. Уся ў поце, жанчына будзе цягнуць свае валізы сама, і толькі паспрабуйце ёй дапамагчы! Сёньня Яна абавязаная быць героем і тварыць сваё жыцьцё, як змагар-адзінец. Арыентацыя на сілу ў мужчынскім разуменьні — гэта падрыў уласных эмацыйных сілаў.

Часта яны агрэсіўныя. Але агрэсія — прадукт страху. Іхная ўяўная сіла ёсьць ня больш чым спробай пазьбегнуць духоўных ацэнак і ізаляцыі. Многія зь іх жывуць ва ўласнаручна сканструяваным і расфарбаваным сьвеце са сваімі законамі й узаемасувязямі. Амаль заўсёды ў гэтых жанчын не складаецца асабістае жыцьцё. Глыбока незадаволеныя лёсам, яны не зважаюць на сапраўдныя прычыны сваіх бедаў (а гэта могуць быць генныя і эндакрынныя парушэньні, няправільнае выхаваньне, душэўная траўма ў дзяцінстве, проста няўменьне будаваць адносіны) і знаходзяць "крайняга" — мужчыну. У яе ўласнае сэксуальнае жыцьцё, яна мае права на актыўную ролю й створаная для каханьня, а ня проста для таго, каб прыносіць мужчыну задавальненьне. Ініцыятыва пераацэнкі адносінаў між поламі сёньня належыць жанчыне. Спадзяваньні на доўгатэрміновыя стасункі з мужчынам зьнікаюць звычайна ўжо зь першай няўдачай. Яны абапіраюцца на свой маленькі досьвед, амаль заўсёды заснаваны на памылкова-суб'ектыўных інтэрпрэтацыях: мужчына грубы, гвалтаўнік, хам, не адчувае і не разумее тонкасьцяў жаночай душы.

Спалучэньне страху й агрэсіі прымушае фэміністак яшчэ мацней замыкацца ў сваіх уяўленьнях. Гэтаму спрыяе й папулярны ў іхным асяродзьдзі лёзунг: "Усе мужчыны — сьвіньні". Так узьнікае фантом мужчыны, што ня мае нічога супольнага з рэаліямі, на якія накладаецца скажонае ўспрыманьне. Пэрспэктыва ж жыцьця бяз мужа сёньня не палохае фэміністак — дзяржава падтрымае. Сёньня "моцная" жанчына падтрымліваецца й прапагандуецца праз фармаваньне грамадзкай думкі й сродкі масавай інфармацыі. Часта такая жанчына адкрыта даводзіць, што ня мае патрэбы ў мужчыну — паводле статыстыкі, разводы найчасьцей ініцыююцца жанчынамі.

З эмансыпацыяй шчыльна зьвязаны рух лесьбіянак, усе яны змагаюцца за правы меншасьцяў, часьцяком з задавальненьнем ігнаруючы правы большасьці. Ня дзіва, што апошнім часам вырасла колькасьць "блакітных" — гэта зваротная рэакцыя мужчынаў на жаночае дамінаваньне. Бо, згодна з вынікамі апытаньняў нямецкіх сэксолягаў, сёньня многія мужчыны маюць сур'ёзныя цяжкасьці пры кантакце з новай нямецкай жанчынай.

Вось тыповы прыклад жанчыны 30—40 год з бэрлінскага раёну Кройцбэрг. Яна жыве па-за модай. Яе завуць Біргіт. Яна носіць грубыя чаравікі накшталт вайсковых. Ейная вопратка зазвычай пакамечаная й неахайная, няпэўнага колеру, фасону і памеру. Усё гэта дзеля таго, каб схаваць жаноцкасьць формаў цела. Касмэтыка, крэмы, памады і г.д. ігнаруюцца цалкам. Валасоў на галаве можа ня быць зусім, можа быць рознакаляровы "іракез" ці косы-пачоскі. Нагавіцы, згодна з новай модай, цягнуцца па зямлі. Зрэдку апранаюцца сетчатыя-панчохі з дэманстратыўна вялізнымі дзіркамі. Вельмі часта — ружовая камбінашка з вайсковымі ботамі.




"Чаму не жанчына?" Такое пытаньне задае тая (той?), хто прыляпіў спадніцу постаці на дарожным знаку

Мая знаёмая з Расеі трапіла неяк на міжнародны жаночы дзень ва ўнівэрсытэт імя Гумбальта, дзе сабраліся некалькі сотняў гэтых паняў. Яна была ў шоку, задавалася пытаньнем, для каго ж існуюць каталёгі моднай вопраткі, буцікі й г.д.

Галоўны вораг — мужчына, усе беды — ад яго, лічаць фэміністкі Кройцбэргу. Вось колькі найбольш іхных распаўсюджаных сэнтэнцыяў: "Усе мужчыны дурныя, як дзеці", "Мужчынаў цікавіць толькі сэкс", "Апроч футболу, ім ні да чога няма справы", "Яны толькі і ведаюць, што швэндацца зь сябрукамі", "Нічога разумнага ад іх не пачуеш", "Мужчынамі трэба кіраваць".

Калі мужчына і прысутнічае ў іхным жыцьці, дык пераважна ў якасьці сябра, але ня мужа, і толькі дзеля таго, каб цешыць адначасова фанабэрыю і пачуцьцёвасьць. З мужчынам можна разам выпіць, пакурыць траўкі, яго можна трахнуць. Слова "сэкс" тут не да месца, зь ім зьвязаныя асабліва зьненавідныя ў асяродку фэміністак словы "сэксіст" і "мачо". Нараджаць дзяцей па-за шлюбам сёньня лічыцца звычайнай справай, некаторыя носяць іх толькі 7 месяцаў (а навошта мардаваць сябе 9 месяцаў?) і не даюць ім прозьвішча бацькі. Выхаваньне дзяцей у звычайным разуменьні гэтага слова адсутнічае цалкам...

Фэміністкі актыўна ўмешваюцца ў палітыку, эканоміку, войска. Іх любімы занятак у Кройцбэргу — хадзіць на "дэма" з чырвона-чорнымі сьцягамі, лаяць на сустрэчах буржуазнае грамадзтва й царкву, хваліць Мао і Троцкага ды патрабаваць вызваленьня турэцкіх жанчын, якія "топяцца" ў патрыярхальных сем'ях. Пад 40 год незадавальненьне жыцьцём пераймае ўсе іншыя пачуцьці. Ня дзіва, што многія зь іх — пацыенты псыхалякарняў. Трыццацігадовая жанчына, што выглядае на 40 год, — звыклая справа. І віной таму ня толькі недагледжаная скура твару. Зазвычай усе яны шмат паляць, часта гашыш і марыхуану. Багата алькагалічак.

Зьнявечыўшы сыстэму трох "К"[2], што складалася стагодзьдзямі, новая нямецкая жанчына нічога не дала наўзамен. Ці зьяўляюцца яны носьбіткамі новых прагрэсіўных ідэяў? Зусім не. Усё гэта ўжо было. Яшчэ ў Расейскай Імпэрыі жанчыны кіравалі тэрарыстычнымі арганізацыямі і кідаліся з нажамі на губэрнатараў (у Нямеччыне гэта пачалося толькі ў 70—80-я гады XX ст.) Ужо ў першую сусьветную вайну ў Расеі былі жаночыя падразьдзяленьні, а ў рэвалюцыю і грамадзянскую прыгожы пол у камісарскіх скураных куртках вёў у атаку батальёны і душыў бунты на караблях. Жанчыны дапытвалі ворагаў у ЧК і сядзелі за кулямётам. Потым пераселі на трактары, за штурвалы самалётаў і караблёў. У другую сусьветную вайну яны — адважныя выведніцы, партызанкі, снайпэркі, лётчыцы. Усё гэта — частка спэктаклю, які жанчыны прапаноўвалі сабе і сьвету. Усяго гэтага ня ведала Нямеччына й іншыя краіны.

Мы жывем у пераходны пэрыяд, калі рэальнасьць зьмяняецца так хутка, што сьвядомасьць не пасьпявае адаптавацца. Духоўны, сацыяльны й іншыя крызысы перажывае цяпер увесь сьвет. Паўсюль расьце колькасьць разводаў. Інстытут сям'і пераглядаецца, а выраджэньне сям'і непазьбежна вядзе за сабой выраджэньне нацыі. Старыя традыцыі сыходзяць зь цяжкасьцю. І так лёгка прыйсьці ў адчай перад абліччам праблемаў, што захліснулі сьвет. І да таго часу, пакуль мы не зразумеем, што ўсе і кожны вартыя разьняволеньня і свабоды, што ўсе роўныя (і ў той жа час так інтрыгуюча розьнімся міжсобку), мы застанемся ў пастцы сваіх уяўленьняў і бар'ераў. Нам даводзіцца жыць у гэтым сьвеце, і кожны з нас здольны вызначыць сваю будучыню...

Па падліках спэцыялістаў, галоўнай глядацкай аўдыторыяй звышпапулярнага фільму "Тытанік" былі маладыя дзяўчаты. Некаторыя глядзелі яго па 2—3 разы. І гэта надае аптымізму. Прырода разумная, усё ў ёй падначалена законам гармоніі і ўсё цудоўна, а выродлівыя і трагічныя зьявы існуюць толькі з-за дзёрзкага і вар'яцкага памкненьня чалавека зьмяніць суадносіны прыродных сіл і частак, парушыць яе гармонію.

**Бэрлін, Кройцбэрг**

1 Модная кампутарная гульня. Лара Крофт — яе пэрсанаж.

2 "Kinder, Küchen, Kirche" — дзіця, кухня, царква (ням.).

**Алесь Эроціч — беларускі мастак-нанканфарміст. У 90-х заснаваў у Менску мастацкую суполку "Галіна", галерэю "Шостая лінія" й тэатар "Сталёвы аргазм". Аўтар шэрагу стрыптыз-шоў. З 1999 г. стала жыве ў Бэрліне. Ягоная апошняя публікацыя — эсэ "Адзін погляд на Бэрлін з Крыжовай гары" ("ARCHE-Скарына", № 3—2001).**

## "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Чмялевічы, Менскай губ., Барысаўскага пав.** Тут прыкінулася надта паганая хвароба — воспа. Хварэюць ня толькі дзеці, але і старыя. Было ўжо колькі выпадкаў сьмерці...

Жывець тут нейкі лекар-самавук. Да яго бабы ўплаў плывуць. Ён усе хваробы лечыць адным лякарствам: "адчэпнаю сольлю". Гэту соль заварочвае ў рознага колеру паперкі і выходзіць: што паперка, то іншае лякарства. У нас цёмны беларус і гэтаму рад. Во як ашукваюць нас розныя ведзьмакі і шаптуны, каторыя праз цемнату нашага народу набіваюць кішэні.

**Сьветлячок**

## "Меч Гедыміна" на касэтах

**Зьявіўся ў продажы відэафільм, прысьвечаны I Нацыянальнаму рыцарскаму турніру "Меч Гедыміна"**, што адбыўся 9—10 чэрвеня 2001 г. у Мядзеле на Меншчыне. Працягласьць фільму 25 хвілінаў. Цана касэты — 3000 рублёў.

## Словы старога Ольсы

**Лідэр гурту "Стары Ольса" Зьміцер Сасноўскі рыхтуе новы альбом — *"Verbum"*** (з лаціны — "слова"), працу над якім ён плянуе скончыць на пачатку году. У новым альбоме будзе ажыцьцёўленая спроба аднаўленьня сярэднявечнай традыцыі чытаньня тэкстаў. Урыўкі са "Слова пра паход Ігаравы" (на старaславянскай мове), Статуту ВКЛ (на старабеларускай), "Песьні пра зубра" (на позьняй лаціне), "Пана Тадэвуша" (па-польску) будуць чытацца на фоне гучаньня старажытных інструмэнтаў — гусьляў, ліры, дуды, лютні.

**Ігар Міхна**

**Цяпер ужо забыліся, што ажно да вайны 1914 г. падзел Эўропы быў вызначаны паводле Б.Дызраэлі: да Дунаю — Эўропа, а за Дунаем (у тым ліку Сэрбія, Румынія, Баўгарыя, Альбанія, Грэцыя) — Блізкі Ўсход. Польшчы, Беларусі і г.д. брытанцы зусім не заўважалі, бо Лёндан меў сымпатыі да расейскага імпэратарскага двара (эўрапейскага па крыві і выхаваньні!), захапляўся яго цывілізатарскай роляй на Ўсходзе.**

**На Заходнюю і Ўсходнюю Эўропу кантынэнт падзялілі "халодная вайна" і савецкія танкі на Эльбе пасьля 1945 г. Нядоўга пратрывалі *Цэнтральная* і *Ўсходняя Эўропа* па гарбачоўскай "перабудове" ды "аксамітных рэвалюцыях", бо, як толькі Польшча, Чэхія і Вугоршчына апынуліся ў *NATO*, падзел вярнуўся на кругі свае — проста *Эўропа* (гэта яны) і *Ўсходняя Эўропа*, альбо *Блізкі Ўсход* (гэта мы).**




Алесь Чобат

# БЕЛАРУСЬ У ЭЎРОПЕ

эсэ

## UNDERDOGI

Нашае "вяртаньне ў Эўропу" чымсьці нагадвае калянізацыю Амэрыкі. Спачатку Бостан зь Нью-Ёркам апанавалі англасаксы, для якіх каляністы наступнай хвалі — немцы альбо ірляндцы — былі *недачалавекамі*, "падсабачнікамі". Потым палякі й украінцы былі такімі ж недачалавекамі адносна немцаў з ірляндцамі. Нарэшце, пуэртарыканцы і другія "лацінасы" выявіліся недачалавекамі адносна палякаў. Цяпер "падсабачнік" адносна пуэртарыканца — гэта "выхадзец з былога СССР"...

Тое самае зь "вяртаньнем у Эўропу". Спачатку палякі, чэхі і вугорцы. Потым славенцы, харваты і славакі. За імі эстонцы, латышы і літоўцы. Пасьля румыны з баўгарамі. А вось украінцы, беларусы, сэрбы, македонцы і ўся Расейская Фэдэрацыя — гэта па-ранейшаму нават не "падсабачнікі", але *Блізкі Ўсход*.

## РАСЕЯ

Нам абрыдла *ўласная самарусіфікацыя*, якая сталася незваротнай, нас душаць начамі кашмары. Што будзе зь беднымі беларусамі, калі расейскі драпежніцкі капітал іх прыватызуе? Беларусы проста ўпэўненыя, што з прыватызаванага прадпрыемства многія павылятаюць... А як жа ж! Бо мы ўтрох адну лямпачку закручваем — адзін стаіць на падстаўцы і трымае лямпачку, другі тую падстаўку круціць, а трэці бегае вакол і махае рукамі, каб роўна заходзіла...

Без расейскага капіталу беларуская гаспадарка проста лясьнецца. Ёй грошы патрэбныя. А грошы ня маюць нацыянальнасьці.

Расейская Фэдэрацыя пачатку XXI ст. і Расейская Імпэрыя канца XIX ст. — гэта *дзьве розныя дзяржавы*. А без "імпэрыялізму" Расея *рассыпецца*. І будзе не адна вайна ў Чачэніі, а дзясятак... паўсюдна.

А "расейскі капітал" не абавязкова ёсьць правадніком імпэрыялізму. Бо які ж гэты капітал "расейскі"? Пры той *глябалізацыі* нават брокер, маклер і злодзей не разьбяруцца, што каму належыць. "Газпрам" — гэта *не Расея*. "Газпрам" — гэта *"Газпрам"*.

## ПОЛЬШЧА

Польшча таксама даўно ўжо ня Рэч Паспалітая, *сухапутная імпэрыя*, якая стагодзьдзямі канкуравала з Масквой і Турцыяй за дамінаваньне на Ўсходзе. Польшча шчасьліва прайграла і па-за асобнымі рэцыдывамі амаль пазбылася імпэрскіх комплексаў. Адзін касьцёл спрабуе гуляць у місіянэрства на ўсходзе, вывучаючы па дарозе беларускую мову. А палітычная лінія яшчэ ад часоў Герка выразна павярнулася на *Захад*.

## БЕЛАРУСЬ У ПОШУКАХ МЕСЦА

Толькі цяпер, па дэкадзе 1991—2001, *усім* зразумела, што нідзе тая Рэспубліка Беларусь не падзенецца, бо нікому яна не патрэбная. Хоць ты СНД прыдумай, хоць "саюз чатырох", хоць "саюз з Расеяй"...

Гэтак званая *лібэралізацыя вярхоў* "антынароднага і таталітарнага" (толькі вярхоў, не райцэнтраў!) цяпер непазьбежная. Пачнуцца спацелыя і нудныя пошукі, чаго б такога *пазычыць* у пабітай апазыцыі (ад "першага БНФ" пачынаючы!) — з геапалітычных ідэяў, гістарычна-нацыянальных легендаў... А пазычыць там... няма чаго. *Настальгія там.* Дысэртацыі абароненыя і неабароненыя. "Позірк назад..." На свой уласны, трэба думаць.

А што наперадзе? З чым ісьці ў тую Эўропу? З калгасамі? Каго ўводзіць у *NATO*? Савецкіх палітрукоў? Чым гандляваць? Сыравінай? (Бо капраляктам, поліэтылен і сталёвы дрот — гэта для нас прадукцыя, а для Эўропы сыравіна!). Нарэшце, якія такія навуковыя, мастацкія і літаратурныя здабыткі прапанаваць можам? У якіх гатэлях і зь якой абслугай турыстаў прымаць зьбіраемся? Пытаньняў больш, чым адказаў... *Цывілізацыйны адрыў* беларусаў ад сьвету вылез бокам менавіта ў часы незалежнасьці. Калі няма больш ні савецкага, ні расейскага камуфляжу. Можа, таму і лямантуе апазыцыя дзікім голасам пра хуткую "інтэграцыю" ды "расейскую акупацыю", бо з тым камуфляжам нам усім было спакайней.

Беларусы шукаюць ня "месца ў Эўропе", а проста *спакойнага месца*. Перасядзець ліхі час і дурную свабоду.

## СПОСАБ ЭЎРОПЫ НА БЕЛАРУСЬ

Эўропа будзе займацца намі не таму, што *хоча*, але таму, што *мусіць*. Таму гэты інтарэс будзе сонны і нудны, доўгі й няўстойлівы. Цяперашнюю лінію паводзінаў, перадусім Польшчы і Нямеччыны, прагназаваць лёгка. Трэба мець кантакты зь Беларусяй, але не з "рэжымам Лукашэнкі". Трэба навязваць кантакты з той Рэспублікай Беларусяй у дробнагандлёвых гешэфтах (накшталт "Клаўсу" ў Лідзе). Трэба абяцаць, а часам і даваць дробную фінансавую дапамогу — экалёгія, інфраструктура, пазыкі пад імпарт *etc*. Але — старанна абмяжоўваць "палітычныя" кантакты — што з "рэжымам", што з "апазыцыяй". Бо колькі можна даваць грошы першаму, каб ён стаяў, а другой — каб яна ў працэсе змаганьня будавала сабе катэджы...

Эўропа цяпер зарыентаваная на "*разьмякчэньне*" тутэйшых парадкаў праз гаспадарчы ўплыў за *доўгі* час. Паўстане мноства фондаў, цэнтраў, катэдраў, будуць новыя і пэўныя рабочыя месцы для вечна галодных палітолягаў і сацыёлягаў *etc*.

Беларусь ня Сэрбія, а Лукашэнка не Мілошавіч. Беларусь не пагражае Эўропе грамадзянскай вайной і сотнямі тысяч уцекачоў. *Гніе паціху тая Беларусь — і няхай гніе.* Кожны мае права здохнуць так, як ён хоча.

Ад нашага беларускага *балота побыту* Эўропа спакойна адгародзіцца сваім *балотам бюракратыі*.

## СПОСАБ БЕЛАРУСІ НА ЭЎРОПУ

Нам Эўропа патрэбная больш, чым мы ёй. Эўропа патрэбная Беларусі проста *ад расейскага страху*. Раптам пераменіцца заўтра лінія ў Крамлі? Бо спачатку Расея з Амэрыкай зьнюхаліся, каб падняць "Курск", цяпер зьнюхаліся, каб разьмяняць Чачэнію на Аўганістан, а заўтра возьмуць ды зьнюхаюцца на нашым "невялікім калхозе"... Таму Эўропа патрэбная Беларусі як "*трэцяя сіла*", гатовая падтрымаць нашу "стабільнасьць". А нам, беларусам, трэба толькі давесьці, што менавіта наш вайскова-міліцэйска-калгасны лад і парадак адпавядае тут яе, Эўропы, сьвятым інтарэсам.

*Чым далей, тым болей немцы будуць прывабныя для беларусаў больш за амэрыканцаў, а палякі больш за немцаў.*

Такім чынам, беларускі спосаб на Эўропу — аддацца ёй у доўгатэрміновую арэнду. Але пад поўным кантролем "нашага правіцяльства". Альбо — мы чакаем, просім і клічам усіх. Але ўсе, хто трапіць у нашыя лапы, маюць *жыць і гуляць па нашых правілах*. Скажаце, так па ўсім сьвеце? Так. Толькі правілы гульні да таго розныя, што цэлы сьвет мае нас за ідыётаў, а мы ўважаем усіх за гультаёў-"таргашоў" ды імпэрыялістаў-зладзеяў.

Беларускі спосаб жыцьця вельмі просты. "*Нам і так добра...*" Гэць, маскалі і эўрасрулі!

## СПОСАБ РАСЕІ НА БЕЛАРУСЬ

*Новай Расеі*, яе Пуціну, Касьянаву, Кудрыну і Грэфу, існаваньне незалежнай Рэспублікі Беларусі *надзвычай* карыснае. Не "паглыбленьне інтэграцыі" ў галаве, ня ціхае паглынаньне яе з сувэрэнітэтам разам, а менавіта *аддаленьне*, "мацаваньне" таго сувэрэнітэту. Тут ня ў сораме за такую вясковую маньку-сяброўку справа, а ў тым, што *новай Расеі* Рэспубліка Беларусь патрэбная як *стары Савецкі Саюз*. Каб было каму плакацца расейскім бальшавікам-пэнсіянэрам, каб было з кім сябраваць расейскім правінцыйным "бацькам" накшталт Кандраценкі ці Старадубцава. Каб жылі яны ў замілаваньні тым аскалепкам СССР, жылі толькі ў ілюзіях і мроях, што ўсё "яшчэ вернецца" — як абяцаў вярнуцца фраер, якога скінулі зь дзявятага паверху. Каб у той новай Расеі *ціха і гладка* новы лад усталёўваўся — без калгасных сабатажаў, шахцёрскіх страйкаў, правінцыйна-сэпаратысцкіх *ГКЧП*, генэральскіх змоваў пад небам Чачэніі. *Няхай лепш гэтыя рэлікты глядзяць на Рэспубліку Беларусь і думаюць, што зараз так будзе ў Расеі.* А Пуцін, Касьянаў, Грэф і Кудрын, чые дзеці ўжо лепш гавораць па-ангельску, чым па-расейску, спакойна сабе дабудуюць прыстойны расейскі капіталізм. Трэба ж у рэшце рэшт давесьці справу Вітэ-Сталыпіна да лягічнага канца.

Другая расейская выгада існаваньня незалежнай Рэспублікі Беларусі ў тым, што ёсьць куды ўцячы фінансава-крымінальным зладзеям (маленькае Прыднястроўе ўсіх ужо не зьмяшчае!), якіх з самых розных прычынаў хапаць і судзіць расейскім уладам *нявыгадна*. Бо занадта шмат ведаюць. А забіваць *непрыгожа* — няхай ужо яны ў крайняй патрэбе "ціха зьнікаюць" у Беларусі. Бо Эўропа, як толькі зразумела, што людзі "ціха зьнікаюць" у Беларусі, адразу *забылася* на ціхія і не зусім тысячы сьмерцяў у Расеі.

Маленькая, але таксама выгада.

І трэцяя выгада — паколькі беларусы маюць сябе за працаўнікоў, а расейцаў за алькашоў і гультаёў, дык ад такога дурнога розуму згодныя рабіць за палавінную плату. Нават кваліфікаваныя будаўнікі, якіх толькі з Магілёва зьбіраецца да Лужкова ў Маскву блізка дзьвюх тысяч чалавек...

А дагледзець той *беларускі акварыюм* з прыручанымі рыбкамі для Расеі нядорага. Зразумела, пры добрых цэнах на нафту і газ ды салідным прафіцыце бюджэту, як сёлета. А калі дэфіцыт прыйдзе замест прафіцыту? Што ж, здохнуць рыбкі. Шкада, вядома, але такое жыцьцё.

## POST SCRIPTUM

Пададзеныя вышэй аналізы і высновы тычацца не часова актуальнага палітычнага ці гаспадарчага становішча, не канкрэтных моцных гэтага сьвету, але *самога чалавека*, ягонай псыхалёгіі. Бо няма нічога такога ўстойлівага на гэтым няўстойлівым сьвеце, як слабы маленькі чалавек.

# АБРАЗКІ абрЭзкі

Усю ноч вецер гістэрычна скавытаў і нечым грукаў знадворку па бляшаным падваконьні. А нараніцу па нізінках і зацішных месцах лёг першы сьнег, сьціплы і сарамлівы, як першыя палюцыі. Гэтак, як і ад першай хлапчуковай нечаканасьці, да паўдня ад яго амаль нічога не засталося, акрамя слоты і лёгкага шчымлівага ўспаміну — сарамлівага і прыемнага адначасова.

Зноў еду на працу на дабітым смуродным "Ікарусе". Здаецца, выхлапная труба выведзеная ў салён. Між іншым, першымі вынайшлі аўто-душагубкі бальшавікі, нацыянал-сацыялісты толькі "папулярызавалі" іх. І тое, што наша сёньняшняя ўлада выводзіць свой радавод ад НКВД і прэзыдэнцкай рэспублікі часоў Адольфа, падаецца цалкам лягічным. Хіба што нашыя аўтобусы-душагубкі забіваюць не за адну паездку, а больш марудна і "цывільна" — каму толькі бранхіт, каму астма ці сухоты, а каму і рак лёгкіх.

Рэдка заглядаю ў тэлевізар, а тут ізноў натрапіў на казань пастара з ЗША. Гэта і сапраўды амэрыканскі нацыянальны тэатар, як у беларусаў колісь батлейка, а ў японцаў кабукі. Каб яго ўспрымаць сур'ёзна, трэба верыць ня толькі у Бога, але й у слова, любіць яго — жывое, эмацыйнае, артыстычнае і адначасова вельмі рацыянальнае, лягічнае, нават мэркантыльнае, як сам амэрыканскі дух. Нам, што перажылі заняпад веры спачатку ў Бога, а пасьля — у камунізм, гэтага не зразумець, як кастратам не зразумець радасьці каханьня.

Жанчыны кормяць мужчынаў поліўкай, дранікамі, галубцамі, а мужчыны іх абяцанкамі: заўтра кіну піць, пасьлязаўтра прынясу заробак або парамантую кран, а там ужо хутка і дыван выб'ю. І чым важнейшы мужчына, тым больш ён абяцае, а самы важны ў нас вядома хто. Вось і наабяцаў міґдалаў нябесных. Але "жэншчыны" вераць. Аднак і я туды ж: замок парамантую заўтра, а сёньня вось — пішу...

Базарная гандлярка гароднінай, кабета няпэўнага веку зь сінім носам і бурачковымі шчокамі, "наяжджае" на суседа па прылаўку: "Што, што ты пра мяне сказаў?" Той пасьля кароткай паўзы: "Ну-у, што ты ... прыемная, сымпатычная жанчына..." Твар гандляркі расплываецца ў шырокай усьмешцы, і ў ім сапраўды зьяўляецца нешта жаноцкае.

Зіма — дзіўная пара, бо пераварочвае сьвет з ног на галаву. Найбольш гэта адчуваецца ў сьнежні, калі ад сьнегу зямля робіцца белай і чыстай, а неба, асабліва ў цёмныя піліпаўскія вечары, — пагрозьлівым і чорным. Грэшная, брудная зямля і сьветланосныя нябёсы часова мяняюцца колерамі, але чалавек ад гэтага не зьмяняецца, хіба толькі больш туліцца да цяпла і хаты, якая такой парою яму здаецца ледзь ня філіяй раю...

Тралейбус, як цяжарны прусак, задраўшы ўгору "вусы" і віхляючы на паваротах перагружаным азадкам, паўзе па вуліцы. На прыпынку з задніх дзьвярэй (іншыя не адчыніліся) ён выціскае некалькі пасажыраў, але яшчэ больш народу імкнецца ўбіцца ў ягонае чэрава. Камусьці гэта ўдаецца, і "таракан" пад натужнае скавытаньне рухавіка сунецца далей. Сярод шчасьлівых "прусачыных дзяцей" гэтым разам і я...

Ці то з галадухі, ці то ў пошуках папулярнага сёньня "экстрыму" ў лядоўні завяліся тараканы. Некаторыя зь іх, праўда, ня вытрымалі і ляжалі на дне дагары нагамі. Але ад тых, што выжылі і ўцяклі ад мяне, напэўна, пойдзе новая парода — халадастойкіх спрытных рыжыкантаў, як і ад тых беларусаў, што перажывуць эпоху А.Л. і чарнобыльскія выпрабаваньні.

**Васіль Аўраменка**

Сяргей Астравец

# Савецкае шампанскае

**1.**

А, па-сутнасьці, чым ёсьць чалавечае жыцьцё? У сэнсе арытмэтыкі. Простая сума нейкіх дзеяньняў, актаў, учынкаў, падзеяў, звычайных нават рухаў. Колькасьць авіяпералётаў, адпраўленых лістоў, прачытаных і напісаных кніг або, у рэшце рэшт, ужытых таблетак, гадзінаў сну ці гадзіньнікаў, якія меў, плюс — колькі разоў галіўся, завязваў вузел гальштука, укідаў бюлетэнь у выбарчую скрыню, колькі выпіў кубкаў кавы, келіхаў, кілішкаў, куфляў. Як калісьці ў войску два гады вымяраліся колькасьцю зьедзеных яек, даўжынёю "шнура" складзеных разам кавалачкаў масла, прыкладнай лічбай выкарыстаных цюбікаў зубной пасты і бляшанак ваксы.

Лета-лета! Абмаляваць бы яго смак, водар, ягоныя гукі. На паперы. Каб адпачыць ад рэчаіснасьці. Адвечнае жаданьне. Аднак у сьпякотнае надвор'е звычайна нічога не атрымліваецца. Нібыта сядзіш за рулём, а рухавік ніяк не заводзіцца. Не хапае іскры. Не выкрасаецца. Бездапаможнасьць, якой ніхто ня бачыць. Бясплённасьць, пра якую ніхто не падазрае. Марнасьць, ад якой нікому, зрэшты, ніякай шкоды. Файнае ўвогуле лета! Лагодны чэрвень, затым цеплыня, моцныя, звычайна вечарова-начныя, дажджы. Зьверху з акенца пад чырвонай дахоўкай назіраеш за людзьмі, сабакамі, машынамі. Сочыш за пульсам дажджу, за колерам неба, за маланкамі. За тым, як хутка макрэе чарапічны дах і мыюцца пад цёплым дажджом галубы.

Жыцьцё ў "даўн-таўн", а ня ў спальным раёне. Неба і зямля. Усё зьмянілася. Жыцьцёвы радыюс зьменшыўся да мінімуму. Вымяраецца адлегласьцю некалькіх соцень мэтраў. Амаль усё побач. Супэрмаркет, кнігарня, фатакрама. Пяць-шэсьць прадуктовых, пошта, банк, установы, цырульня, газэтныя шапікі, касьцёл. Кавярні-півярні. Нават кінатэатрык ("Халодныя закускі" Бэртрана Бліё, "Пустэльня чырвоная" Антаніёні), драмтэатр, аптэка, большасьць гарадзкіх помнікаў. I ў гэтай частцы гораду, у ягонай сярэдзіне, бадай што тры прыемныя месцы. Пэнтхаўз з катом і кнігамі, катэдра з Маткай Боскай і, магчыма, дом зь бел-чырвона-белым языкастым сьцягам на фасадзе. Стары, але няўтульны дом. Нечаканы сьцяг, быццам гэта кіно.

Сёньня мяне ўжо ня дзівіць, што нават людзі сталыя ўпарта лезуць у горы або ў пячоры, у мора. Сядаюць у кашы паветраных шароў, выпраўляюцца ў самотнае плаваньне Магеланавымі шляхамі, лётаюць на "Фэрары". Усяляк рызыкуюць. А нырцы па пэрліны, а карыда?! Хаця не. Я заўжды на баку быкоў. Іншая рэч — таксама гішпанскія ўцёкі ад быкоў па вуліцах. Кожны мае права на рызыку, якая здаецца меншай з-за вялікае колькасьці ўдзельнікаў. I галоўнае, ніхто нікога не забівае адмыслова. А выступы матадораў, наадварот, як глядыятарскія баі — абавязкова кроў, абавязкова сьмерць. Мне заўжды было непрыемна, што адзін сусьветна вядомы пісьменьнік вельмі любіў назіраць, як людзі забіваюць быкоў на карыдзе. Вядома, я разумею ў ім пісьменьніка... Рамантыка небясьпекі. I звычайны бізнэс. Яны зараз абвясьцілі там страйк. Усе, хто мае дачыненьне да карыды. Ім забаранілі прадаваць мяса забітых на арэне быкоў.

**2.**

Пасьля сарака чалавек, дасягнуўшы або не дасягнуўшы сваіх мэтаў, аднолькава стамляецца, расчароўваецца, не знаходзіць болей сэнсу. Не заўжды, але часта. Штосьці залежыць ад жыцьцёвых абставінаў, штосьці ад тэмпэрамэнту. Але гэта — векавы, псыхалягічны, жыцьцёвы бар'ер. Даплыў да сваёй выспы пясочыстай пасярод багнаў, выпаўз, аддыхаўся, і ўсё. I што далей? Ратуе толькі тое, што можна выйсьці на вуліцу і сустрэць кагосьці, хто думае як ты і як ты пакутуе. Але таксама яшчэ трымаецца. Аніводзін з тых, каго апошнія дзесяць гадоў спатыкаю на брукаваных старых вуліцах, ня ўцёк. Нават дзіўна. Ужо дзесяць год прамінула! Яна зацьвіла як ружа. Мы спадзяваліся, што будзем цешыцца, што кветнік разбуяе. Што суседзі будуць захапляцца прыгажосьцю нашых кветак. Але пустазельле заглушыла далікатную расьліну, не заквітнела. Хаця мы спрабавалі як маглі палоць, палівалі, не баючыся калючак. Нас білі па руках, камусьці начаплялі кайданкі, трымалі па турмах. А кагосьці забівалі. Яны папросту зьніклі. Іх няма. На апошняй імшы ксёндз папракаў: адныя прыйшлі да Бога, чакаючы нейкіх даброт для сябе, а не дачакаўшыся, адмовіліся. Каго ён меў на ўвазе? На беларускай імшы ў катэдры няма дзе сесьці.

Маё рэпарцёрства. Займацца пстрычкамі, штось вынюхваць, высочваць, віжаваць. Заўжды быць напагатове, з наладаванай зброяй, з сухім порахам. Можна зрабіць нешта ў першай палове дня і быць далей вольным. Можна нават нічога не рабіць, папросту вычэкваць, быць напагатове, цікавіцца, бадзяцца па вуліцах, зазіраць у кнігарні, у крамы, ва ўстановы, у рэдакцыі, купляць газэты, слухаць радыёнавіны і музыку. Калі я раней марыў аб уцёках з газэтнага палону, аб літаратурных занятках, дык цяпер не. Я й так магу пісаць, што захачу, калі знаходжуся ў адпаведным стане, і гэты стан мала залежыць ад наяўнасьці вольнага часу. Калі ён зьнікае, яго даводзіцца чакаць падоўгу, як чагосьці надзвычайнага, прыкладам зацьменьня сонца. Газэты стамілі. Суды, забароны, зьмена шыльдаў. Зусім не сэзонная лінька, не безбалесная зьмена зьмяінай скуры. Газэты трацяць назвы, як мы — свае гады. Раней нашыя "Бацькаўшчыны" душылі варшаўскія ўлады, сёньня — менскія. Ну-ну, вышэй голаў! Рэпарцёрства, у рэшце рэшт, злучана з пачуцьцём свабоды.

Калісьці мне хацелася забыцца на палітыку і рабіць часопіс з прозай, эсэ, зацемкамі, з дыскусіямі і падарожнымі нататкамі. Вядома, гэта ня мог быць часопіс афіцыйны. Аднолькава плодныя ляўрэаты і графаманы. Члены Саюзу і кандыдаты. Сацрэалісты, аматары расейскасавецкай клясыкі і апалягеты сялянска-вясковай літаратуры. Толькі ня гэта! Хай лепей штодня шукаць, знаходзіць і паведамляць навіны. Кожны дзень — абавязак пісаць і пісаць шмат. Вядома, гэта ўрэшце вынішчае. Твая тысяча слоў ператвараецца ў абмежаваны лексыкон, у гэтак званую інфармацыйную мову. Каб толькі хапіла сказаць: дзе, што, калі? Літоты і сынэкдахі не патрэбны ні ў газэце, ні ў войску, ні на футбольным полі. Хаця я сам ніколі і не любіў моўных аздобаў. Праўда, заўжды шукаў адметных словаў у рэдкіх слоўніках. Але ўжо не шукаю. Газэтная мова, газэтныя апавяданьні. Газэтная сьвядомасьць і думкі. Уеліся ў мяне, як друкарская фарба ў далоні мэтранпажа.

**3.**

Адзін паэт уяўляў сабе Радзіму шыпшынай. Кветкі, плады дый шыпы. Яму дасталіся шыпы. Нам — таксама. Шыпы пераважаюць у самой нават назьве, зь іх усё пачынаецца. У двары любога ангельца, вядомая рэч, заўжды кветнічак, хоць на лапіку зямлі. Калі няма нават лапіка, кветкі выстаўлены ў гаршках на тэрасе, на ганку, на прываконьні. Нам чамусьці прапаноўваліся ў якасьці такога ўзору менавіта брытанцы, хоць ня можа быць лепшага прыкладу ад вэнэцыянскага — кветкі над вадою. Мы вярталі сабе сваю эўрапейскасьць, але з нас былі кепскія садоўнікі. Дворнікі ў ботах і фартухах зь мётламі ўсё зьнішчылі, засталіся калючкі, чартапалох. Кветнік зьменшыўся да прыватных памераў. У маім пэнтхаўзе вялікае месца займаюць калючыя кактусы, якія мне падабаюцца болей за звычайныя кветкі. Мы разам трываем, чакаючы лепшай будучыні. У пустэльні моўчкі марым пра аазыс. Крычаць няма сэнсу. "Марны лямант у пустэльні" — прыказка старая, як цывілізацыя.

Якое прыемнае трывала надвор'е! Негарачы чэрвень, цёплая, з залевамі, першая палова ліпеня. На пачатку лета нават зьлёгку адчувалася зьмена настрою. Гэта былі прыкметы не аптымізму, а толькі пэўнай навізны: нарэшце — выбары. Які ўжо аптымізм! Газэты перапоўненыя зьвесткамі пра "эскадроны сьмерці". Па вас аднойчы прыяжджае "хуткая дапамога", але зусім не з дактарамі, а зь дзяржаўнымі кілерамі. Іх утрымліваюць звычайныя падаткаплатнікі, нічога аб гэтым не падазраючы. Забойцы працуюць чыста, не пакідаючы сьлядоў. Файны быў фільм калісьці — "Матэль "Мядовы месяц". Нямецкі фільм пра жахі амэрыканскага жыцьця. У нас яго вельмі любілі. Нават я бачыў двойчы. Але большасьць нічога ня ведае і ня хоча ведаць пра ўсякія там "эскадроны сьмерці". Большасьць не чытае апазыцыйных газэтаў, зусім не чытае газэтаў і ўвогуле нічога не чытае. Яна п'е піва, кока-колу, "крывавую Мэры" і проста гарэлку і тэкілу, не зважаючы на сьпякоту. "Эскадроны сьмерці" бальшыні не пагражаюць. Бальшыня ходзіць па газонах, ужо не падобных да газонаў. Кветкі ёй падабаюцца штучныя. Вершаў яна не чытае і пра шыпшыну нічога ня ведае. Ёй лягчэй.

Лета дзевяноста чацьвертага. Мы ўпершыню выбіралі прэзыдэнта. Такое ж лета. Яно з адлегласьці ўяўляецца суцэльна сьпякотным. Але так толькі здаецца. На пачатку яго надарыліся вельмі мокрыя й халодныя дзянькі. Мы тады былі маладзейшыя і больш наіўныя, прынамсі, мелі тады яшчэ надзею. Тым летам я прачытаў "Невыносную лёгкасьць быцьця", якая мяне ўзрушыла. Сабіна была якраз у Хельсынках. Спачатку езьдзіла па літоўскую візу, потым у Вільню, каб прыдбаць фінскую. На сваё зьдзіўленьне, я ўбачыў, што мы зь фінамі жывем на адным мэрыдыяне. Раней здавалася, што яны ссунутыя кудысь на ўсход са сваёю Лапоніяй, дзе жыве Сьвяты Мікалай, якога самі фіны пачалі называць на модны лад — па-ангельску. Сабіна была ў Хельсынках, а я чытаў Кундэру і міжволі ўяўляў пэрсанажаў раману, якія апынуліся па розныя бакі калючага дроту, але мяжа мне ўяўлялася зусім не чэхаславацкая. Хацелася ня верыць, але я прадчуваў. Праўда, заканчэньне таго летняга раману было іншым, ня кніжным. Сабіна вярнулася ў той дзень ці на наступны. Калі ўсё стала вядома і памерлі ілюзіі. У летаку пад гуд прапэлераў пачула ад інтэлігентнай, крыху чапурыстай суседкі пагардлівае "выбралі... брыгадзіра". Ці штось падобнае.

Тады "Невыносная лёгкасьць быцьця", сёньня "Востраў Крым", які я толькі што прачытаў. Усё ж такі нейкая лёгкасьць, сымболіка ў нашых дзеяньнях часцяком праглядаецца. Прачытаць менавіта цяпер. Калі жаданьне аддацца Вялікаму Брату, справакаванае, гіпэрбалічна раздзьмутае, агучанае, размаляванае афіцыйнымі рупарамі, заглушае, душыць, забівае пачуцьцё ўласнае годнасьці, здольнасьць разважаць, зьнішчае адчуваньне самаабароны, даводзіць да трагікамічнасьці, да гістарычнага фарсу. Крыўда маленькага чалавечка за волата, якому не захацелі падначальвацца іншыя чалавекі. Неўсьвядомлена-эгаістычнае спадзяваньне на нейкі дармовы сыр. Патаемнае замілаваньне сабой: ніхто зь ім ня хоча, толькі я. Ах, "перадайце там, у Санкт-Пецярбургу, што... што жыве, маўляў, дзесь у правінцыі такі Акакі Акакіевіч, і больш нічога не кажыце..." Можна і безь літаратурных рэмінісцэнцыяў. Надуманая маральная адказнасьць за суседнюю імпэрыю. Багаты матэрыял для псыхолягаў, палітолягаў, для гісторыкаў і папросту псыхатэрапэўтаў! Любоў прыніжаных і зьняважаных бывае эгаістычнай, пачварнай, самаразбуральнай. З банальным заканчэньнем. У адказ на слабасьць (а самапрыніжэньне — гэта слабасьць), неба — бясхмарнае над усёй Гішпаніяй — засьмечанае крыжамі летакоў і парашутнымі дзьмухаўцамі. Захопленыя аэрапорты, памежныя пераходы, вайсковыя базы, а праспэкты запоўненыя, быццам статкамі няўклюдных мастадонтаў, калёнамі бранетэхнікі.

Мае скаргі самому сабе, маё расчараваньне ў газэтах тлумачыцца проста. Няма зрухаў. Цягаеш валун на гару, і нічога не зьмяняецца. Наадварот, усё заўважна горшае. Час пазбаўляе сілаў і жаданьня, а галоўнае — сэнсу. З кожным годам усё горш. Сем гадоў жыцьця — на змаганьне зь ветракамі! Але нічога іншага я ня ўмею, прафэсія — другая натура. Ходзіш па вуліцы з кепска прыхаваным неспакоем: а раптам дзе што здарыцца — і я ня буду ведаць. Альбо даведаюся са спазьненьнем. Стан штодзённага лёгкага стрэсу, быццам ты крыху нападпітку, — адрэналін чужаніцы ў напаўварожым горадзе, азарт паляўнічага. Ходзіш, спрабуючы вызначаць эмпірычна гарадзкую тэмпэратуру, ледзьве не на вока — напрамкі і моц ветру, імкнешся даведацца, у якой установе гатуюць якую страву: бочку дзёгцю з лыжкай мёду ці наадварот? Сёньняшняе мэню ведаць неабходна! Але толькі

казкі жыцьця

# Дрэва Жыцьця

Па вуліцы ў гурце засыпаных брудным сьнегам машынаў праехаў фургон *Coca-Cola*, упрыгожаны сьвяточнымі агеньчыкамі. На тралейбусным прыпынку тоўпяцца прыгожа апранутыя дзеці з падарункамі ў руках, сьвяточна размаляваныя дзяўчаты, паголеныя дзядкі — у хвалюючым прадчуваньні дзівосаў Навагодняй поўначы.

Штогод на трывожным зломе часу мы паказваем дзецям нашае запаветнае дрэва — Ёлку.

У час сьвятаў кожная простая, рытуальна ўпрыгожаная елачка ў нашым уяўленьні ператвараецца ў вялікі, магутны вобраз — Яркую Яліну (Дрэва Жыцьця). Уся ў сьвятле і агнях, яна асацыюецца з Геліясам і прыўкраснай Геленай (Аленай) — сымбалем Эўропы.

Елка — наша паўночнае вечназялёнае, спадчыннае Дрэва Жыцьця — зь мільёнамі роўных, цьвёрдых ваякаў-іголак. Суровае, як дуб, і вытанчанае — як сасна...

Тады ў глыбінях чалавечых душаў, скаваных ільдом гадоў і добра ўтрамбаваных, нешта растае і разьмякчаецца. У самых нетрах абуджаюцца старыя, дахрысьціянскія рэлігійныя ўспаміны. Гэта характэрна для людзей усяго сьвету, але асабліва для жыхароў Паўночнае Эўропы і Скандынавіі — радзімы сівых легендаў і арыгінальнага сьветаадчуваньня. Дзед Мароз (Уладар, Збаўца і Суцяшальнік) — правобраз караля Артура з 12-цю рыцарамі Круглага стала ("дванаццаць месяцаў", "круглы год"...)

Якая прыгожая сьвяточная Ёлка сёлета стаіць на Цэнтральнай, а каму — Кастрычніцкай плошчы сталіцы! Высокая, магутная (хай сабе і штучнастворанаяя, састаўленая ці ня з сотні лясных елачак: штучнасьць — прыкмета цывілізацыі й культуры!), упрыгожаная вэртыкальнымі й зьмейкападобнымі гірляндамі, якія ўвесь час дынамічна бліскаюць. Як урок нейкай "касьмічнае геамэтрыі" пра асноўныя мадэлі жыцьця!.. А вось гарызантальных гірляндаў на Ёлцы няма — адны вэртыкальныя і дыяганальныя лініі.



Самая "правільная" Елка стаіць у цэнтры Беларусі, а там на сьвяты поўна дзяцей і моладзі! Праўда, яна крыху падобная праз тыя сваё вэртыкальныя гірлянды да кактусу... Гэтая асацыяцыя тут да месца. Мая знаёмая распавядала, што сёлета на навагоднія сьвяты яны з дарослай дачкой за адсутнасьцю грошай упрыгожылі вялікі хатні кактус. Атрымалася надзіва незвычайна і вабна!.. Кактусы, таксама як і елкі, — гераічныя расьліны-ваякі пасярод пустэльні й абмежаванасьці.

Дзіва, што дзяцей некаторыя маладыя бацькі жартам называюць "кактусамі".

**Людка Сільнова**

сёньня. Заўтра будзе іншае, хоць і пад звычайным соўсам. Абрыдлы "масхарч".

## 4.

Мішэнь, намаляваная на грудзёх. Канцэнтрычныя чорныя колы. Надпіс: "Я — журналіст. Учора — Завадзкі, заўтра — я". Пікет. Усяго некалькі чалавек. Псыхалягічны бар'ер. Адно — рухацца сярод усіх, імкнуцца быць някідкім, не прыцягваць увагі, але заставацца ў людзкой гушчы незалежнай адзінкай. Іншае — зрабіць крок убок, адасобіцца навідавоку, зьвяртаць на сябе ўвагу. Узяць у рукі плякат, раздаваць улёткі, ператварыцца ў мішэнь. "Дзе Завадзкі?" "Дзе-дзе...", — кпяць два мажныя з голенымі галовамі. Самы распаўсюджаны, бадай, вулічны тыпаж. Быццам у турме на Савецкім пляцы вакацыі. Такія сядзяць за столікамі вулічных бараў, зь півам, з "Мальбара". Вечна самазадаволена жуюць і слухаюць "Бі-эй". Яны кіруюць лімузынамі і джыпамі. Цэлыя статкі, спыненыя сьвятлафорам. Калі пераходзіш скрыжаваньне, міжволі бачыш іх бакавым зрокам. А шумныя вясельлі, якія заваблівае стары горад?

...У незалежнай газэце замовілі майкі з надпісам, бядуюць, што замест чырвоных літараў атрымаліся цёмна-цагляныя: "Мы — за свабоду прэсы, а ты?" Пытаньне да натоўпу.

Журналісты ходзяць па садзе, абрываюць вішні. Вакол бегае гаспадарскі сабака, вялікі і чорны. На даляглядзе ў гарадзкім квартале высокі белы касьцёл зь зялёным дахам. Вядомы палітык запрасіў са сталіцы журналісцкую публіку, каб пазнаёміць зь сям'ёю і домам. Ён удзельнічае ў пачатку прэзыдэнцкага марафону. Улады і апазыцыя аднолькава адчуваюць, што ў яго найлепшыя шанцы, яны імкнуцца замоўчваць яго. Для палітыка горш не бывае. Ён дэманструе адкрытасьць і дэмакратычнасьць. Ён — іншы. Таму падабаецца журналістам. У гасьцёўні ён дае прэс-канфэрэнцыю. Плюс да адказаў на пытаньні — відэазапіс і аўдыё з пракурорскім лямантам дыктатара, які пагражае зжыць са сьвету гаспадара сустрэчы. Прыканцы — швэдзкі стол у пэнтхаўзе вядомага мастака, а пасьля грымотаў — на даху самага высокага ў горадзе будынку. Зьверху бачныя ўсе кварталы, храмы, толькі хаваецца ад вока ў цясьніне рака.



IREX-PROMEDIA

Як мы залежым ад адной даты, ад гэтай падзеі! Быццам скончыцца жыцьцё! Хацяяно, хутчэй, стане болей прыватным, адасобленым. Калі не атрымаецца нічога. Аднак ці магчыма гэта было раней, пры камуністах? Унутраная эміграцыя — так, была мажлівай, менавіта тады й узьнік сам паняцак. Але раней яна зьяўлялася пераважна, наколькі магчыма, няўдзелам. Яна была пасіўная. Сёньня, наадварот, можна жыць разнастайным і насычаным жыцьцём унутранага — нават і палітычнага — эміграанта. Можна нават крычаць крамольнае "Беларусь — для беларусаў!" Сёньня можна гаварыць. Гэта галоўнае дасягненьне апошняй дзесяцігодкі. Руйнаваньне Вяліканямецкага муру, скручваньне калючага дроту на межах. А тут — максымум, што ўнутраныя эмігранты не заўжды трапляюць за краты. Калі сядзяць ціха, зразумела. Інакш — арыштоўваюць, лупцуюць, судзяць і запраторваюць.

Ня рухацца, не зьяжджаць. Сядзець поседам. Ня страчваць пільнасьці. Боязь уласнай адсутнасьці. Які можа быць адпачынак, якія могуць быць курорты: мора, пальмы, пляж?! Сёлета гэта не для нас. Спачатку трэба перамагчы ці зрабіць усё магчымае. Паўторны сэанс уласнай наіўнасьці. Усё гэта ўжо было аднойчы. Што залежыць ад пісакі? Рэпарцёры — як франтавыя сувязісты. Але які вынік, калі нават сьцісьнуць зубы, злучыўшы часткі перацятага дроту, калі навіны будуць адмоўныя і безнадзейныя? У краіну, апанаваную перадвыбарным трымценьнем, перасоўваецца паўднёвы сквар. Абмежаваньне любой дзейнасьці, мінімум рухаў, адзіная думка — калі скончыцца? Адно жаданьне — перачакаць. Зьнясільваешся, нават нічога ня робячы. Мой даўні сябра заўжды раіў: зрабі ўсё, што зможаш, і трошкі болей. Гэта датычыла беларушчыны, літаратуры, жыцьця. Ён сам так і рабіў. Прыяцель на вуліцы будзе падрабязна, з захапленьнем апавядаць аб крымскіх уражаньнях: таннае віно, жабіны лапкі з салатай, купаньне ў дэльфінарыі.

## 5.

Лухта! Усё гэта лухта! Я не хачу болей! Колькі можна чакаць "залацістага яснага дня"?! Колькі цярпець? А калі жыць? Колькі можна?! Гэта немагчыма! Чаму іншыя могуць жыць як людзі? Ужо сёньня! Чым мы горшыя? Які тады сэнс? Вядома, нельга адразу з фэўдалізму ў камунізм. Нас калісьці вучылі так ці наадварот. Занадта часта паўтаралі. Але я ведаю, што сапраўды немагчыма. Не-ма-гчы-ма! Палякі — яны змагаліся. Змагаліся! За польскі касьцёл, за польскія школы, за польскае войска, а не за якоесьці — зь сярпом і молатам на чырвоных зорках. Каб я пісаў для адной рубрыкі — пра Беларусь праз сто год — я б напісаў. Напісаў бы, бадай, пра індзейскую рэзэрвацыю, пра гета. Пра квартал, Траецкае прадмесьце. Дзе ўсё па-беларуску — і ў цырульні, і ў краме, і ў ложку. І пра вёску — прыгарадны скансэн. Усе размаўляюць па-беларуску, нават у драўлянай цэркаўцы. А навокал паркан і ахова, як у чарнобыльскіх вёсках. Вось туды турыстаў будуць вазіць, дэлегацыі ўсякія. Мо тамака й жыць ніхто ня будзе, а будуць прыяжджаць, як на працу. Каб размаўляць па-беларуску для міжнародных прадстаўнікоў. Як сёньня акторы ў тэатры. Карыстаюцца службовай моваю. Або дыктары на тэлебачаньні, для якіх "шаноўныя гледачы" — суцэльная тарабаршчына.

Давядзецца сваё гета стварыць, акапацца у сваім пэнтхаўзе. Востраў Крым. Зрабіць лесьвіцу на паддашак. Бібліятэку туды, кабінэт, калекцыю керамікі. Кабінэтная эміграцыя. Замуравацца і пісаць эпапею. "Берасьцейскую крэпасьць-герой-2". "Руіны зноўку страляюць", працяг. "Нямігі крывавыя берагі", рэмэйк. Раман-цагліну. Будэнброкі. Некалькі пакаленьняў сямейнікаў ва ўнутранай эміграцыі. У пакоях толькі беларускія карціны і кнігі, любы надпіс, нават на бляшанцы з кавай, — беларускі. "У нас размаўляюць па-беларуску", — надпіс у інтэрнацкім пакойчыку са студэнцкіх часоў. Партрэты Макара Краўцова, Зыгмунда Нагродзкага і Аркадзя Моркаўкі. Не-не, зусім неабавязкова. Я, бадай, хацеў бы мець выявы Рамана Скірмунта і Максіма Гарэцкага. А таксама Скарыны. І Рымшы. Тэлескоп тамака паставіць. Каб разглядаць плянэты, якія маляваў Язэп Драздовіч. Раптам патрапіш разгледзець тамтэйшае беларускае жыцьцё, як пісаў ён калісьці. Беларускія гарады на Сатурнах і Месяцах, беларускія людзі, беларускія школы і храмы. Вар'яцтва!

А ці застанецца ўва мне здольнасьць пісаць, імпэт, жаданьне, унутранае гарэньне? Ці не засыпле ўсё попелам? Ці ня зьнішчыць вульканічным вывяржэньнем? Ці ня стану я чымсьці накшталт Пампэі? Ня ведаю, калі дакладна і як стваралі сваю літаратуру лацінаамэрыканцы. Напэўна, яны ажыцьцяўлялі свае кніжныя задумы пасьля, а не падчас панаваньня хунтаў. Толькі пасьля сканчэньня ўлады чорных палкоўнікаў, эскадронаў сьмерці. Улады злавеснага блазна. Альбо пісалі ў шуфляду. Шуфляда-шуфляда! Архаізм, ня выкарыстаны членамі цэху ў часы першай унутранай эміграцыі. Запозна. Зараз досыць будзе друкавацца ў Інтэрнэце. Дысыдэнцтва, супраціў рэжыму ў сусьветным Сеціве. Без паперы і друкарскага варштату, без падпольнага выдавецтва, без друкаркі, хаванай у лесе ў дупле дрэва.

І ў гэтым шчасьце. Нэндзнае беларускае шчасьце. Яны нас... Цэлыя саюзы пісьменьнікаў зьнішчалі, цэлыя акадэміі навук і ўнівэрсытэты. Вядома, гісторыя паўтараецца. Асабліва нашая. Але пакуль не пачнуць зьнішчаць масава, ссылаць у Сібір ці ў чарнобыльскую зону, беларусы нікуды не паедуць. Хоць потым можа быць запозна. Беларускі фаталізм. На эўрапейскім скрыжаваньні інакш ня можа быць. Краіна ў крыжы цэльніка. Арышты, зьнікненьні, эскадроны сьмерці. Пад літаўры бітвы за ўраджай, пад новаарыйскі базар, пад воплескі, якія ператвараюцца ў авацыі. Ура, ура блазнам, клоўнам, фіглярам! Ура цырку на дроце!

## 6.

Савецкі пляц апанаваны галасам. Вясельныя кавалькады гудуць — хто мацней! Яны некалькі разоў аб'яжджаюць пляц па коле і спыняюцца ў сярэдзіне. Вонкі выбіраюцца маладыя, сьведкі, дружкі, сваты. З шырокімі стужкамі цераз плячо, быццам перадавікі жніва і пераможцы сацыялістычнага спаборніцтва. З багажнікаў вымаюцца гронкі бутляў з савецкім шампанскім. Пырскі, пена. Публіка радасна п'е, абліваючы машыны й асфальт. Парожнія пляшкі не хаваюць назад. Не! Іх стаўляюць на дол, стараючыся пакінуць чым болей. Навідавоку ва ўсяго гораду! У каго болей шыкоўна атрымаецца. Астатнія вясельлі чакаюць свае чаргі, каб хутчэй адкаркаваць, выпіць шампанскага савецкага, папазаваць побач з маладымі на фоне навакольнай забудовы — сталінскага палацу з калёнамі, старасьвецкіх камяніц, вялікага касьцёлу, шэрых хрушчовак. Пырскі шампанскага! Абавязкова "савецкага". У проста шампанскім нібыта няма бурбалак, настальгічнага прысмаку, адчуваньня салюту.

З шырока расчыненых касьцельных дзьвярэй выходзіць вясельная пара са сьвяточнай публікай. Велічна й прыгожа яны спускаюцца да аўтамабіляў. Міжволі мне думаецца, што яны ня будуць шампанстваваць побач з касьцёлам на пляцы. Я іду далей па Замкавай, у бібліятэку імя акадэміка Карскага. Ён напісаў "Беларусаў", якіх чакалі дзесяцігодзьдзямі і якія толькі што зьявіліся ў кнігарні. У канцы вуліцы, перад скрыжаваньнем, дзе славутая пажарная вежа, побач з брамай былога палацу Храптовічаў, ужо стаялі цугам вясельныя лімузыны і хадзілі дзядзькі са стужкамі на плячах. Перад пажарным дэпо таксама спыніўся картэж. Яшчэ адзін — з бліскучых мэрсэдэсаў — на пад'езьдзе да замкаў, а самы апошні — паміж замкнёнай брамай Новага і арчатым мостам, які вядзе ў Стары замак. Гэта былі новыя белыя "волгі". На замкавым падворку налівалі шампанскае ў плястыкавыя шклянкі, публіка імкнулася пад шырокія афрыканскія кроны нізкіх дэкаратыўных дрэваў. Калісьці пад імі бавіліся каралеўскія прыдворныя, а нядаўна піў піва за столікам, хаваючыся ад гарачыні, польскі консул Сыльвэстар Шостак.

Крыж аконны, густа-чырвоны, перасунуўся з партрэту нейкай дабрачыньніцы ці сьвятой на апостала. Сьвятая, напэўна, ня проста мнішкай была, а настаяцелькай, мяркуючы па яе шатах і капюшоне, па крыжы на грудзёх. Жоўтыя кветкі перад расьпяцьцем ад сьпёкі пачалі вянуць. Ззаду, за лавамі, недзе пры ўваходзе дурэлі дзеці. Ксёндз нагадваў словы Эвангельля і раздаваў аплаткі. У касьцёле было амаль гэтак жа горача, як на вуліцы. Усе дзьверы трымалі адчыненымі. Ксёндз прамаўляў без асаблівага энтузіязму, яму таксама было горача. Ён гаварыў на вядомую, але ня самую частую ў казанях тэму. "Грукайце і адчыняць, прасіце і атрымаеце". Потым было павучаньне, што мы ня ўмеем маліцца і ўвогуле лянуемся. Перада мною, увесь час укленчыўшы, апантана маліўся з ружанцам у руках мужчына сярэдняга веку, даволі работніцкага выгляду. Яму, падобна, мала абыходзілі словы пастыра.

Набажэнства распачалося з лагоднай арганнай мэлёдыі. Усе ўзьняліся з лаваў. "У імя Айца, Сына і Духа Сьвятога. Амэн. Вызнаем асновы нашай веры". І прысутныя сталі паўтараць за ксяндзом... Вады ў купелі было наліта даволі. Ногі расьпятага нагадвалі ногі лялькі з пап'е-машэ, фарба сьцерлася плямамі. Яны здаваліся зьлёгку спацелымі ад сьпякоты і вільготнасьці. Я нават адчуў гэта, калі дакрануўся вуснамі перад выхадам. Сьледам за ўсімі да шэрагу легкавікоў, якія сталі перад касьцёлам, па высокіх сходах спусьціўся ксёндз. Зь ім ішоў служка з мэталёвым вядзеркам са сьвятой вадою, якое ён трымаў аберуч. Сямейнікі, якія прыяжджалі на імшу, сталі кожны асобна ля дзьверцаў машыны. Усе былі ўрачыста-паважныя. Ксёндз Тадэвуш лёгкім крокам рухаўся ўздоўж аўтамабіляў і неяк вясёла густа апырсківаў іх і вернікаў, кожнага разу мачаючы ў сьвятую ваду свой касьцельны квач. На добрую дарожку. Памагай Божа!

**Скончана 31 ліпеня 2001 г.**

## Спадару Начальнік “Нашай Нівы”!

Ну, вось ён і настаў — год-паліндром, з магічнаю лічбаю, якая “здаўна прысутнічала ў сьвядомасьці нашага народу”. Ну, вось вы акурат і даказалі, што ў гэты год, калі што зь пераду ў зад, што, надварот, з заду ў пярод — аднолькава астральна і сымбалічна! А тым часам з маёй Шахеразадай уперліся ўсімі чатырма капытамі — і ні ў зад вас ні ў пярод! Вось і паважаны В.Ж. піша, што калі-небудзь прыйдзе новы мэсія і перакуліць сьвет па-новаму. А што, калі, можа, ён ужо й прыйшоў?... Задумайцеся!... Бо ваш лягатып (НН) — таксама паліндром, толькі дужа прымітыўны, але інтуіцыйна — вы на правільным шляху, і мысьліць астральна можаце, калі вам прысьпічыць... Бо —

**з Вамі Ваш Граждан**

## Паважаны сп.Начальнік газэты “Наша Ніва”!

Рашыцельна вазмушчон злапыхацельскім камэнтарам рэдакцыі што да прэміяў Клешчуку й Баразьне. Хоць можна й зразумець вас: баразну кладзе газэта, а прэмія — Баразьне! Кажаце,“НН” раіла дзяржаве даць фатографу дзяржаўную прэмію? А далі — прэзыдэнцкую! А дзеткі мае, гэта ж гатоўкай куды больш, такога з калена ня выламаеш, ня тое што вашыя ганарары — рублёўкі ў кішэні празь дзень ня вымацаеш! Вам бы радавацца, што ваш аўтар на дурніцу на гелікоптэры пакатаецца й на ласкавым хлебе папасьвіцца, бо з вашай ласкі й заціркі не закрасіш. А я от рады і за Толіка, і за Лёніка. А каб ня вы — і сам бы ў іхнай кампаніі бавіўся.

Я ж пісаў вам, што я даўні сымпатызант прэзыдэнта, што мая “Шахеразада” — вешч сугуба прапрэзыдэнцкая, народу палезная. Каму ж яшчэ й выстаўляцца на прэмію, як ня мне. А! — няхай вам у жывот, як вы мне нашчырылі, што няма за што й дзякуй сказаць, — не апублікавалі... А я ж, напэўна, і Дударава абышоў бы, і, значыцца, дадаў бы не абы-якой глёрыі вашай газеце, і ўжо ж вам ня сорамна было б, і ня білі б вы запозьненька ў хамут, і не задавалі б тугі сэрцу — цяпер жа стаміўся я з вамі, дзеткі мае, звонкай песьняю зьвінець!

А от жа — дурны быў бы той Дудараў, калі б адмовіўся. Каб жа ж вы не даждалі! А ты, Алёша, лабузяю мой пекны, — пакуль ты зяць пад гарнітур, дык ня будзь як той Лёша з батонам, а будзь хітры, як зьмій, і трымай сваю хвігу ў кішэні, не станавіся ракам буквай “пы” і скажы ўсім клявешчушчым: а ідзіце вы, міленькія, пад халер’ю! — і бяры, як што даюць, бо то ж даганяць і дадуць з разьбегу.

**З радасьцю за лёсам аблашчаных — Граждан**

## Ад Сабакі

Ай, не сьмяшыце вы народ вашай іроніяй нашчот Дударава і вашага фатографа! Быў і я на той калядной імпрэзе. Сядзеў пад крэслам якраз перад прэзыдэнтам — ахраняў. Але ўсё бачыў і рыхтык усёўсенька чуў. Душа мая сьпявала й танкаструнна галасіла ад васторгу! Сьпявала, скакала, грала на скрыпках і ў дудкі дудзела беларуская творчая інтэлігенцыя! І па-італійску, і па-французску, і па-ангельску, і па-гішпанску, і, вядома ж, найбольш па-расейску, а “Камэрата”, мабыць, каб дагадзіць Філарэту, нават беларускую калядку згалёкала!

Каму-каму, а ўжо мне, Сабаку, інтэрнацыяналісту па пародах, ясьней ясната божага дня, што канцэрт удаўся. І зладзіла яго інтэлігенцыя. Я, Сабака расейскай лягавай пароды, проста душой адпачываў ад гэтай вашай беларушчыны. Ну, каб яшчэ ня тая лядашчая калядка...

А вы мне ў вашай газэці не пішыце, быццам прэзыдэнт пафліртаваў з інтэлігенцыяй. Кіньце пустое, бо гэта ж яшчэ падзівіцца сьлед — хто з кім фліртаваў. Прэзыдэнт толькі мазгавыя косткі раздаваў, а на лапах хадзіла, служыла і калядныя ігрышчы бавіла — мы, сабакі, так ня ўмеем — творчая інтэлігенцыя, і “Многая лета” ня Пушкін вазглашал, а яна, ваша роднеенькая. Вось і мне — сабачая радасьць была!

Паклон вам да сырой зямлі,

**Ваш Сабака**

## Ліст у рэдакцыю

Бачыў я па тэлевізары, як выступаў спадар Прафэсар. Ну, ведаеце, сам Прафэсар, а што ўбіў, то ўехаў! Выступае і будзе мне даказваць, што ўсе аднаяйкавыя блізьнюкі — гэта клоны. Ізлагае красамоўна й велягуряста, што, значыцца, у навуцы — усё маральна й этычна, тым часам, як мараль была, як вядома, толькі ў савецкай навуцы. А што думаюць на гэты самы конт Віця Шніп ды самая бескампрамісная ў пытаньні Шахеразады газэта “Наша Ніва”? Бо нешта сумневы бяруць. Растлумачце мне, саўковаму рэтраграду, як гэтыя блізьнюкі-клоны ўпраўляюцца аднымі яйцамі на дваіх, — калі па вочарадзі, дык хай яе халера з такой навукай і такой маральнай інтэграцыяй.

Я пакуль што застаюся саўком,

**Ваш Граждан**

## Прыватная абвестка

Віншуем спадара Начальніка газэты “НН” і Віцю Шніпа са Шчадрухай, з Абразаньнем Гасподнім і Вадохрышчам. Ва ўсім бярыце сабе за прыклад Госпада — і шчасьць вам, Божа, у дарозе!

**Граждан, Сабака, Лысы, Прафэсар, Еръ, Херъ і група Таварышчаў.**



УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

## United World Colleges

Беларускі камітэт каледжаў міжнароднай супольнасьці абвяшчае конкурс на атрыманьне стыпэндыяў у Міжнародных каледжах у Нарвэгіі й Італіі, а таксама на ўдзел у міжнародным сэмінары па прадпрымальніцтве “Бізнэс-тыдзень” у Цэнтральным вашынгтонскім унівэрсытэце (ЗША).

У каледжах выкарыстоўваецца сыстэма міжнароднай перадунівэрсытэцкай адукацыі *IB* (*International Baccalaureate*, Міжнародны Бакаляўрыят), разьлічаная на два гады навучаньня. Дыплём *IB* дае права на паступленьне ў ВНУ большасьці краінаў сьвету. У сэмінары “Бізнэс-тыдзень” бяруць удзел прадстаўнікі вядомых кампаніяў штату Вашынтон, такіх, як “Боінг”, “Майкрасофт” і інш.

Галоўная мэта Каледжаў міжнароднай супольнасьці — усталяваньне ідэалаў міру, талерантнасьці й супрацоўніцтва паміж моладзьдзю розных краінаў праз адукацыю. Кожны студэнт каледжу зьяўляецца прадстаўніком сваёй краіны і павінен як мага больш паведаміць пра яе сваім сябрам па вучобе больш чым са 150 краін. Таму, апроч трывалых акадэмічных ведаў, кандыдаты павінны выдатна ведаць беларускую мову, гісторыю і культуру Беларусі.

Век абітурыентаў — 16–17 гадоў (16 гадоў павінна споўніцца да 1 верасьня 2002 г.).

Конкурс адбываецца ў тры туры. На першы тур абітурыенты павінны даслаць да 15 лютага 2002 г. заяву, пазначыўшы свой адрас, кантактны тэлефон і нумар школы, даведку аб стане здароўя, ліст пасьпяховасьці за мінулы і гэты навучальныя гады, зьвесткі аб удзеле ў вучнёўскіх алімпіядах, мастацкай самадзейнасьці, спартыўных сэкцыях, копіі грамат, дыплёмаў, публікацыі ў прэсе і іншыя дакумэнты, якія сьведчаць пра навуковую і творчую дзейнасьць.

Пераможцы будуць выкліканыя на другі тур, дата і ўмовы якога ім будуць дасланыя.

Камітэт запрашае ўсіх, каго зацікавіла гэтае паведамленьне, наведаць прэзэнтацыю Каледжаў міжнароднай супольнасьці і Бізнэс-тыдня, якая адбудзецца падчас Дня адчыненых дзьвярэй у Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа 15 студзеня 2002 г. у 14.20 па адрасе: Менск, вул.Кірава, 21. Тэлефон для даведак: 227-32-77.

Дакумэнты на конкурс просім дасылаць на названы адрас з пазнакай “Конкурс”.

Камітэт шукае спонсараў для падтрымкі сваёй дзейнасьці.

## КОШТЫ

**на платныя прыватныя абвесткі (для прыватных асобаў, на старонку 16):**



**Рэклямныя расцэнкі:**

— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 228 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 288 руб.
— афармленая абвестка — 144 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 186 руб. за 1 кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, рэдакцыя газэты “Наша Ніва”, 220600, Менск, вул. Калектарная, 20-а, п. 2-а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ “Белінвэстбанк” Менску, код 763. **На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары “Для пісьмовых паведамленьняў” запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: “За рэклямныя паслугі”.**

## Прыватныя абвесткі

### вітаньні, кантакты

**Маці Сакрата**, Лекарку, Мусіка Тацяну Водзіч віншуем з Днём народзінаў! Мы цябе любім! Ты — самая лепшая. Сям’я

**Найлепшую лекарку-беларуску спн.Водзіч** віншуем з народзінамі. Думай і пра сваё здароўе. Аматары піва

**Віншую з Днём нараджэньня** яснавяльможнага пана Ўладзімера Сабалеўскага! Зычу ўсяго найлепшага! Т.Т.

**Месячык наш сьветлы, Надзейка!** Добра, што ты ёсьць! З Днём нараджэньня. Маці Вера, бацька Сяржук

**Беларусачка Надзейка**, табе 19 год. Віншую! Часьцей усьміхайся. Дзядуля з вул.Каліноўскага

**Прыгажуня нашая Надзейка**, з Днём нараджэньня. Сьветлага неба бяз хмар. Малахаў-старэйшы

**Унівэрсытэтачка ўнучачка Надзя!** З Днём нараджэньня! Беражы сябе. Да дыплёму далёка. Бабулі Зіна, Лідзія

**Хлопец** (25), в/а, шукае сябра да 20 год. Захапленьняў шмат. а/с 71, Менск-73, 220073

### ідэі

**Бог любіць Беларусь** і хоча, каб яна квітнела. Малады Фронт ладзіць курсы вывучэньня Бібліі. Штоаўторак, 17.00, Варвашэні, 8

**Бог цябе любіць!** Пакайся ў імя Хрыста — і будзеш збаўлены. Хіт

**Беларусь — у Эўропу!!!** Далучайся да нацыянальнай кампаніі Маладога Фронту. Менчукі

**“Беларуская форма — хрысьціянскі зьмест”** для любое нацыянальнае справы! Нацыянальная Ідэя

**Беларусь — для Хрыста!** Беларусь пад сьцягам Хрыста! Хрысьціяне Беларусі, будзьма разам! Хіт

**Куды зьнік Юры Захаранка**, міністар унутраных справаў Беларусі ў 1994—96 г.?

**Нацыя адродзіцца** тады, калі кожны Беларус адродзіць у сабе пачуцьцё годнасьці і шляхетнасьці! 207-00-00, аб.4979 (Белы Легіён)

**Дапамагу пачаць** сваю справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: а/с 122, Менск-89, 220089

### кватэра

**Ахайная беларуская сям’я** з 3-х чалавек тэрмінова здыме кватэру на доўгі тэрмін. Т.: 278-47-77 (Юля)

### кнігі, музыка

**Беларускі кнігазбор** — Цётка. “Выбраныя творы” — 18-я кніга сэрыі. Найбольш поўнае выданьне. Набывайце. Т.: 220-70-27

**Беларуская музыка ў Бабруйску** — касэты і кампакты. Замовы праз т.: 58-33-10 (паклікаць Алёну)

**Беларуская музыка** і відэа на Гарадзеншчыне: Дзятлава: 2-40-70 (Руслан Франюк), Шчучын: 2-57-57 (Васіль Бязьмен), Горадня — на выставе “Ў Міхельсона” (штопанядзелка і штосерады па вул.Маркса, 11, з 17-й да 20-й), праз пошту: а/с 62, Горадня-3, 230003; e-mail:michelson@tut.by

**Запісы гурту “Стары Ольса”** — “Келіх Кола”, “Вір”, іншыя запісы, відэа, аўдыё, паштоўкі, значкі. Т.: 220-68-74 (у будныя дні)

**Набуду кнігу Яна Чачота** з сэрыі “Беларускі кнігазбор”. Т.: 283-27-34

### спачуваньне

**Выказваем спачуваньне** мастаку Алегу Карповічу ў сувязі са сьмерцю бацькі Івана Карповіча, беларускага паэта

---

*Віншуем Алену Казлову й Валерку Булгакава з нараджэньнем дачушкі Міраславы.*

*Рэдакцыя*

---

**Беларускае відэа, аўдыё, CD у Гомелі:** Піянэрскі сквэр (ля цырку) — штонядзелю да 13.00, штодня — праз. тэл. 45-11-51

---

**Прадаю:**
Кнігі — поштай: М.Раманюк “Беларускія народныя крыжы”, З.Пазьняк “Глёрыя Патрыя”, зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. і інш.
Вышлю каталёг: 220030, Менск-30, а/с 195, Яну; http://book2002.narod.ru; jancit@tut.by; Тэл.: 258-43-54.

---

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

**Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537**

Тэкст ______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________
Адрас, тэлефон ______________________________

---

## Наступны нумар “НН”

**выйдзе 25 студзеня, у пятніцу.**
Бо “НН” выходзіць у пятніцу. **У Менску ў продажы — з чацьвярга абеду.**

**У нумары:**
- 100 дзён ураду Навіцкага. Аналіз і ацэнкі
- Ахвяры зімы: тэма нумару
- Эсэ Уладзімера Арлова “Па сьлядах князя Жыгімонта”


**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары “Нашай Нівы”:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**



Спасылка на “Нашу Ніву” абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”. Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.
Наклад 3832.
Нумар падпісаны ў друк 17.01.2002.
Замова № 308.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а